# АДНА З ЛЕПШЫХ

Вялікі знаўца чалавечай душы драматург Шэкспір тэму кахання закранаў у сваіх творах часта і ў розных аспектах, але, мабыць, з асаблівай вастрынёй і глыбінёй раскрыў яе ў трагедыях «Рамэо і Джульета» і «Антоній і Клеапатра». Гэтыя дзве трагедыі — ранняя «Рамэо і Джульета» і позняя «Антоній і Клеапатра» — з'яўляюцца як бы полюсамі шэкспіраўскай распрацоўкі тэмы кахання. Каханне юных Рамэо і Джульеты ўспыхнула адразу і зблізіла іх з неадольнай сілай, і парваць іх адзінства магла толькі смерць. Жыццярадаснасць, светлы каларыт гэтай трагедыі, хараство і выключная шчырасць пачуццяў маладой пары, узнятыя на ўзровень ідэалу, даюць нам прыклад непарушнай вернасці. Рамэо і Джульета паміраюць героямі, нічым не запляміўшы свайго жыцця. Трагедыя «Антоній і Клеапатра», напісаная на гістарычны сюжэт, з рэальнымі людзьмі і падзеямі, паказвае сувязь асоб немаладых — праслаўленага рымскага палкаводца Марка Антонія і егіпецкую царыцу Клеапатру, якія бралі ад жыцця ўсё, што хацелі, асалоду і раскош, і ў каханні знаходзілі вяршыню шчасця. Каханне ў іх пакутлівае, супярэчлівае, розум змагаецца з пачуццём, але апошняе ўрэшце перамагае. Жыццялюбы, яны праклінаюць лёс, шукаюць сабе ратунку і, калі ўсе спосабы абароны вычарпаны, забіваюць сябе. Іх смерць не выпадковая, і ў гэтым яе павучальнасць. Падзеі, разгорнутыя ў трагедыі, прыпадаюць на другую палову першага стагоддзя да нашай эры, на перыяд станаўлення Рымскай імперыі, перыяд бурны, багаты калізіямі. Такою ж багатаю на калізіі з'яўляецца і гэта адна з лепшых шэкспіраўскіх трагедый. Прытрымліваючыся ў асноўным «Жыццеапісанняў» гісторыка Плутарха, Шэкспір ускладніў і ўдасканаліў характары дзейных асоб, зрабіў іх жывымі, канкрэтнымі, надаў ім значнасць, а іх мове паэтычнае гучанне. Яркая вобразнасць, цікавыя думкі, вострыя маральна-этычныя праблемы, закранутыя ў трагедыі «Антоній і Клеапатра», робяць гэты твор актуальным і зараз. Ён не сыходзіць са сцэны, а яго філасофская сутнасць ужо некалькі стагоддзяў узрушвае чалавецтва.

*Ю. Гаўрук*

## АСОБЫ

Марк Антоній
Актавій Цэзар
Марк Эмілій Лепід — трыумвіры.

Секст Пампей.

Даміцый Энабарб
Венцідзій
Эрос
Скар
Дэркет
Дземетрый
Філон — прыхільнікі Антонія.

Мецэнат.

Агрыпа
Далабела
Пракулей
Тырэй
Гал — прыхільнікі Цэзара.

Менас
Менекрат
Варый — прыхільнікі Пампея.

Таўр — палкаводзец Цэзара.
Канідзій — палкаводзец Антонія.

## АСОБЫ

Сілій — военачальнік у войску Венцідзія.
Еўфроній — Антоніеў пасол да Цэзара.

Алексас, Мардзіян, еўнух, Сялеўк, Дыямед — прыбліжаныя Клеапатры.

Вяшчун.
Селянін.

Клеапатра — царыца Егіпта.
Актавія — сястра Цэзара і жонка Антонія.
Харміяна, Ірада — прыслужніцы Клеапатры.

Военачальнікі, салдаты, ганцы, прыдворныя і слугі.

Падзеі адбываюцца ў розных мясцінах Рымскай імперыі.



# АКТ ПЕРШЫ

## СЦЭНА 1

Александрыя. Зала ў палацы Клеапатры.
Уваходзяць Дземетрый і Філон.

Філон

Наш палкаводзец проста ашалеў!
Раней, як Марс, у панцыры бліскучым
На войска кідаў позірк агнявы,
Цяпер пяшчотным вокам паглядае
Ў цыганскі твар. І сэрца, што браню
Ў разгары бітвы рваць было гатова,
Размякла, страціла былы свой гарт
І служыць апахалам, каб астуджваць
Запал распусніцы. Зважай, глядзі!
Яны ідуць...

Трубы. Уваходзяць Антоній і Клеапатра
са світай.
Еўнухі абмахваюць Клеапатру апахаламі.

Дзівіся і любуйся!
Пераканайся сам на свае вочы,
Як уладар наш, трэці слуп сусвету,
Падаўся ў блазны да гуляшчай дзеўкі.

Клеапатра

Мяне кахаеш моцна? Гавары!

Антоній

Каханне — нуль, калі яму ёсць мера.

Клеапатра

А ўсё ж цікава, дзе яго мяжа?

Антоній

Шукай яе ў прасторах незямных.

Уваходзіць слуга Антонія.

Слуга

Навіны з Рыма, уладар.

Антоній

Ну, што там?

Ізноў ганцы? Няма ад іх спакою.

Клеапатра

Антоній, трэба выслухаць. Магчыма,
Злуецца Фульвія альбо прыслаў
Табе загад ваш жаўтароты Цэзар
І павучае, што і як рабіць:
«Тут царства ўзяць, там вызваліць». Выконвай
І не пярэч, а то нам гнеў наклічаш.

Антоній

Любоў мая, ты што гэта гаворыш?

Клеапатра

А можа... не, хутчэй за ўсё — напэўна,
Актавій Цэзар зняў цябе з пасады
І жыць табе тут нельга. Запытай,
Чаго жадае Фульвія, твая
Няўрымслівая жонка? Што надумаў
Ваш гэты Цэзар ці яны абое?
Ага, пачырванеў!.. Клянуся тронам,
Румянец твой — выразны знак павагі
Да Цэзара... а можа, ты спужаўся
Крыклівай Фульвіі?.. Пазваць ганцоў!

Антоній

Хай Тыбр, разліўшыся, размые Рым!
Імперыя разваліцца хай з трэскам!

Мой дом, прытулак — тут. Што царствы? Прах.
Зямля, угноеная брудам, корміць
Аднолькава — што чалавек, што быдла.
Вяршыня і вянец жыцця — каханне.
*(Абдымае Клеапатру.)*
І дакажу я здзіўленаму свету,
Што лепшай пары не было, не будзе,
Як мы з табой!

Клеапатра

Бліскучая хлусня!
Каханне наша славіш ты, а сам
З нялюбай Фульвіяю ажаніўся.
Што я? Дурніца?.. Ведаю твой нораў.
Не зменішся, Антоній ёсць Антоній.

Антоній

Паранены у сэрца Клеапатрай.
Прашу цябе, каханнем заклінаю —
Навошта марнаваць на спрэчкі час?
Хутчэй, царыца, пад крыло любві!
Што ў нас на вечар?

Клеапатра

Выслухай ганцоў.

Антоній

Упартая!.. Як ёй усё да твару:
І гнеў, і смех, і слёзы... Хараство
Ў тваіх настроях і ў тваіх пачуццях.
Што мне ганцы! Я твой і толькі твой.
Па вуліцах мы пройдземся ўдваіх,
Народ пабачым. Ты ж сама учора
Хацела гэтага.
*(Слузе.)*
Ні слова! Прэч.

Антоній і Клеапатра са світай выходзяць.

Дземетрый

Як пагарджае Цэзарам Антоній!

### Філон

Калі Антоній часам сам не свой,
Яго ўсе вартасці ляцяць старчма.
Няма ранейшай велічы!

### Дземетрый

Шкада!
Не думаў я, што чуткі стануць праўдай.
У Рыме ўсюды ён на языку.
Але нічога, будзем спадзявацца
На перамены лепшыя. Бывай!

## СЦЭНА 2

Там жа. Пакой у палацы.
Уваходзяць Харміяна, Ірада, Алексас і вяшчун.

### Харміяна

Высакародны Алексас, міленькі Алексас, даражэнькі Алексас, наймудрэйшы Алексас, а дзе той вяшчун, якога ты так расхвальваў царыцы? Хацела б я ведаць пра таго мужа, што, як ты кажаш, начэпіць гірлянды сабе на рогі!

### Алексас

Вяшчун, сюды!

### Вяшчун

Служыць заўжды гатовы.

### Харміяна

А ты не шэльма? Сапраўды ўсязнайка?

### Вяшчун

У кнізе вечных таямніц прыроды
Крыху чытаю.

Алексас
*(Харміяне)*

Няхай ён гляне на тваю далонь.

Уваходзяць Энабарб і слугі.

Энабарб
*(слугам)*

Падрыхтаваць вячэру і віно,
Піць будзем за здароўе Клеапатры.

Харміяна

Дай долю добрую мне, чалавеча!

Вяшчун

Я долі не даю, прадбачу толькі.

Харміяна

Ну дык парадуй чым — уцеш.

Вяшчун

Магу.
Ты будзеш год ад году харашэць,
Красою налівацца...

Харміяна

Скажы лепш, тлушчам.

Ірада

Які там тлушч! Пад старасць фарбаю твар залепіш.

Харміяна

Абы маршчын не было.

Алексас

Не дражніце прарока. Увага!

Хармiяна

Ціха!

Вяшчун

Кахаць ты будзеш, а цябе не вельмі.

Хармiяна

О не! Тады лепш п'янствам нутро распальваць.

Алексас

Не перабівайце. Увага!

Хармiяна

Ты мне прадкажы што-небудзь цудоўнае, незвычайнае. Напрыклад, што я аднойчы выйду замуж за трох цароў адразу і тут жа аўдавею. Альбо ў пяцьдзесят год нараджу дзіця, да якога з'явіцца з паклонам сам Ірад Іудзейскі. Паабяцай, што [illegible] стану жонкай Актавія Цэзара і буду, як мая царыца.

Вяшчун

Сваю царыцу ты перажывеш.

Хармiяна

Вось гэта добра, што буду доўга жыць. Люблю салодкае жыццё.

Вяшчун

Салодкая пара твая ў мінулым,
Наперадзе і горычы глынеш.

Хармiяна

Ой, выходзіць, не будзе ў мяне знатных дзетак. Скажы, колькі нараджу я хлопчыкаў і колькі дзяўчынак.

Вяшчун

Каб ты магла свае жаданні здзейсніць,
То нарадзіла б іх мільён.

Харміяна

Вон адгэтуль, дурань! Але я не гневаюся. Што з ведзьмака возьмеш!

Алексас

Думаеш, толькі твая пасцель ведае, чаго табе хочацца?

Харміяна

Пастой! Хадзі сюды! Пагадай цяпер Ірадзе.

Алексас

Мы ўсе хочам ведаць, што нас чакае.

Энабарб

Ва ўсякім разе мяне і многіх сёння чакае выпіўка. Наглытаемся — і ў ложак на карачках.

Ірада

Лініі гэтай рукі прадказваюць чыстае, сумленнае жыццё.

Харміяна

Гэтак жа як разліў Ніла прадказвае... недарод.

Ірада

Змоўкні, гарэза юрлівая, не ўмееш ты гадаць.

Харміяна

Калі патлівая далонь не азначае пладнасці, значыць, я не ўмею чухаць там, дзе свярбіць.— Вось што, прадкажы ёй што-небудзь самае звычайнае.

Вяшчун

Чакае вас аднолькавая доля.

Ірада

Якая? Растлумач мне. Скажы дакладна.

Вяшчун

Я ўсё сказаў.

Ірада

Няўжо мая доля і на волас не лепшая?

Харміяна

Ну, а каб, скажам, і лепшая, куды б ты гэты волас ўткнула?

Ірада

Вядома, не мужу ў нос.

Харміяна

Ратуй нас неба ад непрыстойных думак! Ну, а цяпер — Алексас! Што суджана Алексасу? Ізіда-заступніца, малю цябе, пашлі яму жонку кульгавую, а як памрэ кульгавая, пашлі яму дурніцу, а як памрэ дурніца, пашлі яшчэ дурнейшую... і каб самая дурная яго, сто разоў рагатага, справадзіла, рагочучы, у магілу. Пачуй маю малітву, найяснейшая Ізіда! Адмаўляй у чым іншым, а на гэта згадзіся. Малю, прашу цябе, добрая Ізіда!

Ірада

Амін. Багіня ласкавая, не адхілі нашай просьбы! Крыўдна, калі ў сумленнага чалавека жонка распусніца, але яшчэ горш, калі злыдзень фанабэрыцца, а жонка перад ім на каленях поўзае. Дай яму тое, чаго ён заслужыў. Начапі яму рогі!

Харміяна

Амін.

Алексас

Вось дык малітва! Каб зрабіць мяне рагатым, яны гатовы шлюхамі стаць!

Энабарб

Цішэй! Ідзе Антоній.

Харміяна

Не,— царыца.

Уваходзіць Клеапатра.

Клеапатра

Антоній тут?

Энабарб

Няма яго, царыца.

Клеапатра

Ён не заходзіў?

Харміяна

Не, мая царыца.

Клеапатра

Збіраўся ён павесяліцца сёння
І раптам Рым успомніў. Энабарб!

Энабарб

Я слухаю, царыца.

Клеапатра

Адшукай
І прывядзі яго. А дзе Алексас?

Алексас

Я тут.— А вось і сам Антоній.

Клеапатра

Не хочацца мне сустракацца з ім.
Хадзем адсюль.

Усе выходзяць.
Уваходзяць Антоній, ганец і світа.

Ганец

І Фульвія тады пайшла вайною...

Антоній

На Луцыя, на майго брата?

Ганец

Так.
Але нядоўгаю была ў іх звада.
Пасябраваўшы, рушылі сумесна
На Цэзара, і ў першай жа сутычцы
Той іх разбіў і выгнаў абаіх
З Італіі, прымусіў бегчы.

Антоній

Вось як!
А горшых вестак у цябе няма?

Ганец

Ліхія весткі шкодзяць пасланцу.

Антоній

Калі ў вуха трапяць баязліўцу.
Кажы мне ўсё. Мінулага не вернеш.
Лепш праўду горкую пачуць адразу,
Чым цешыцца лісліваю маной.

Ганец

Нядобрыя навіны: Лабіен
З парфянскім войскам перайшоў Еўфрат,
На Азію напаў. Над Іаніяй,
Над Сірыяй, над Лідыяй, усюды

Яго сцягі аб перамозе сведчаць,
Тым часам як...

Антоній

Тым часам як Антоній...
Ты пра мяне падумаў?

Ганец

Уладар!

Антоній

Таіць не трэба. Шчырым будзь. Кажы,
Якія плёткі ходзяць пра мяне?
Як там у Рыме бэсцяць Клеапатру?
Мне сэрца крой, як Фульвія, дакорам,
Без жалю варушы мае грахі,
Бо, калі гладзіць увесь час па шэрсці,
Мы можам пустазеллем абрасці.
Сумленне спіць, калі яго не будзяць.
Ідзі пакуль што.

Ганец

Слухаю, ўладар.
(Выходзіць.)

Антоній

А што паведамляюць з Сікіёна?

Першы слуга

Гэй, хто там з Сікіёна? Дзе ганец?

Другі слуга

Стаіць напагатове.

Антоній

Хай увойдзе.
Не, гэтыя егіпецкія путы
Парваць пара — я ж розуму не страціў.
Уваходзіць другі ганец.
Дык што там у цябе? Расказвай.

Другі ганец

Уладар,

Памерла твая жонка Фульвія.

Антоній

Памерла? Дзе?

Другі ганец

У Сікіёне.

*(Падае пісьмо.)*

Чытай. Тут пішуць пра яе хваробу
І аб падзеях іншых найважнейшых.

Антоній

Пакінь мяне. Ідзі.

Другі ганец выходзіць.

Няма яе...
Я ж гэтай смерці сам жадаў... І вось...
Як часта мы вярнуць гатовы тое,
Што з абурэннем адкідалі прэч:
Справадзіш у магілу, а пасля
Яно перад табой, як светлы дух,
І тое, што так вабіць нас цяпер,
Адразу блякне, робіцца агідным,
Пара мне разлучыцца з чарадзейкай,
З царыцай гэтай. Дзесяць тысяч бед
Мая бяздзейнасць на мяне накліча.
Гэй, Энабарб!

Уваходзіць Энабарб.

Энабарб

Што маеш загадаць?

Антоній

Мне трэба спешна выехаць адгэтуль.

Энабарб

Хочаш загубіць усіх тутэйшых жанчын. Жанчыны любяць ласку. Паедзем мы — яны перамруць ад роспачы.

Антоній

Мне трэба ехаць.

Энабарб

Ну, калі ўжо так неабходна, то няхай паміраюць. Вядома, каб якая дробязь, то шкада іх, бедных, пакідаць без апекі, але калі справа важная, дзяржаўная, то ўвесь іхні гурт добрага слова не варты. Клеапатра, адно намякні на гэта, памрэ першая. На маіх вачах яна ўжо разоў дваццаць памірала, і хоць бы прычына якая, а то амаль без прычыны. І так лёгка, шпарка траціць прытомнасць — нібы кідаецца ў любоўныя абдымкі.

Антоній

Прытворства і каварства ў ёй хапае.

Энабарб

Ну, не! Пачуцці, што ў ёй бушуюць,— праява самага чыстага, самага шчырага кахання. Мала сказаць, што яе слёзы і ўздыхі — лівень і вецер. Такое буры, такое навальніцы не адзначаў яшчэ ніводзін каляндар. Гэта ў ёй натуральна, а калі прытворства, то яна кіруе перунамі не горш, чым у небе Юпітэр.

Антоній

Ах, век бы мне яе не бачыць!

Энабарб

Вось яшчэ! Гэтулькі паездзіць і не пабачыць аднаго з цудаў свету, гэта значыць — вандраваць упустую.

Антоній

Фульвія памерла.

Энабарб

Што?

Антоній

Фульвія памерла.

Энабарб

Фульвія?

Антоній

Памерла.

Энабарб

Ну, то падзякуй багам і прынясі ім ахвяру. Яно, калі іх божым вялікасцям уздумаецца забраць у мужа жонку, дык муж няхай цешыцца тым, што на зямлі ёсць краўцы, якія замест панозных трантаў пашыюць яму новы гарнітур. Вось каб Фульвія была адзіная жанчына на свеце, то гэта быў бы ўдар. А так — няма чаго бедаваць: памяняеш старую кашулю на новую сарочку. Трэба вочы цыбуляй нацерці, каб праз гэта плакаць.

Антоній

Яна такіх вузлоў там навязала,
Што мушу ехаць і разблытваць сам.

Энабарб

Але ж і ты тут завязаў вузел. Без цябе яго наўрад ці разблытае Клеапатра.

Антоній

Без жартаў! Абвясці маё рашэнне
У войску камандзірам. А царыцы
Я растлумачу сам, чаму павінен
Адплыць з Егіпта спешна. Папрашу
Не крыўдзіцца і зразумець як след.
Адна з прычын — смерць Фульвіі, але
Мяне трывожыць іншая падзея:
Раптоўна ўзбунтаваўся Секст Пампей,

Паўстаў супроць Актавія і ўладу
На моры захапіў. А наш народ,
Што любіць мёртвых болей, чым жывых,
Прыхільнасць да вялікага Пампея
На сына перанёс, і славу бацькі
Сабе прысвоіў задавака Секст.
Сябры мне пішуць, каб вярнуўся ў Рым,
Нядобрае штось выспявае ўпотай.
Пакуль што ліха тонкае, як волас,
Але дай час і выпаўзе змяёй.
Дзяржава ў небяспецы! Трэба ехаць!
Дык перадай: падрыхтавацца войску.
Мы заўтра адплываем.

Энабарб

Перадам.

Выходзяць.

## СЦЭНА 3

Там жа. Іншы пакой.
Уваходзяць Клеапатра, Харміяна, Іра да і Алексас.

Клеапатра

Антонія не бачылі?

Харміяна

Ды не.

Клеапатра
*(Алексасу)*

Даведайся, дзе ён і чым заняты.
І помні цвёрда — я не пасылала.
Калі ён сумны, ты яму скажы,
Што я танцую, а калі вясёлы,
Скажы, што хворая... Не бауся доўга!

Алексас выходзіць.

Харміяна

Царыца, калі моцна гэтак любіш,
Каб узаемнасць абудзіць у ім,
Па-мойму, трэба дзейнічаць іначай.

Клеапатра

А што, па-твойму, трэба мне рабіць?

Харміяна

Яму ва ўсім дай волю, не пярэч.

Клеапатра

Дурніца ты. Ды гэта ж першы спосаб
Хутчэй з ім разлучыцца.

Харміяна

Пацярпі,
Не будзь настырнай. Страх нас не зблізжае,
Ён не любоў, нянавісць абуджае.

Уваходзіць Антоній.

Вось і Антоній.

Клеапатра

Горка мне, балюча...

Антоній
*(убок)*

Як ёй сказаць? Якія выбраць словы?

Клеапатра

Хадзем, а то ўпаду я, Харміяна.
Павінны скончыцца мае пакуты,
Не маю сіл.

Антоній

Царыца дарагая!..

Клеапатра

Прэч! Адыдзі, будзь ласкаў!

Антоній

Што з табой?

Клеапатра

Ты так глядзіш, нібы прынёс мне радасць.
Якія весткі ад законнай жонкі?
Дадому кліча? Што ж, я не трымаю,
Ах, век бы ёй цябе не адпускаць!
Я не прысвойваю чужых мужоў.
Хто я табе?..

Антоній

Адным багам вядома.

Клеапатра

Яшчэ ніколі ні адной царыцы
Не здраджвалі так груба, бессаромна!
Прадбачыла я гэта.

Антоній

Клеапатра!

Клеапатра

І як магла я думаць, што ты мой,
Належыш мне, пустым паверыць клятвам!
Ты ж Фульвію пакінуў... Прыклад ёсць.
Вар'яткай трэба быць, каб лезці ў пастку
Нікчэмных абяцанняў!..

Антоній

О царыца!

Клеапатра

Без гучных слоў! Не прыхарошвай здрады!
Скажы «бывай», і ўсё. Ідзі ад нас!
Раней, калі прасіў ты ў нас дазволу

Застацца тут, умеў ты гаварыць.
Ты бачыў вернасць у маіх вачах,
Нектар на вуснах, хараство у бровах,
Тады я для цябе была нябеснай,
А я такая ж і цяпер. А ты,
На свеце найвялікшы палкаводзец,
Стаў найвялікшым ілгуном.

Антоній

Царыца!

Клеапатра

Каб мела рукі я твае і гарт,
Ты б ацаніў адвагу егіпцян.

Антоній

Царыца, выслухай! Па пільнай справе
Мне трэба адлучыцца ненадоўга,
Але я сэрца пакідаю тут,
Яно з табой. Італія — ў бядзе,
Ахоплена вайною міжусобнай.
На подступах да Рыма Секст Пампей.
Народ губляецца ад двоеўладдзя:
З кім быць? І ненавіснае раней,
Займеўшы сілу, робіцца прыемным.
Выгнаннік Секст Пампей у арэоле
Заслуг Пампея-бацькі выступае
Як абаронца ўсіх, хто прагне бунту.
Краіна, разамлеўшы ад застою,
Гатова на любы пераварот.
І ёсць яшчэ прыватная прычына
Майго ад'езду: Фульвія памерла.
Хай гэта навіна цябе уцешыць.

Клеапатра

Хоць я і легкаверная занадта,
Нашто мяне падманваць?

Антоній

Праўда гэта.
Няма ўжо Фульвіі. Чытай сама.
*(Падае ёй пісьмо.)*

І будзеш ведаць, колькі нарабіла
Яна бяды нам. А ў канцы прыпіска —
Паведамленне аб раптоўнай смерці.

Клеапатра

Дык вось яно — фальшывае каханне!
Дзе той фіял свяшчэнны, у які
Павінен смутак ліцца дзень і ноч?
Ах, бачу, бачу, калі я памру,
Як Фульвію, піхнеш мяне нагою.

Антоній

Не дакарай, а зразумей мяне.
Я толькі выказаў свае намеры,
Рабіць жа буду так, як мне параіш.
Клянуся сонцам, што сябруе з Нілам,
Пайду тваім слугой, тваім салдатам.
Мір ці вайна — ўсё ад цябе залежыць.

Клеапатра
*(Харміяне)*

Шнуроўку распусці мне, Харміяна!
Чакай, пастой... Не трэба. Боль прайшоў,
Адхлынуў, як Антонія любоў.

Антоній

Царыца, вер мне, вер маёй любві —
Яна мацней за ўсе выпрабаванні.

Клеапатра

А ты за сведку Фульвію пакліч!
Паплач па ёй, слязамі ушануй
І, пакідаючы мяне, скажы,
Што плачаш ад любві да Клеапатры.
Умееш ты ў жыцці іграць праўдзіва,
Яшчэ раз пакажы нам талент свой.

Антоній

Не ўводзь у злосць! Даволі!

Клеапатра

О!.. Нядрэнна.
Нішто сабе, але ты мог бы лепш.

Антоній

Мячом клянуся!..

Клеапатра

І шчытом? Цудоўна!
Але ў прытворстве гэта не мяжа.
Бач, Харміяна, як ён складна хлусіць.
Разбушаваўся рымскі Геркулес!

Антоній

Бывай, царыца!

Клеапатра

Ах, мой уладар!
Дазволь табе сказаць яшчэ два словы.
Расстацца мы павінны... Не, не тое...
Любілі ж мы, любілі!.. Не, не тое!..
Сам ведаеш... Што ж я сказаць хацела?
Забыла, як забыў мяне Антоній...
Мне здрадзіла і памяць.

Антоній

О царыца,
Тваім дзівацтвам можна падзівіцца,
І я, дзівак, папаўся ў іх палон.

Клеапатра

Дзівацтвы гэтыя гнятуць, як камень.
Разбіты спадзяванні Клеапатры!
Даруй, прабач! Усё, чым я багата,
Пылінка, дробязь без тваёй любві!
Цябе адсюль дадому гонар кліча.
Што ж? Да маіх дзівацтваў будзь глухі!
Няхай багі табе ва ўсім спрыяюць!
Хай меч твой увянчае перамога
І поспех горнецца да ног тваіх!

Антоній

Бывай! Мы будзем разам і ў разлуцы.
Каханая, ні смутку, ні пакут!
Ты не адна, мой дух з табою тут.
Вярнуся з перамогай.

Выходзяць.

## СЦЭНА 4

Рым. Пакой у доме Цэзара.
Уваходзяць Актавій Цэзар з пісьмом у руцэ, Лепід і слугі.

Цэзар

Дык вось, Лепід, цяпер табе вядома,
Што не ў натуры Цэзара нянавісць
Да нашага высокага сабрата.
Але з Александрыі пішуць мне:
Антоній ловіць рыбу, дзень і ноч
Гулянкі, п'янства. Каля Клеапатры
Сам бабай стаў, мужчынскі гонар страціў.
Ганцоў прыняў, нібы зрабіў мне ласку,
Успомніўшы, што ўлада ёсць і ў нас.
Перад табой жывое ўвасабленне
Усіх заган і слабасцей людскіх.

Лепід

Яно-то так... Але ж яго заганы
Не засланяюць годнасці. Заслугі
На змрочным фоне зіхацяць ярчэй.
Загана ў ім, відаць, ад нараджэння,
А гэта перайначыць вельмі цяжка.

Цэзар

Паблажлівы ты надта. Ну, дапусцім,
Грэх невялікі ў ложку Пталамея
Валяцца з Клеапатрай і плаціць
За асалоду царствам, піць з рабамі,

А ўдзень з нуды па горадзе блукаць,
На вуліцах кулачныя баі
З падонкамі смярдзючымі наладжваць.
Дапусцім, гэта ўсё ў яго натуры —
Другім, ого, ніхто б не дараваў! —
Але ж яго учынкі ганьбяць нас,
І нам з табой даводзіцца адказваць.
Калі свой час ён топіць у распусце,
Яму за гэта караю пахмелле,
Сухотка ў бок, а толькі нельга, нельга
Глухім быць да агульнае трывогі
І ухіляцца ад дзяржаўных спраў!
Спагнаць за гэта трэба, даць ушчунак,
Як хлапчуку, што прамяняў свой розум
На забаўкі пустыя.

Уваходзіць ганец.

Лепід

Зноў навіны.

Ганец

Загад твой выкананы, слаўны Цэзар!
Пра ўсё, што дзеецца на рубяжах,
Табе дакладваць будуць штогадзіны.
Пампей на моры ўмацаваўся. Тыя,
Хто Цэзара баіцца, да Пампея
Бягуць з паклонам, погаласка ходзіць,
Што ты яго пакрыўдзіў.

Выходзіць.

Цэзар

Не дзіўлюся.
Даўно вядома, даспадобы той,
Хто рвецца ўгору, аж пакуль не сядзе
Сваім сябрам на шыю. Чалавек жа
Нялюбы, слабасільны пры жыцці
Па смерці часта робіцца любімцам.
Людскі натоўп, як багавінне ў моры,
Плыве туды, куды цячэнне гоніць,
Каб потым згніць.

Уваходзіць другі ганец.

Другі ганец

Паведамляю, Цэзар:
На моры уладарыць два піраты —
Менах і Менекрат, з разбойных суднаў
На бераг Італьянскі нападаюць.
Кроў ледзянее ў жыхароў, а моладзь
Кіпіць ад абурэння. Карабель
Чуць выйдзе з гавані — ужо ў палоне.
Але страшней за ўсё, што гэты гвалт,
Драпежніцтва пірацкае прыкрыта
Пампея гучным імем.

Цэзар

Эх, Антоній,
Спыні, кажу, шаленства п'яных оргій!
Калі, забіўшы Гірцыя і Пансу,
Абодвух консулаў, ты адступаў
Паспешна ад Мадэны, люты голад
Не пакідаў цябе, ты з ім змагаўся;
Узгадаваны ў роскашы, цярпеў —
І дзікуну такое не пад сілу;
Піў бруд з балота, конскую мачу —
Сасмяглы звер і той бы ухіліўся;
У воўчых ягадах знаходзіў смак,
Кару грыз, як алень, ■ ў Альпах, чуў я,
Еў падлу, ад якой памерці можна;
Але ж вярнуўся ты адтуль здаровы,
Ты быў салдат, меў вытрымку тады.
Чаму ж цяпер — аж вымавіць мне цяжка! —
Свой гонар ганьбіш?

Лепід

На вялікі жаль.

Цэзар

Ды што ў ім сораму няма, ці што,—
Радзіму кінуўшы, бадзяцца недзе?
А нам, Лепід, пара за зброю брацца,
Ваенную нараду склікаць трэба.
Маруднасць наша — выйгрыш для Пампея.

Лепід

Я заўтра, Цэзар, далажу табе,
Якія сілы пад маёй камандай
На сушы і на моры.

Цэзар

Я таксама
Дакладна высветлю усё.— Бывай!

Лепід

Да пабачэння, Цэзар. Калі ласка,
Трымай мяне у курсе спраў.

Цэзар

Вядома.
Сяброўскіх абавязкаў не парушу.

Выходзіць.

## СЦЭНА 5

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзяць Клеапатра, Харміяна, Ірада і Мардзіян.

Клеапатра

Харміяна!

Харміяна

Што, царыца?

Клеапатра

О-о!..
Дай выпіць мандрагоры мне.

Харміяна

Навошта?

Клеапатра

Хачу заснуць і доўга, доўга спаць,
Пакуль не вернецца Антоній мой.

Харміяна

Занадта многа думаеш аб ім.

Клеапатра

Ты — здрадніца, няйначай.

Харміяна

Не, царыца.

Клеапатра

Гэй, еўнух! Мардзіян!

Мардзіян

Я тут, царыца,
Чым дагадзіць магу?

Клеапатра

Нічым. Ты ж — еўнух.
А твой піскдявы спеў мне рэжа вуха.
Шчаслівы ты, жывеш адзін, спакойна.
А ведаеш ты, што такое страсць?

Мардзіян

А як жа, ведаю.

Клеапатра

Не можа быць!

Мардзіян

Пачуццяў у мяне хапае ўсякіх.
Хоць я й бясплодны, уяўляў не раз,
Як абдымаюцца Венера з Марсам.

Клеапатра

Ах, Харміяна! Як, па-твойму, дзе ён?
Стаіць, сядзіць, ідзе пяшком ці мчыцца
На баявым кані? Каню прыемна
Насіць Антонія. Шчаслівы конь!
На ім красуецца Атлант паўсвету,
Людскіх плямён і меч і шлем. Ён, можа,
Мяне успамінае зараз, шэпча:
«Дзе ты, мая егіпецкая змейка?»
Як некалі мяне ласкава зваў.
О гэтая салодкая атрута!
А можа, ён забыў сваю каханку,
Чый твар счарнеў ад пацалункаў сонца,
Пакрыўся каляінамі гадоў.
Калі у нас быў госцем Юлій Цэзар,
Я славілася, як ласунак царскі.
Не абмінуў мяне і Гней Пампей,
Шукаў натхнення у вачах маіх,
Маёй любоўю цешыўся да смерці.

Уваходзіць Алексас.

Алексас

Хвала табе, вяльможная ўладарка!

Клеапатра

Ты і Антоній — як вы не падобны!
Але ты быў пры ім, з ім сябраваў,
І след героя на табе блішчыць.
Дык расскажы, які цяпер Антоній.

Алексас

Апошняе, што ён зрабіў, царыца,
Прыклаў да вуснаў неацэнны перл,
Вось гэты, пацалункамі асыпаў
І мне прамоваю параніў сэрца.

Клеапатра

Хачу пачуць. Хай мне параніць вушы!

Алексас

«Мой друг,— сказаў ён,— перадай,
будзь ласкаў,
Вялікай егіпцянцы дробны дар мой,
Са скарбаў мора ўзяты, і скажы,
Што верны рымлянін праз нейкі час
Не жэмчугам, а царствамі ўпрыгожыць
Яе наследны трон, увесь усход
Аддасць ёй пад апеку». Ён кіўнуў
І ўскочыў на каня. І конь памчаўся,
Іржаннем заглушыўшы мой адказ.

Клеапатра

Вясёлы быў ён, сумны? Як па-твойму?

Алексас

Як светлы поўдзень між зімой і летам:
Ні сумны, ні вясёлы.

Клеапатра

Харміяна,
Заўваж! Ты чуеш? Вось узор мужчыны.
Не сумаваў, каб не трывожыць блізкіх,
Не весяліўся, бо пакінуў радасць,
Свае хвіліны лепшыя ў Егіпце.
Гармонія пачуццяў процілеглых!
Вось чалавек! Няма яму раўні.
Ганцоў маіх сустрэў ты?

Алексас

Больш за дваццаць,
Навошта ты іх пасылаеш столькі?

Клеапатра

Той, хто народзіцца ў злашчасны дзень,
Калі я без пісьма яго пакіну,
Сканае у жабрацтве.— Харміяна,
Папірус і атрымант мне падай!
Як добра, што вярнуўся ты, Алексас!
Ці ж я магла так Цэзара любіць?
Напэўна, не!

Харміяна

Вялікі Юлій Цэзар!

Клеапатра

Маўчы, дурніца, не таго ты хваліш!
Хвалі Антонія.

Харміяна

Вялікі Цэзар!

Клеапатра

Ізідаю клянуся, кроў спушчу!
Павыбіваю зубы!..

Харміяна

Ах, прабач!
Не гневайся! Я толькі паўтарыла
Мелодыю тваіх мінулых дзён.

Клеапатра

Мелодыю зялёнае дзяўчынкі.
Праўдзівае ж каханне да мяне
Прыйшло пазней. Папірус і атрымант!
Ганцоў я буду пасылаць штодня,
Увесь Егіпет падыму на ногі.

Выходзяць.





# АКТ ДРУГІ

## СЦЭНА 1

Месіна. У доме Секста Пампея.
Уваходзяць Пампей, Менекрат і Менас.

Пампей

Калі ёсць справядлівасць у багоў,
Яны памогуць нам, бо мы за праўду.

Менекрат

Багі марудзяць, доблесны Пампей,
Але не адвярнуліся ад нас.

Пампей

Мінуе час, і траціць вартасць тое,
Што нам патрэбна зараз жа, цяпер.

Менекрат

Як часта просім мы ў багоў таго,
Што можа нам пашкодзіць, і яны
Малітвы нашы адхіляюць мудра
Для нашага ж дабра.

Пампей

Я веру ў поспех.
Народ прыхільны да мяне, і мара
Ў маіх руках. Расце мая магутнасць
І наліваецца, як поўня ў небе.
Антоній абжыраецца ў Егіпце,

Ён свой трыбух для бітвы не падыме.
Актавій Цэзар выціскае грошы,
Збірае скарбы там, дзе траціць сэрцы,
Ну, а Лепід — ліса, хвастом віляе,
Стараецца абодвум дагадзіць.
Яго па шэрсці гладзяць, але з ім
Ніхто не лічыцца.

Менас

Лепід і Цэзар
З вялікім войскам рушылі ў паход.

Пампей

Няпраўда гэта! Ад каго ты чуў?

Менас

Ад Сільвія.

Пампей

Прыснілася яму.
Яны абодва ў Рыме і чакаюць
Антонія.— Блудніца Клеапатра!
Няхай нальюцца свежаю любоўю
Твае крыху пабляклыя ўжо вусны!
Хай чары дапамогуць хараству,
А юр прыродны — хараству і чарам!
Распусніка не выпускай з застолля,
Ласункамі эпікурэйскай кухні
Кармі, частуй, каб ачмурэў ад страў.
І, гонар у абжорстве утапіўшы,
Спаў непрабудным сном.

Уваходзіць Варый.

Што скажаш, Варый?

Варый

Скажу, дазнаўся цвёрда і дакладна:
Антоній раптам выехаў з Егіпта,
Плыве даўно і хутка будзе ў Рыме.

Пампей

Параніла мне вушы гэта вестка.—
Не думаў я, Менас, што прагны бабнік
Надзене зноў свой шлем. А на вайне
Ён сіла большая, чым тыя два.
Ну, што ж,— мы можам толькі ганарыцца,
Што наш мяцеж падняў яго з пасцелі
І вырваў ненасытнага гуляку
З абдымкаў фараоншы-удавы.

Менас

Не веру я, што Цэзар і Антоній
Паладзяць між сабою. Фульвія
Нямала шкоды Цэзару зрабіла,
А брат Антонія вёў з ім вайну.
Антоній, праўда, іх не падбухторваў,
Аднак... хто ведае, як ён паверне?

Пампей

Прадбачыць цяжка. Меншая варожасць
Часамі адступае перад большай.
Каб не было нас тут, яны б, напэўна,
Адзін другому горла перагрызлі,
Прычын для гэтага хоць адбаўляй.
Але цяпер з'яднаць іх можа страх —
Забыўшы сваркі, ўсе збяруцца ў кучу.
Хай нас багі бароняць ад няўдачы!
Я прадчуваю, бой будзе гарачы.
Хадзем, Менас.

Выходзяць.

## СЦЭНА 2

Рым. У доме Лепіда.
Уваходзяць Энабарб і Лепід.

Лепід

Шаноўны Энабарб, як было б добра,
Каб ты схіліў Антонія да згоды.

Энабарб

Ён можа быць самім сабой, і толькі.
Калі яго чым-небудзь раззлуе
Актавій Цэзар, ён яму не спусціць,
А грымне словам, як з нябёсаў Марс.
Юпітэрам клянуся, каб я меў.
Такі ж ваяцкі выгляд, як Антоній,
Я б не галіў свайго шчаціння век.

Лепід

Цяпер не час, каб нам разводзіць спрэчкі.

Энабарб

Але пара зірнуць і ў сутнасць спраў.

Лепід

Нязначнае павінна даць дарогу
Больш важнаму.

Энабарб

Яно-то так, але
Нязначнае заўжды наперад лезе.

Лепід

Лягчэй, лягчэй. Не трэба гарачыцца.
Не дзьмі на вугаль, бо агнём успыхне.—
Вось ён, Антоній доблесны.

Уваходзяць Антоній і Венцідзій.

Энабарб

І Цэзар.

Уваходзяць Цэзар, Мецэнат і Агрыпа.

Антоній
*(Венцідзію)*

Як скончым тут, адразу на парфян.

Цэзар
*(Мецэнату)*

Не ведаю, спытайся у Агрыпы.

Лепід

Высакародныя сябры, саюз наш
Для спраў высокіх намі заснаваны.
І дробныя нязгоды не павінны
Яго парушваць. Дык праявім сёння ж
Спагадлівасць адзін да аднаго,
Бо калі вельмі гучна абмяркоўваць,
Забойствам будуць спрэчкі, не лячэннем.
Таму прашу, дзяржаўныя браты,
Пытанні вострыя кранаць мякчэй,
Каб гневу слуп не вырас паміж намі.

Антоній

Прамова слушная. Я б выступіў з такою ж,
Праціўніка сустрэўшы перад боем.

Трубы.

Цэзар

Вітаю ў Рыме.

Антоній

Дзякую.

Цэзар

Сядай.

Антоній

Сядай ты першы.

Цэзар

Ну, як хочаш...

Садзяцца.

Антоній

Я чуў, мае паводзіны ты лічыш
Ганебнымі, хоць ганьбы ў іх няма,

А калі ёсць, дык што табе з таго,
Цябе ж не закрануў.

Цэзар

Я быў бы смешны,
Каб за нішто, ці праз якое глупства,
Распальваў крыўду, на цябе тым больш,
Я быў бы смешны, проста неразумны,
Каб гаварыў зняважліва аб тым,
Што дачынення да мяне не мае.

Антоній

А як глядзеў ты, Цэзар, на той факт,
Што я ў Егіпце.

Цэзар

Гэтак жа, як ты
На тое, што я ў Рыме. Вось каб ты
Супроць мяне рабіў падкопы там,
Была б прычына.

Антоній

Што значыць — падкопы?

Цэзар

Хіба не зразумеў? Тлумачыць трэба?
А жонка твая што? Не бунтавала?
А брат супроць мяне не выступаў?
Тваё імя яны ўзнялі як сцяг.

Антоній

Няпраўда гэта, выдумка. Мой брат
Не прыкрываўся мною. Я распытваў.
Даведаўся аб тых, хто быў з табой,
Цябе абараніў. А калі ён
З табой змагаўся, значыць, і маім
Быў ворагам, бо справа ў нас з табою
Агульная. Ды я ж пісаў табе,
Пісаў... Не, не!.. Калі сварыцца ўздумаў,
Вярні свайго каня у іншы бок.

Цэзар

Шукаеш апраўданне, на мяне
Узвальваеш віну, ці не занадта
Сябе высока ставіш?

Антоній

Я? Нікольki.
Твой вывад будзе правільны, я знаю.
Не мог жа я, кіруючы з табою,
Падвучваць брата, каб падняў мяцеж
Для ўсіх нас небяспечны. А пра жонку
Сваю скажу: жадаю ад душы,
Каб меў ты наравістую такую ж.
Трымаеш ты ў сваіх руках трэць свету,
Дзяржаваю кіруеш без натугі,
Паспрабаваў бы жонкай кіраваць.

Энабарб

Эх, каб кожнаму з нас ды такую баявую жонку! Мы б іх з сабою ў паход бралі. Вось было б весела!

Антоній

Шкадую, Цэзар, што яе нястрымнасць,
Гарачнасць, фанабэрыя дурная
Табе даліся ў знакі. Але што
Я мог зрабіць?

Цэзар

Я пасылаў пісьмо
Табе ў Егіпет. Ты ж майго ганца
Сустрэў з насмешкай і прагнаў з банкета,
Пісьмо маё адклаў не прачытаўшы.

Антоній

Ён без дазволу уваліўся ў залу.
Прымаў я урачыста трох цароў,
Даваў абед і быў заняты вельмі.
Назаўтра ж сам твайго ганца паклікаў
І абышоўся з ім як мае быць.

Будзь ласкаў, на ганца не спасылайся,
Шукай для сваркі больш сур'ёзных фактаў.

Цэзар

Ты клятву даў мне і парушыў клятву.
А папракнуць мяне ў чым-небудзь брыдкім
Язык твой не павернецца.

Лепід

Лагодней!

Без гневу, Цэзар!

Антоній

Не, няхай гаворыць.

Мой гонар не баіцца падазрэнняў.—
Кажы, я слухаю. «Парушыў клятву...»

Цэзар

Дапамагаць мне зброяй і людзьмі
Ты мне адмовіў, просьбу адхіліў.

Антоній

Хутчэй за ўсё не праявіў увагі,
Час быў атрутны, блытаніна скрозь —
Замарачэнне на мяне найшло.
У гэтым вінаваты, не пярэчу.
Я не уніжу годнасці сваёй
І воінскіх заслуг не абняслаўлю
Прызнаннем шчырасці. Фульвія, напэўна,
Хацела выцягнуць мяне з Егіпта,
Без ведама майго падняўшы бунт.
Прашу добразычліва, без дакораў
Мне даравацъ нявольную віну.
Прашу прабачыць!

Лепід

Правільныя словы.

Мецэнат

А ці не лепш спыніць абмеркаванне
Ўсялякіх крыўд, мінулае забыць

І глянуць на сучаснасць. Перад вамі
Адзіны выбар — прымірэнне.

Лепід

Так!

Энабарб

Пазычце пакуль што крыху сардэчнасці адзін у аднаго, а як міне патрэба, калі самазванцу Пампею крылле абсякуць і вам не будзе чаго рабіць, вярніце пазыку і грызіцеся зноў, пакуль не надакучыць.

Антоній

Маўчы, салдат! Не абражай прысутных.

Энабарб

Я так і ведаў: праўда вочы коле.

Антоній

Ні слова болей! Прыкусі язык!

Энабарб

Мне што? Маўчу. Як рыба анямеў.

Цэзар

Ён выказаўся груба, але трапна.
Наўрад ці можна ўмацаваць сяброўства,
Калі хапацца толькі за сваё.
Каб ведаў я, дзе той абруч жалезны,
Які б нас аб'яднаў, як і раней,
Шукаць яго пайшоў бы на край свету.

Агрыпа

Дазволь мне, Цэзар...

Цэзар

Гавары, Агрыпа.

Агрыпа

Актавія, сястра твая, цяпер
У самым росквіце, а Марк Антоній
Застаўся удаўцом.

Цэзар

Агрыпа, змоўкні.
Пачула б Клеапатра твой намёк,
Яна б закалацілася ад гневу.

Антоній

Я не жанаты... І хачу паслухаць,
Якія прапановы у Агрыпы.

Агрыпа

Каб вашу дружбу ўмацаваць навек
І сэрцы вашы паяднаць братэрствам,
Няхай Антоній згодзіцца узяць
Актавію за жонку. Харáствам,
Характарам і цнотаю сваёй
Яна вышэй пахвал, якраз да пары
Магутнейшаму з воінаў зямлі.
Іх шлюб адразу знішчыць недавер'е,
Развее страх, што звіў гняздо ў дзяржаве,
І павуціну вымыслаў парве.
Любоў Актавіі да вас абодвух
Адновіць ваша даўняе сяброўства
І выкліча народную прыхільнасць.
Прабачце за параду, абавязак
Мяне прымусіў думак не таіць,
Прыдаў мне смеласці.

Антоній

Што скажа Цэзар?

Цэзар

Паслухаем Антонія спачатку.
Якія меркаванні у яго,
Цікава ведаць.

Антоній

А якой уладай
Надзелены Агрыпа, што ён зробіць,
Калі я згоду дам на гэты шлюб?

Цэзар

Агрыпу надзяліў уладай я,
І не адмовіцца сястра мая.

Антоній

І ў сне не сніў. Прымаю прапанову.
Адзінства мэты і адзінства душ,
Агорнутыя цеплынёй братэрскай,
Хай з гэтае хвіліны неразлучна
Вядуць нас да вялікіх перамог.
Дай мне руку!

Цэзар

Вазьмі, Антоній слаўны.
Мой неацэнны скарб, вачэй уцеху,
Сваю сястру перадаю табе
З любоўю братняй, каб яна жыла
У шчасці, згодзе, пад тваёй аховай,
З'яднаўшы нашы сэрцы і дзяржавы
Ў імперыю любві.

Лепід

Хай будзе так.

Антоній

Я не чакаў, што давядзецца мне
Паўстаць супроць Пампея. Ён нядаўна
Зрабіў мне вельмі важную паслугу.
Я за дабро павінен адплаціць,
Няхай не думае, што я няўдзячны,
А потым абвяшчу яму вайну.

Лепід

Не адкладай, спяшайся. На Пампея
Напасці трэба як мага хутчэй,
Каб не напаў ён першы.

Антоній

Дзе ён зараз?

Цэзар

Каля гары Мізенскай.

Антоній

Войска шмат?
Як ён на сушы?

Цэзар

Моцны, вельмі моцны.
Ну, а на моры — поўны уладар.

Антоній

Пра гэта чуў. Пагаварыць з ім варта,
Перш чым за зброю брацца. Але скончым
Спачатку нашу справу.

Цэзар

Вельмі рад.
Хадзем. Цябе я сёння пазнаёмлю
З маёй сястрой.

Антоній

Не адставай, Лепід.
Будзь нашым госцем.

Лепід

Доблесны Антоній,
Каб хворы быў і то пайшоў бы следам.

Трубы. Цэзар, Антоній і Лепід выходзяць.

Мецэнат

Віншую з прыездам, шаноўны Энабарб.

Энабарб

Любімец Цэзара, высакародны Мецэнат! —
Мой слаўны друг Агрыпа!

Агрыпа

Доблесны Энабарб!

Мецэнат

Як добра, што ўсё так цудоўна ўладзілася.— А вы, мабыць, весела пажылі ў Егіпце.

Энабарб

Дзіва што! Уставалі так позна, што сонца ад сораму закрывала твар, а пілі і закусвалі — аж пакуль ноч не бляднела, стаміўшыся.

Мецэнат

А ці праўда, што на сняданне падавалі па восем вепрукоў на дванаццаць асоб?

Энабарб

Для нас гэта было як муха для арла. На нашых банкетах такія цуды тварыліся, якіх свет не бачыў, ёсць чым пахваліцца.

Мецэнат

Калі верыць доўгім языкам, Клеапатра такая красуня, што ёй раўні няма.

Энабарб

Яна заваладала сэрцам Антонія адразу ж. А сустрэліся яны ўпершыню на рацэ Кідне.

Агрыпа

О, тады яна была сапраўды прыгожая, калі той сведка, што мне расказваў, не хлусіць.

Энабарб

А я вам зараз апішу.
Яе баркас плыў па вадзе, як трон,
Блішчаў у золаце. Барвовы ветразь
Напоены быў водарам пяшчотным,

І вецер млеў; туліўся да яго.
Пад гукі флейт сярэбраныя вёслы
Ў суладдзі дружным разразалі плынь,
І хвалі абмывалі іх з любоўю.
Царыца ж пад парчовым балдахінам
Ляжала на ўзвышэнні. Слоў не маю,
Язык нямее перад гэтым дзівам,
Венера адступае перад ёю,
Стварэннем дасканалае красы.
Абапал ложка хлопчыкі-амуры
Махалі апахаламі рытмічна,
Абвейвалі яе румяны твар,
Які палаў, струменіў хараство.

Агрыпа

Бач, як Антонію пашанцавала!

Энабарб

Прыслужніцы вакол, як нерэіды,
З адданасцю глядзелі на царыцу,
Лавілі кожны рух яе вачэй.
Адна з дзяўчат стаяла ля руля
І грацыёзна кіравала суднам,
Трымаючы шаўковыя шнуры
У далікатных, як пялёсткі, пальцах.
Прывабны водар з музыкай чароўнай
Цяклі суладна і п'янілі бераг.
Народ збягаўся да ракі, і плошча,
Дзе ў крэсле узвышаўся Марк Антоній,
У момант апусцела. Ён адзін,
Нікога больш. Паветра, дык і тое
Памчалася б насустрач Клеапатры,
Каб вырвацца магло!

Агрыпа

Вось дык жанчына!

Энабарб

Калі яна прычаліла, Антоній
Паслаў ганцоў прасіць яе пачціва
З ім павячэраць, а яна ў адказ
Паклікала яго самога ў госці.

І наш Антоній, чалавек ласкавы,
Які жанчынам адмаўляць не можа,
Пабрыўся разоў дзесяць і пайшоў,
Каб потым сваім сэрцам расплаціцца
За ўсё, што там еў вокам ненасытным.

Агрыпа

О шлюха царская! Сам Юлій Цэзар
Свой меч калісьці клаў ёй у пасцель;
Пасеяўшы, жніва не дачакаўся.

Энабарб

Аднойчы давялося мне пабачыць,
Як бегла вуліцаю Клеапатра,
Задыханая, нешта балбатала,
Пра іншую сказаў бы — недарэка,
А ёй была да твару нават слабасць.

Мецэнат

Цяпер яе Антоній, мабыць, кіне.

Энабарб

Ніколі. Ні за што. Не надакучыць
Яе каханне век. У ім няма
Будзённай аднастайнасці, бо прага,
На міг патухшы, зноў палае. Страсць
Ператвараецца ў свяшчэннадзейства.

Мецэнат

Калі краса, і розум, і ласкавасць
Жанчыны вернай супакояць дух
Антонія, загояць раны сэрца,
Актавія яму — нябесны дар.

Агрыпа

Хадзем, шаноўны Энабарб. Будзь госцем.
Жыві ў мяне, пакуль ты ў Рыме.

Энабарб

Дзякуй.

Выходзяць.

## СЦЭНА 3

Там жа. У доме Цэзара.
Уваходзяць Цэзар, Антоній, Актавія
і світа.

Антоній

Мой абавязак і дзяржаўны клопат
Нас могуць разлучыць.

Актавія

У час разлукі
Маліць багоў я буду на каленях
За поспех твой.

Антоній

Спакойнай ночы, Цэзар.—
О мілая Актавія мая,
Не прыслухоўвайся да нізкіх плётак,
Што ганьбяць гонар мой. Так, я грашыў,
Але ў мінулым гэта ўсё. Дабранач!
Адпачывай! — Спакойнай ночы, Цэзар!

Цэзар

Спакойнай ночы!

Цэзар, Актавія і світа выходзяць.
Уваходзіць вяшчун.

Антоній

А! Гэта ты? Сумуеш? У Егіпет хочацца?

Вяшчун

Лепш бы я ніколі адтуль не выязджаў, а ты не прыязджаў туды.

Антоній

Чаму?

Вяшчун

Растлумачыць словамі не магу, нутром адчуваю. Вярніся ў Егіпет.

Антоній

Дык прадкажы, што мне рыхтуе лёс.
Хто больш узвысіцца: я альбо Цэзар?

Вяшчун

Цэзар.
Далей трымайся ад яго, Антоній.
Твой дэман, дух, які табой кіруе,
Магутны, велічны, непераможны,
Калі паблізу Цэзара няма.
Але дух Цэзара заўжды мацней,
І побач з ім твой геній траціць сілу.
Няхай адлегласць падзяляе вас!

Антоній

Ты мне сказаў — і ўсё!

Вяшчун

Нікому больш.
Нідзе нікому, аднаму табе.
Якую б з ім гульню ні пачынаў ты,
Не спадзявайся выйграць, ты прайграеш.
Твой дух спалохаецца і адступіць
Перад нязменнасцю яго удач.
Будзь незалежным! Без яго ты волат.

Антоній

Ідзі! Пакліч Венцідзія сюды.

Вяшчун выходзіць.

Адпраўлю на парфян. Так ці іначай,
Ці гэта спрыт, ці гэта выпадковасць,
Але сказаў ён праўду. Нават косці
І тыя Цэзару ў руку кладуцца.
Спаборнічаць з ім проста немагчыма.
Пацягнем жэрабя — ён апярэдзіць.

А пеўняў выпусцім, дык мой слабейшы.
Ў яго і перапёлкі добра б'юцца,
З маіх жа пух ляціць. Хачу ў Егіпет,
Жаніцьба гэтая, мой шлюб раптоўны
Ёсць толькі спосаб мір умацаваць,
А шчасце там, на Ўсходзе.

Уваходзіць Венцідзій.

А! Венцідзій.

Ты рушыш на парфян. Усё гатова.
Загад падпісаны. Хадзем.

Выходзяць.

## СЦЭНА 4

Там жа. Вуліца.
Уваходзяць Лепід, Мецэнат і Агрыпа.

Лепід

Мяне далей праводзіць не патрэбна.
Спяшайцеся да вашых палкаводцаў.

Агрыпа

Вось толькі развітаецца Антоній
З Актавіяй — і мы ў дарогу.

Лепід

Добра.

Сустрэнемся ў даспехах баявых,
Яны цяпер да твару вам. Бывайце.

Мецэнат

Відаць, мы будзем ля гары Мізенскай
Раней, чым ты, Лепід.

Лепід

Павінен буду
Я кружным шляхам рушыць. Справы ёсць.
Абгоніце мяне вы дзён на два.

Мецэнат і Агрыпа
*(Разам.)*

Жадаем поспеху.

Лепід

Да пабачэння.

## СЦЭНА 5

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзяць Клеапатра, Харміяна, Ірада і Алексас.

Клеапатра

Я музыкі хачу, той горкай ежы,
Што корміць нас, нявольнікаў любві.

Слуга

Гэй, музыканты!

Уваходзіць Мардзіян.

Клеапатра

Не хачу, не трэба.
Лепш у шары згуляем, Харміяна.

Харміяна

Рука баліць. Вось, можа, Мардзіян.

Клеапатра

Што ты, што еўнух, для мяне ўсё роўна.
Які з вас толк!
(*Мардзіяну*)
А ты ў шары умееш?

Мардзіян

Не вельмі, найяснейшая царыца.
Я пастараюся.

Клеапатра

Ну-ну! Старанне,
Хоць марнае, дае акцёру скідку.
Гуляць я расхацела! — Прынясіце
Мне вудачку і пойдзем на раку.
Там буду я пад ціхія напевы
Лавіць чырванапёрых вёрткіх рыбак,
За жабры іх падчэпліваць кручком,
Выцягваць, уяўляючы, што гэта
Антоній на кручку, і паўтараць:
«Ага, ага, папаўся!»

Харміяна

А ты помніш
Вясёлы жарт, калі ў заклад пайшлі вы,
Хто больш наловіць рыбы, і яму
Твой вадалаз павесіў на кручок
Салёную макрэль?

Клеапатра

Тады, ў той дзень, —
О, незабыўны дзень! — мой смех увёў
Антонія ў злосць, і ў тую ж ноч
Мой смех вярнуў яму хвіліны шчасця.
Назаўтра, падпаіўшы, я надзела
Свае ўборы на яго, сама ж
Падперазалася мячом булатным,
Праслаўленым ў бітве пры Філіпах.

Уваходзіць ганец.

Ага! З Італіі! Хутчэй расказвай,
Бальзам уцешных вестак лі мне ў вушы.

Ганец

Царыца! Ах, царыца!

Клеапатра

Ён загінуў?
Калі ты скажаш «так», злашчасны раб,
Заб'еш царыцу словам, калі — «не»,

Калі Антонію жывецца добра,
Вось золата і вось мая рука,
Яе цары са страхам цалавалі.

Ганец

Яму, царыца, добра, вельмі добра.

Клеапатра

Яшчэ дам золата, бяры. Чакай!
Пра мёртвых кажуць гэтак жа: ім добра.
Калі ён мёртвы, золата расплаўлю
І горла подлае тваё залью.

Ганец

Царыца, выслухай...

Клеапатра

Што ж, гавары.
Па твары бачу: не з дабром прыехаў.
Калі жывы Антоній, не ў палоне,
Тваё аблічча зіхацець павінна,
Калі ж бяда, калі няшчасце з ім,
Чаму не стаў ты фурыяй жахлівай
З клубком гадзюк заместа валасоў?

Ганец

Царыца, выслухай мяне спачатку.

Клеапатра

Мо лепей адхвастаць цябе спачатку.
Але, калі ты скажаш — ён жывы,
Здаровы, з Цэзарам пасябраваў,
Пазбегнуў ліха — залатым дажджом
І градам перлаў я цябе асыплю.

Ганец

Царыца, ён здаровы.

Клеапатра

Гэта добра.

Ганец

Сябруе з Цэзарам.

Клеапатра

Прыемна чуць.

Ганец

Такая дружба ў іх, не разарвеш.

Клеапатра

Узбагачу цябе.

Ганец

Але, царыца...

Клеапатра

Не даспадобы мне тваё «але».
«Але», «аднак», «а ўсё ж» — іржавы нож,
Якім найлепшы ўступ зарэзаць можна,
Падкуплены турэмшчык, што з турмы
Крывавага злачынцу выпускае.
Ну, што яшчэ? Выкладвай без разбору
І добрае і дрэннае. Кажы.
Сябруе з Цэзарам, жывы, здаровы,
Свабодны...

Ганец

Не, я не сказаў «свабодны».
З Актавіяй ён звязаны, царыца.

Клеапатра

Што, што? З Актавіяй? Што іх збліжае?

Ганец

Пасцель.

Клеапатра

О жах! Я млею, Харміяна.

Ганец

Антоній з ёю ажаніўся.

Клеапатра

Брэшаш!
Здыхай, паскуда!
*(Збівае ганца з ног.)*

Ганец

Царыца, злітуйся!

Клеапатра

Што ты сказаў?
*(Б'е яго.)*
Прэч, подлы, нізкі раб! Валоссе вырву
І бельмы вылушчу табе з вачніц.
*(З сілай трасе яго.)*
Жалезнымі прутамі будзеш біты,
А потым у расол і на агонь.

Ганец

Даруй, царыца! Не карай мяне.
Не я іх сватаў. Не мая віна.

Клеапатра

Што? Правучыла? Не гняві, нягоднік!
Скажы — хлусня, скажы — няпраўда гэта,
І я табе дам скарб, цябе узвышу,
Правінцыяй ты будзеш кіраваць,
І ў сне не сніў такога.

Ганец

Ён жанаты.

Клеапатра

Нікчэмны раб! Ты вельмі доўга жыў.
*(Хапае кінжал.)*

Ганец
*(убок)*

Збягу!

*(Клеапатры.)*
За што? Чым я цябе пакрыўдзіў?
*(Уцякае.)*

Харміяна

Царыца дарагая, супакойся:
Ні ў чым не вінаваты ён.

Клеапатра

А хіба
Маланка вінаватых толькі б'е?
Хай воды нільскія зальюць Егіпет!
Гадзюкамі хай стануць галубы!
Вярнуць сюды раба! Я не ўкушу,
Хоць і ў шаленстве. Кліч, вярні ганца!

Харміяна

Баіцца ён.

Клеапатра

І пальцам не крану.

Харміяна выходзіць.

Я рукі апаганіла свае,
Ударыўшы халопа, я ж сама
Ўсяму прычына.

Вяртаюцца Харміяна і ганец.

Падыдзі, не бойся.
Якім бы чыстым ні было сумленне,
З'яўляцца з дрэннай весткай рызыкоўна.
Навіны добрыя чуваць здалёк,
А ліха падпаўзае непрыкметна.

Ганец

Я выканаў свой абавязак.

Клеапатра

Вось як!

Ён ажаніўся? Можа, зноў пацвердзіш?
Яшчэ ўва мне не выгарала злосць.

Ганец

Жанаты ён, царыца.

Клеапатра

Праклінаю!

Які упарты!

Ганец

Значыць, лепш хлусня?

Клеапатра

О, каб ты мог!..
Хай лаў-Егіпта стане нільскім дном,
Прытулішчам чарвей і слімакоў!
Каб ты быў нават, як Нарцыс, прыгожы,
Ты для мяне не чалавек — страшыдла.
Ідзі адсюль!.. Чакай!.. Ён ажаніўся?

Ганец

Не гневайся, царыца!

Клеапатра

Ажаніўся?

Ганец

Даруй, царыца! Не прымай за крыўду!
Цяпер ён муж Актавіі.

Клеапатра

Прэч, злодзей!
Махляр спрактыкаваны, вон адгэтуль!
Навёз тавару з Рыма. Не куплю!
Сам прадавай на рынку за бясцэнак.

Ганец выходзіць.

Харміяна

Перацярпі, ласкавая царыца.

Клеапатра

О Юлій Цэзар!.. Вось ён, мой Антоній!
Я ж так яго хваліла!

Харміяна

І не раз.

Клеапатра

І вось расплата. Падаю... Трымайце...
Ірада! Харміяна!.. Не, нічога...
Алексас, дзе ты? Дагані ганца
І пра Актавію ўсё распытай:
Якая тварам і які характар,
Ці маладая, колькі ёй гадоў,—
Даведайся і мне ўсё перакажаш.

Алексас выходзіць.

Навек з ім расстаюся... Не магу...
Не, не, не расстаюся!.. Харміяна,
Хоць ён Гаргона, але ўсё ж ён Марс.
*(Мардзіяну)*
Скажы Алексасу, каб запытаў,
Якога воласу і рост які...—
Ах, Харміяна, прытуліся... Цяжка!
Не суцяшай мяне, маўчы...— Вядзіце...

Выходзяць.

## СЦЭНА 6

Каля гары Мізенскай.

Трубы і барабанны бой. На чале сваіх войск з аднаго боку ўваходзяць Пампей і Менас, з другога — Цэзар, Антоній, Лепід, Энабарб і Мецэнат.

Пампей

Заложнікаў я ўзяў, а вы маіх.
Пагаварыць нам трэба перад бітвай.

Цэзар

Мы гэтак жа дамовіцца жадаем.
Таму пасланы намі загадзя
Табе ў пісьмовай форме прапановы.
Ці досыць іх, каб ты адклаў свой меч,
Падняты крыўдай і нездавальненнем,
І маладых адважных сіцылійцаў,
Каб не губіць іх тут, дамоў адправіў?

Пампей

Звяртаюся да вас я, трыумвіры,
Намеснікі багоў, што на ўвесь свет
Сваю руку ўладарную паклалі,
Няўжо мой бацька мсціўцаў мець не можа,
Калі жывуць яго сябры і сын?
Пакінуў жа нябожчык Юлій Цэзар,
Чый цень з'явіўся Бруту пры Філіпах,
Сваіх заступнікаў — вы адплацілі.
Чаму адважыўся сумленны Брут
Супольна з Касіем і гуртам рымлян
Пайсці на змову у імя свабоды
І акрапіць крывёю Капітолій?
Бо не хацелі, каб падняўся дэспат
І сеў адзін на шыю чалавецтву.
З такой жа мэтай я сабраў свой флот
І, ўспеніўшы глыбіні вадзяныя,
Плыву, каб справядліва пакараць
Няўдзячны Рым за бацьку.

Цэзар

Не спяшайся.

Антоній

Не запужаеш флотам нас, Пампей.
Мы і на моры спуску не дадзім,
Ну, а на сушы ведаеш ты сам,
Хто з нас мацнейшы.

Пампей

О, прыбраў да рук
Сабе ты шмат чаго! Прысвоіў нават

Дом майго бацькі. Што ж, трымай пакуль што.
Зязюля век свайго гнязда не мае.

Лепід

Бліжэй да справы. Гавары адразу,
Ці згодзен ты на нашы прапановы?

Цэзар

Чакаем, адкажы.

Антоній

Прасіць не будзем.
Узваж, якія выгады табе.

Цэзар

І што ты можаш страціць, захацеўшы
Мець больш таго, што мы гатовы даць.

Пампей

Вы дазваляеце мне ўзяць сабе
Сіцылію з Сардзініяй пры ўмове,
Што я ачышчу мора ад піратаў
І буду забяспечваць Рым пшаніцай,
Вось вашы прапановы. Іх прыняўшы,
Маглі б мы разысціся па-сяброўску,
Мячоў не падымаючы?

Цэзар, Антоній і Лепід
*(разам)*

Ну так.

Пампей

Дык ведайце, што я прыйшоў з намерам
На гэта згоду даць і не пярэчыць.
Але мяне абурыў Марк Антоній.
І хоць, падкрэсліўшы сваю заслугу,
Я зменшу ёй цану, але напомню,
Каб ты, Антоній, знаў. Калі твой брат
Паўстаў на Цэзара, мяне знайшла

Ў Сіцыліі твая старая маці,
І я ёй даў прытулак.

Антоній

Чуў пра гэта.
Сардэчна дзякую табе, Пампей.
Зрабіў ты добра.

Пампей

Ну, то дай руку,
Не думаў я, што тут цябе пабачу.

Антоній

На Ўсходзе, дружа, мяккія пасцелі,
І маладзец ты, што мяне прымусіў
Раней вярнуцца, чым я сам збіраўся.
Я ў выйгрышы.

Цэзар
*(Пампею)*

Даўно цябе не бачыў.
Даўно, даўно... Змяніўся ты, Пампей.

Пампей

Суровы лёс мне мог змаршчыніць твар,
Але не здолеў перайначыць сэрца.
Трымаюся.

Лепід

Сустрэча ўдалася.

Пампей

Ну, а раз так, калі між намі згода,
Напішам дагавор і ўзаконім
Яго пячацямі.

Лепід

І неадкладна.

Пампей

Я прапаную, перш чым развітацца,
Банкет наладзіць гучны, запрасіць
Адзін другога ў госці. Хто пачне?

Антоній

Я дам банкет.

Пампей

Чакай, Антоній, друг мой.
Пацягнем жэрабя, так будзе лепш,
Ці ты пачнеш ці іншы хто — ўсё роўна:
У гэтай справе апярэдзіш ты.
Там, у Егіпце, нават Юлій Цэзар,
Я чуў, ад смачнай ежы растлусцеў.

Антоній

Ці не замнога чуў ты?

Пампей

Я жартую.

Антоній

І я таксама.

Пампей

Людзі так гавораць.
Яшчэ, я чуў, Апаладор прыносіў...

Энабарб

Не ўспамінай, маўчы!

Пампей

А ўсё ж цікава,
Што ён прыносіў?

Энабарб

У мяшку з пасцеллю
Прыносіў Цэзару адну царыцу.

Пампей

А я цябе пазнаў. Ну, як жывеш?

Энабарб

Жыву цудоўна, што ні дзень, то лепей:
Наперадзе банкетаў чарада.

Пампей

Ну, што ж, давай пацiснем рукi, воiн:
Табе я ворагам не быў нiколi,
А храбрасцi тваёй зайздрошчу нават.

Энабарб

Каб я любiў цябе, я не скажу.
Хвалiць даводзiлася, хоць, па-мойму,
Хвала табе, што муха для асiлка.

Пампей

За шчырасць дзякую, лягчэй на сэрцы.—
Прашу ўсiх да мяне на карабель.

Цэзар, Антонiй i Лепiд
*(разам)*

З прыемнасцю. Вядзi нас.

Пампей

Калi ласка.

Усе, апроч Энабарба i Менаса, выходзяць.

Менас
*(убок)*

Што ты робiш, Пампей! Мiрыцца з iмi? Твой бацька нiколi б гэтага не дазволiў. *(Энабарбу)* Мы недзе сустракалiся?

Энабарб

Здаецца, на моры.

Менас

Ну так.

Энабарб

На моры ты быў герой.

Менас

А ты на сушы.

Энабарб

Люблю, калі мяне хваляць, аднак нельга адмаўляць, што на сушы я ўсё ж нешта зрабіў.

Менас

А я на моры.

Энабарб

Ну, вядома. Але глядзі, не прызнавайся ва ўсім, а то ўліпнеш. На моры ты быў разбойнік, і даволі страшны.

Менас

А ты на сушы.

Энабарб

Ну вось, і знайшлося агульнае. Дай руку, Менас. Каб нашы вочы былі суддзямі, яны б схапілі тут двух галаварэзаў, што, абняўшыся, цалуюцца.

Менас

Што рукі брудныя, не бяда, абы твар быў чысты.

Энабарб

Гледзячы ў каго. Скажам, жанчына. І чысценькая і прыгожанькая...

Менас

Ой, не кажы! Гэта нож для мужчынскага сэрца.

Энабарб

Мы ішлі сюды, каб з вамі ваяваць.

Менас

А давядзецца спаборнічаць у п'янстве. Сягоння Пампей будзе з рогатам прапіваць сваё шчасце.

Энабарб

А заўтра слязьмі абальецца. Толькі шчасця плачам не вернеш.

Менас

Твая праўда. Ніхто з нас не чакаў, што Марк Антоній з'явіцца сюды. Ён што, ажаніўся з Клеапатрай?

Энабарб

Сястру Цэзара завуць Актавіяй.

Менас

Я ведаю. Яна была замужам за Каем Марцэлам.

Энабарб

А цяпер яна жонка Марка Антонія.

Менас

Што ты гаворыш?

Энабарб

Тое, што ты чуеш.

Менас

Значыць, цяпер яны звязаны з Цэзарам навекі?

Энабарб

Сцвярджаць такое — у мяне язык не павернецца.

Менас

Я думаю, тут больш палітыкі, чым кахання.

Энабарб

І я так думаю. Вось пабачыш, гэты шлюб не ўмацуе дружбы, пятлёй на шыі павісне. Актавія набожная, халодная, маўклівая.

Менас

Кожны хацеў бы мець такую жонку.

Энабарб

Можа, хто і хацеў бы, толькі не Марк Антоній. Яму не халоднае, а гарачае падавай, яго пацягне зноў да егіпецкіх ласункаў. Ну, а Цэзар ад уздыхаў Актавіі запалае, як факел. І тады, напэўна кажу, уся іх дружба лопне з трэскам. Антоній будзе шукаць пяшчотаў там, дзе іх пакінуў. А жонку ўзяў дзеля выгады, няйначай.

Менас

І я так думаю. А ці не пайсці нам, дружа, з табой на карабель? Хачу выпіць за тваё здароўе.

Энабарб

Падтрымаю ахвотна. У Егіпце мы прамывалі горла амаль штодня.

Менас

Дык пойдзем.

Выходзяць.

## СЦЭНА 7

На караблі Пампея каля гары Мізенскай.
Музыка.
Уваходзяць некалькі слуг з віном і закускай.

Першы слуга

Зараз яны будуць тут. Некаторыя з гэтых дубоў ужо карэннем за зямлю не трымаюцца. Лёгкі ветрык — і лягуць покатам.

Другі слуга

Лепід чырвоны як рак.

Першы слуга

Усё недапітае ў яго злівалі.

Другі слуга

Як толькі яны пачынаюць падкусваць адзін аднаго, ён адразу ў крык: «Годзе вам!» Іх супакойвае, а сам віно жлукціць.

Першы слуга

І ў жываце ў яго вайна. Нутро пратэстуе, бурчыць, не хоча прымаць лішняга.

Другі слуга

Вось што значыць пішчом улезці ў кампанію выдатных людзей, быць у іх затычкай! Які толк ад цяжкага кап'я, калі не можаш яго падняць,— гэта табе не дубчыкам ляскаць.

Першы слуга

Папасці ў асяродзішча вялікіх, не маючы на гэта права,— тое, што бяльмо ў воку: карысці ніякай, а твар пакалечаны.

Трубы. Уваходзяць Цэзар, Антоній, Лепід, Пампей, Агрыпа, Мецэнат, Энабарб, Менас і іншыя военачальнікі.

Антоній
*(Цэзару)*

Заведзена ў іх так — на пірамідах
Ёсць знакі вышыні разліваў Ніла:
Калі вада высока — ураджай,
А нізка — засуха і недарод.
А як вада спадзе, адразу ж сеюць.
Спрыяе росту глеістая глеба,
І хутка набліжаецца жніво.

Лепід

Я чуў, у вас там, у Егіпце, дзівосныя змеі водзяцца.

Антоній.

Водзяцца, Лепід.

Лепід

Вашы егіпецкія змеі заводзяцца ў вашай егіпецкай гразі ад праменняў сонца. Скажам, напрыклад, кракадзіл.

Антоній

Правільна.

Пампей
*(Лепіду)*

Сядай. Віна сюды! За здароўе Лепіда!

Лепід

Я ўжо трошкі таго, але яшчэ магу, магу-у!..

Энабарб

Ён мoжа... Зараз на карачках папаўзе.

Лепід

Не, сапраўды, я чуў, што гэтыя пталаміды Піранея — ніштo сабе штучкі. І не ўздумайце са мной спрачацца, сваімі вушамі чуў.

Менас
*(ціха, Пампею)*

Пампей, на пару слоў.

Пампей
*(ціха, Менасу)*

А што такое?

Ты мне шапні.

Менас
*(ціха)*

Давай убок адыдзем. Справа ёсць.

Пампей
*(ціха)*

Адстань. Я зараз.
*(гучна)*
Вып'ем за здароўе Лепіда!

Лепід

А што гэта за жывёліна — кракадзіл?

Антоній

З выгляду падобен сам на сябе. Таўшчыня такая, як ёсць, а даўжыня ў кожнага свая ўласная. Перасоўваецца на сваіх уласных лапах. Корміцца тым, што з'есць. А калі здохне і згніе, яго дух перасяляецца ў іншыя істоты.

Лепід

А якога ён колеру?

Антоній

Свайго ўласнага.

Лепід

Ну і змей! Вось дык стварэнне!

Антоній

Дзіва што! А як пачне плакаць, слёзы ў яго мокрыя-мокрыя...

Цэзар

А ці задаволіць яго такое апісанне?

Антоній

Задаволіць. З дабаўкай таго пітва, што ў яго ўліў Пампей. А калі гэтага мала, то ён не чалавек, а бяздонная бочка.

Пампей
*(ціха, Менасу)*

Не лезь! Чаго ты хочаш? Адчапіся!
Ідзі адсюль, кажу!
*(гучна.)*
Падайце кубак!

Менас
*(ціха)*

Няўжо не варты я тваёй увагі?
Служу аддана. Выслухай мяне.

Пампей
*(ціха)*

Ты нейкі дзіўны. Што ў цябе такое?

Пампей і Менас адыходзяць убок.

Ну так, аддана служыш. Што далей?

Менас

Перад тваёй фартунай я гатовы
Укленчыць і маліцца на яе.

Пампей
*(гасцям)*

Чаго прыціхлі? Весялей, сябры!

Антоній

Лепід, ты што? Як у пясках зыбучых?
Глядзі, не ўгрузні. Ногі падымай.

Менас
*(ціха Пампею)*

Ці хочаш ты сабе ўвесь свет прысвоіць?

Пампей

Ты звар'яцеў!

Менас

Пытаюся яшчэ раз:
Ці хочаш ты забраць сабе ўвесь свет?

Пампей

Як гэта зрабіць?

Менас

Згадзіся толькі.
І хоць мяне ты лічаш бедняком,
А я ўвесь свет магу табе аддаць.

Пампей

Ты п'яны?

Менас

Не, Пампей, зусім цвярозы.
У межах акіяна і нябёс
Ты мог бы стаць Юпітэрам зямным,
Каб толькі захацеў.

Пампей

Якім жа чынам?

Менас

Тры ўладары дзяржавы найвялікшай,
Твае сапернікі — на караблі.

Я адсяку канат, у мора выйдзем
І трыумвірам горла перарэжам...
І ўсё тваё.

Пампей

Вось і зрабіў бы так:
Употай, ціха, і мяне б не ўблытваў.
Ты ўмееш, і твая такая служба,
А мне прымаць удзел у змове — подласць.
Я не хачу свой гонар абняславіць
Дзеля карысці. Вінаваць язык!
Я мог бы вынікі адобрыць потым,
Але задуму мушу адхіліць.
Забудзь пра гэта. Пі!

Менас
*(убок)*

Даволі, хопіць
Ісці услед за гэтай бляклай зоркай!
Таго, хто хоча, але ўзяць баіцца,
Фартуна ўзнагароджвае няўдачай.

Пампей

Сябры, прашу! Лепід, тваё здароўе!

Антоній
*(паказваючы на Лепіда)*

На бераг занясіце. Хай праспіцца.
Я за яго дап'ю.

Энабарб

Кульнём, Менас!

Менас

Здароў будзь, дружа!

Пампей

Налівай паўней.

Энабарб

*(паказваючы на слугу, які выносіць Лепіда.)*

Менас, глядзі, глядзі! Які асілак!

Менас

З чаго ты ўзяў?

Энабарб

Нясе ў руках трэць свету.

Менас

Перапілася, бачу, гэта трэць.
А каб жа цэлы свет набраўся гэтак?
Вось карусель была б!

Энабарб

Вядома! Вып'еш —
Даведаешся.

Менас

За тваё здароўе!

Пампей

Банкет — нішто, але яму далёка
Да вечароў александрыйскіх.

Антоній

Не,
Не так далёка. Зараз мы прыблізім.—
Тваё здароўе, Цэзар!

Цэзар

Я не буду.
Палошчам мы мазгі свае, палошчам,
А бруду не адмыць! Дарэмны клопат.

Антоній

Эпоха так дыктуе. Прывыкай.

Цэзар

Мне раіш прыстасоўвацца. Не выйдзе.
Па-мойму, лепш чатыры дні пасціць,
Чым выпіць мора цэлае адразу.

Энабарб

*(Антонію)*

Дазволь, начальнік, распачаць нам скокі,
Егіпецкі вясёлы карагод
У гонар Бахуса.

Пампей

Давай, салдат!

Антоній

Хутчэй сюды! Бярыцеся за рукі!
Кружыцца будзем, аж пакуль наш розум,
Спавіты хмелем, не засне ў абдымках
Пяшчотнай Леты.

Энабарб

Гэй, рабіце кола!
Узрушвай сэрцы, музыка! Грымі!
За рукі! Дружна! — Хлопчык, запявай!
А мы падхопім. Не шкадуйце сілы,
Хай рэха адгукаецца вакол!

Музыка. Энабарб кіруе скокамі.

Песня

Бахус, Бахус бог віна,
Просьба да цябе адна:
Чашы поўныя налі,
Нашу смагу наталі,
Нашы сэрцы акрылі.
Нашы сэрцы акрылі!..

Цэзар

Пара спыніць. — Пампей, спакойнай ночы! —
Хадзем, сваяк. Дазволь цябе праводзіць.
З дакорам пазіраюць на разгул

Пакінутыя намі абавязкі.
Палаюць шчокі ад віна.— Канчайце!
Трывалы Энабарб і той размяк.
Я сам кірую языком з натугай.
Ад выпіўкі празмернай мы як блазны.
Ды што тут разважаць! Спакойнай ночы! —
Антоній, дай руку.

Пампей

Банкет адновім
На беразе.

Антоній

А як жа! Дай руку!

Пампей

Мой дом бацькоўскі ты ў мяне забраў,
Антоній, помні!.. Але я твой друг.
Спускайся ў лодку.

Энабарб

Ціха, не ўпадзіце!

Усе, апроч Энабарба і Менаса, выходзяць.

Я застаюся тут.

Менас

Прашу ў каюту.
Трубіце ў трубы, біце ў барабаны!..
Музыкі, грайце, каб Нептун пачуў,
Як салютуем мы героям свету.
Іграйце, вісельнікі, рэж ваўсю!

Трубы і барабаны.

Энабарб

Гэй, шапкі ўгору! Гэй!..

Менас

Ура! Хадзем.

Выходзяць.



# АКТ ТРЭЦІ

## СЦЭНА 1

Раўніна ў Сірыі.

Уваходзяць урачыста Венцідзій, Сілій, іншыя рымскія военачальнікі і войска. Наперадзе нясуць цела забітага парфянскага царэвіча Пакора.

Венцідзій

Разбіта Парфія, край вострых стрэл,—
Адпомсціў я за гібель Марка Краса.
Хай кожны воін паглядзіць на труп
Парфянскага царэвіча. Арод,
Твой сын Пакор аддаў жыццё за Краса.

Сілій

Венцідзій, ты герой. Пакуль твой меч
Яшчэ гарачы ад крыві парфянскай,
Не патурай уцекачам, гані іх
З мідзійскіх стэпаў, з берагоў Міжрэчча,
Знішчай па ўсіх кутках. І твой Антоній
За подзвігі табе трыумф наладзіць,
Вянок лаўровы дасць.

Венцідзій

О Сілій, Сілій,
Даволі мне таго, што маю. Ведай,
Не варта падначаленаму лезці
На грэбень гучных спраў. Часамі слава,
Здабытая без санкцыі вышэйшай,

Пашкодзіць можа болей, чым правал.
І Цэзар і Антоній шмат разоў
Сабе прысвойвалі чужыя ўдачы.
А здольны Сосій, папярэднік мой,
У Сірыі пачаў так вылучацца,
Што трапіў у Антонія ў няласку,
Не засланяй начальніка, салдат!
Начальніку начальнікаў не трэба.
І гонар воінскі і дысцыпліна
Дыктуюць часам: лепей адступіць,
Чым выйграць бой, правадыра зацьміўшы.
Я для Антонія зрабіў бы многа,
Але ён прыме гэта за знявагу
І не даруе мне маіх заслуг.

Сілій

Венцідзій, у цябе ёсць сіла духу,
А гэта болей, чым прывычны меч.
Што ж ты цяпер Антонію напішаш?

Венцідзій

Я напішу, што іменем сваім
Ён нас натхніў, падрыхтаваў да бітвы,
Што пад яго арламі легіёны,
Ім згуртаваныя, разбілі ўшчэнт
Непераможных коннікаў парфянскіх.

Сілій

Дзе ж ён цяпер?

Венцідзій

Адправіўся ў Афіны.
Хоць мы і абцяжараны здабычай,
Але і нам туды спяшацца трэба,
З'явіцца без спазнення.— У паход!

Выходзяць.

## СЦЭНА 2

Рым. Пярэдняя ў доме Цэзара.
Уваходзяць з розных бакоў Агрыпа і Энабарб.

Агрыпа

Ну, развіталіся там сваякі?

Энабарб

Справадзіўшы Пампея, трыумфіры
На дагавор прыкладваюць пячаці.
Перад разлукай з дарагім ёй Рымам
Актавія рыдае. Цэзар змрочны.
Лепіда ж, як расказваў мне Менас,
Пасля банкета нудзіць пачало —
Ледзь выцерпеў.

Агрыпа

Лепід такі сардэчны!

Энабарб

Прыветлівы! А Цэзара як любіць!

Агрыпа

Антонія не менш. Вачэй не зводзіць!

Энабарб

«Актавій Цэзар — на зямлі Юпітэр!»

Агрыпа

«І для Юпітэра Антоній — бог!»

Энабарб

«Няма на свеце Цэзару раўні!»

Агрыпа

«О Марк Антоній! О крылаты Фенікс!»

Энабарб

«Быць Цэзарам — вяршыня ўсіх вяршынь!..»

Агрыпа

Абодвум падпускаў ляшча Лепід.

Энабарб

Але больш Цэзару. Антонія таксама
Не забываў. Паэт, мастак, трыбун
Не змогуць ні апець, ні апісаць,
Ні выказаць яго пачуццяў палкіх
К Антонію. Ну, а на Цэзара
Ён проста моліцца.

Агрыпа

Абодвух любіць.

Энабарб

Ён — жук, яны — бліскучыя надкрыллі.

Трубы.

Паеду я. Бывай, Агрыпа слаўны!

Агрыпа

Шчаслівае дарогі, храбры воін.

Адыходзяць убок.

Уваходзяць Цэзар, Антоній, Лепід і Актавія.

Антоній
*(Цэзару)*

Далей нас не праводзь.

Цэзар

Душы маёй часціцу ты бярэш.
Прашу, не крыўдзі, будзь ласкавы з ёю.—
Сястра, будзь добрай жонкай, апраўдай
Мае надзеі і умовы шлюбу.—
Не дапусці, шаноўны мой Антоній,
Каб слуп, што падпірае нашу дружбу,
Мацуе нашу сувязь, стаў таранам

І крэпасць разваліў. Лепш сябраваць,
Не парадніўшыся, калі не ўмеем
Аберагаць свой скарб.

Антоній

Ты недавер'ем
Мне прычыняеш боль.

Цэзар

Я ўсё сказаў.

Антоній

Вышукваеш дарэмна ты, падстаў
Для падазрэнняў і трывог не знойдзеш,
Няхай цябе ахоўваюць багі!
Хай сэрцы рымлян горнуцца ў твой бок!
А нам пара ў дарогу.

Цэзар

О любая сястра мая, бывай!
Няхай пяшчотамі цябе атуляць
Усе стыхіі. Сумаваць не трэба
Шчаслівай будзь, сястра!

Актавія

Мой любы брат!..

Антоній

Вясна ў яе вачах, вясна любві,
І слёзы — майскі дождж. — Не засмучайся!

Актавія
*(Цэзару)*

Глядзі, каб мужаў дом быў цэлы і. .

Цэзар

Яшчэ што? Гавары.

Актавія

Скажу на вуха.

Антоній

Язык яе не слухаецца сэрца,
А сэрца слоў ніяк не падбярэ.
Так лебядзіны пух на хвалях зыбкіх
Не ведае, ў якім кірунку плыць.

Энабарб
*(ціха, Агрыпу)*

Ці не збіраецца заплакаць Цэзар?

Агрыпа
*(ціха, Энабарбу)*

Нахмураны стаіць.

Энабарб
*(ціха, Агрыпу)*

Нядобра гэта.
І конь, калі нахмурыцца, брыдчэе,
А чалавек тым больш.

Агрыпа
*(ціха, Энабарбу)*

Усяк бывае.
Калі ляжаў забіты Юлій Цэзар,
Антоній плакаў, галасіў над ім,
А потым слёзы ліў над трупам Брута
У бітве пры Філіпах.

Энабарб
*(ціха, Агрыпу)*

У той год
Ён быў прастуджаны, не разбіраўся,
Цякло ў яго тады з вачэй і з носа
Вось калі я заплачу — мне павер.

Цэзар

Актавія, цябе я не забуду,
Маіх пачуццяў не развее час.

Антоній

Не задавайся, Цэзар. Я магу
Любіць не горш. Пабачым, хто каго...
Абдымемся мацней, і я паеду,
Пакінуўшы цябе багам.

Цэзар

Бывай!

Лепід

Няхай усе нябесныя сузор'і
Твой асвятляюць шлях.

Цэзар
*(цалуючы Актавію)*

Бывай, сястра!
Жыві, красуйся, радуйся!

Антоній

Бывайце!

Трубы. Усе выходзяць.

## СЦЭНА 3

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзяць Клеапатра, Харміяна, Ірада і Алексас.

Клеапатра

А дзе ж ганец?

Алексас

Баіцца увайсці.

Клеапатра

Гаворыш глупства!

Уваходзіць ганец.

Алексас

Падыдзі сюды.

Ганец

О найяснейшая царыца наша,
Калі ты ў гневе, Ірад Іудзейскі
І той зірнуць бы не пасмеў.

Клеапатра

Шкада —
Няма Антонія загад мой здзейсніць,
Адсек бы Іраду ён галаву.—
Бліжэй, бліжэй!

Ганец

О грозная царыца!..

Клеапатра

Актавію ты бачыў?

Ганец

Бачыў.

Клеапатра

Дзе?

Ганец

У Рыме, найяснейшая царыца.
У твар ёй паглядзеў. Яе вялі
Антоній з Цэзарам.

Клеапатра

Якога росту?
Яна высокая? Як я?

Ганец

Ніжэй, царыца.

Клеапатра

А голас чуў? Гаворыць гучна? Ціха?

Ганец

І голас чуў. Слабенькі галасок.

Клеапатра

Ага! Ну вось!.. Любіць такую доўга
Не будзе ён.

Харміяна

Яе любіць? Як можна!

Клеапатра

Няўклюда, значыць. Я такой жа думкі.
Ні языка не мае, ні фігуры.
Ну, а паходка? Веліч ёсць у ёй?

Ганец

Якое там! Паўзе як чарапаха.
Няма агня ў ёй. Цела без душы.
Як статуя халодная.

Клеапатра

Так, так...
А ты не маніш?

Ганец

Я на вочы зоркі.

Харміяна

І трое так не высачаць, як ён.

Клеапатра

Так, так, ён мае спрыт. Пустышка, значыць...
Разумна разважае.

Харміяна

Нават вельмі.

Клеапатра

А як, па-твойму, колькі ёй гадоў?

Ганец

Яна была ўдава.

Клеапатра

Як? Удава? —
Ты чуеш, Харміяна?

Ганец

А гадоў,
Я думаю, ёй так за трыццаць.

Клеапатра

Твар доўгі ці акруглы?

Ганец

Як гарбуз.

Клеапатра

З падобным тварам найчасцей дурніцы.
А колер валасоў?

Ганец

Звычайны, цёмны.
І нізкі лоб, насунуты на вочы.

Клеапатра

Вось золата, бяры. І не крыўдуй,
Што я цябе сурова так сустрэла.
Паедзеш зноў туды ж, за імі следам
Ганец ты кемлівы. Ідзі, збірайся.
Я пісьмы напішу.

Ганец выходзіць.

Харміяна

Ён — маладзец.

Клеапатра

Ну, так. Шкадую, што была з ім строгай.
Я ўпэўнілася, што жанчына гэта
Не пагражае мне.

Харміяна

Ні ў якім разе.

Клеапатра

Жанчын выдатных бачыў ён нямала,
Адрозніваць павінен.

Харміяна

Дзіва што!
Не першы год табе аддана служыць...

Клеапатра

Ах, Харміяна, праўду ты гаворыш.
Яшчэ хацела б выведаць я нешта...
Але няхай... Прыйшлеш ганца мне потым.
Магчыма, ўсё наладзіцца.

Харміяна

Напэўна.

Выходзяць.

## СЦЭНА 4

Афіны. Пакой у доме Антонія.
Уваходзяць Антоній і Актавія.

Антоній

Не, не, Актавія, не толькі гэта —
І гэта і ўсё іншае такое
Я б мог прадбачыць. Але ён пачаў
Ізноў вайну з Пампеем; абвясціў
Народу завяшчанне, у якім
Мяне стараўся абысці, а там,
Дзе абмінуць ніяк не выпадала,
Ён скупа прыгадаў мае заслугі,
Без пахвалы належнай, з непавагай,
Хоць подзвігі мае вядомы ўсім.

Актавія

Мой любы муж, не ўсё бяры на веру,
А хоць і верыш, не на ўсё крыўдуй,
Бо калі выбухне між вамі сварка,
Пакутніцай-ахвярай стану я.
Маліць багоў за вас — мой абавязак,
Але багі пачнуць з мяне смяяцца,
Пачуўшы першую маю малітву:
«Благаславіце, уратуйце мужа!»
А следам і другую: «Уратуйце,
Благаславіце брата!» Дык каго ж
Ім ратаваць? Хто б з вас ні перамог,
Ці ты ці ён, маё жыццё разбіта —
Між двух агнёў сярэдзіны няма.

Антоній

Актавія, аддай любоў сваю
Таму, хто больш дастойны. Калі я
Свой гонар страчу, сам сябе я страчу.
Лепш мне не быць тваім, чым быць тваім,
Згубіўшы гонар. Хочаш мірыць нас?
Намер пахвальны. Паспрабуй. А я
Ўсё ж буду рыхтавацца да вайны.
Твой брат мяне на гэта падбівае.
Дык не адкладвай. Выязджай хутчэй.
Жадаю ўдачы.

Актавія

Дзякуй, дарагі!
Няхай Юпітэр, уладар нябесны,
Мне, кволай і бяссільнай, дапаможа
Між вамі мір і дружбу аднавіць,
Вайна — няшчасце, трэшчына ў зямлі,
Напоўненая трупамі людскімі.

Антоній

Нездавальненне выкажаш таму,
Хто ў гэтым вінаваты, хто парушыў
Умовы нашы. Не змяншай віны
І не дзялі на двух свайго кахання.
Збірайся. Світу выбераш сама,
Ні ў чым сябе не абмяжоўвай.

Выходзяць.

## СЦЭНА 5

Там жа. Іншы пакой.
Уваходзяць з розных бакоў Энабарб і Эрос.

Энабарб

Ну як там, дружа Эрос? Якія навіны?

Эрос

Дзіўныя навіны, начальнік.

Энабарб

А што?

Эрос

Цэзар і Лепід ізноў ваююць з Пампеем.

Энабарб

Гэта ўжо не навіна. І хто перамог?

Эрос

Цэзар адолеў Пампея. Лепід яму памагаў. А цяпер Цэзар не прызнае яго роўным, прысвоіў сабе славу і, мала таго, абвінаваціў Лепіда ў зносінах з ворагам, выкарыстаўшы яго даўнія пісьмы да Пампея. Небараку схапілі, і сядзіць трыумвір наш у турме і будзе сядзець там, аж пакуль яго не вызваліць матухна-смерць.

Энабарб

Цяпер на свеце толькі два звяры —
І колькі ежы ў пашчу ім ні сунь,
Адзін другога загрызе нарэшце.
Антоній дзе цяпер?

Эрос

Па садзе ходзіць —
Туды, сюды; нагою топча голле,
Крычыць: «Лепід — даўбежка», пагражае
Распяць гадзюку, што забіў Пампея.

Энабарб

Увесь наш флот даўно напагатове...

Эрос

На Цэзара ў Італію. Дык вось што:
Антоній па цябе мяне паслаў,
А пра навіны мог бы я і потым.

Энабарб

Няма чаго расказваць! Будзь што будзе.
Вядзі мяне к Антонію.

Эрос

Хадзем.

Выходзяць.

## СЦЭНА 6

Рым. У доме Цэзара.
Уваходзяць Цэзар, Агрыпа і Мецэнат.

Цэзар

Што робіцца ў Александрыі! Ганьба!
На люднай плошчы на ўзвышэнні срэбным
На залатыя троны селі разам
Антоній з Клеапатрай, а ў нагах —
Цэзарыён, якога лічаць сынам
Таго, хто быў маім названым бацькам,
І некалькі пазнейшых байструкоў,
Плады іх сужыцця, і там Антоній
Ёй перадаў уладу над Егіптам
І абвясціў царыцай Палесціны,
І Лідзіі, і Кіпра.

Мецэнат

Як? Публічна?

Цэзар

Усенародна, на галоўнай плошчы.
А два яго сынкі — цары цароў:
Парфян, мідзян аддаў ён Александру,
Арменію яму ж, а Пталамею —
Сірыйцаў, кілікійцаў, фікікіян.
А Клеапатра ў вопратцы Ізіды
Была ў той дзень, ды і раней не раз
Ахвотна строіла з сябе багіню.

Мецэнат

Пра гэты здзек павінен ведаць Рым.

Агрыпа

Дазнаўшыся, узрушаны народ
Сваю прыхільнасць ад яго адверне.

Цэзар

Яго нахабства ўжо вядома Рыму:
Прыслаў сенату спіс сваіх прэтэнзій.

Агрыпа

Каго ж абвінавачвае?

Цэзар

Мяне.
Сцвярджае, што, Сіцылію забраўшы
У Пампея, я не выдзеліў яму,
Антонію, належнай долі, кажа,
Што я сабе прысвоіў караблі,
Якія ён, Антоній, мне пазычыў;
Нарэшце, абураецца, што мы
Лепіда выгналі з трыумвірата,
Канфіскаваўшы ўсю яго маёмасць.

Агрыпа

На гэта, Цэзар, трэба даць адказ.

Цэзар

Адказ напісаны. Ганец пасланы.
Паведамляю я, што стаў Лепід

Занадта жорсткім, злоўжываць пачаў
Уладаю і скінуты законна,
Што мной заваяваным падзяліцца
Гатовы я, калі ён мне аддасць
Палову царстваў, ім заваяваных.

Мецэнат

На гэта ён не згодзіцца ніколі.

Цэзар

Тады і я не ўступлю ні ў чым.

Уваходзіць Актавія са світай.

Актавія

Здаровы будзь, мой уладар і брат!

Цэзар

А, гэта ты, адхіленая мужам!

Актавія

Так называць мяне няма падставы.

Цэзар

Чаму ж так ціхенька ты увайшла?
Сястры маёй і жонцы трыумвіра
З'яўляцца так убога не да твару.
Яе суправаджаць павінна войска,
Каб коні загадзя іржаннем гучным
Апавяшчалі пра яе прыезд.
Павінны дрэвы гнуцца ад цікаўных
І пылу воблакі ўзлятаць увысь.
А ты з'явілася, як парабчанка,
І гэтым самым не дала раскрыцца
Любві народнай да цябе як след.
Нявыяўленая ж любоў зачахне.
Нам трэба было сустракаць цябе
На моры і на сушы, каб усюды
Народ мог з радасцю цябе вітаць.

Актавія

Мой мілы брат, прыехала сюды я
Па добрай волі. Муж мой, Марк Антоній,
Дачуўшыся, што ты вайну рыхтуеш,
Са мною падзяліўся сумнай весткай.
І папрасіла я ў яго дазволу
Вярнуцца ў Рым.

Цэзар

І ён табе дазволіў.
Хутчэй прагнаў! Ты ж лішняя пры ім.
Яму распуста даражэй за жонку.

Актавія

Не гавары так, брат.

Цэзар

За ім сачу я.
Мне нават вецер весткі шле аб ім.
Дзе ён цяпер?

Актавія

Ён зараз у Афінах.

Цэзар

Няпраўда. У Афінах, кажаш? Не!
Сястра, табе ён здрадзіў. Клеапатра
Кіўнула пальцам, і ён там, пры ёй,—
Яго імперыю ўхапіла шлюха.
Намерыўшыся ваяваць са мною,
Яны сабралі ўсіх цароў усходніх:
Там Бокх — лівійскі цар, Адал — фракійскі,
Панційскі цар, цар аравійскі — Малх,
Кападакійскі — Архелай, цар Ірад,
Цар пафлагонскі Філадэльф, яшчэ
Цар камагенскі Мітрыдат, яшчэ
Цары лікаонійскі і мідзійскі
Амінт і Палемон і процьма іншых.

Актавія

Няшчасная! Я сэрца падзяліла
Між двух сяброў. І вось... дзе ж тая дружба?
Варожасць — там і тут.

Цэзар

Вітаю ў Рыме.
Твае лісты прымусілі мяне
З разрывам не спяшацца, але я
Пераканаўся — ён нас ашукаў:
І ты і я, усе мы ў небяспецы.
Сястра, уцешся! Смутак прагані,
Не паўставай супроць цячэння часу,
Чакай таго, што лёс наканаваў.
Будзь госцяй. Ты мне даражэй за ўсіх,
З табой ён абышоўся нізка, подла.
За крыўду мы разлічымся спаўна.
Багі нас выбралі сваёю зброяй,
Каб ліхадзея пакараць. Мы рады,
Што ты вярнулася.

Агрыпа

Мы вельмі рады.

Мецэнат

Няхай радзіма зноў цябе прытуліць!
Тваёй бядзе мы шчыра спачуваем,
І сэрцам кожны рымлянін з табой.
Адзін Антоній, шалапут юрлівы,
Сумленную жанчыну адштурхнуўшы,
З распусніцай нахабнай муціць свет.

Актавія

Паверыць цяжка, мілы брат.

Цэзар

Павер.
Жахлівы, але факт. Заходзь, сястра.
Ніякіх слёз! Цябе мы любім моцна.

Выходзяць.

## СЦЭНА 7

Лагер Антонія каля мыса Анцыума.
Уваходзяць Клеапатра і Энабарб.

Клеапатра

Табе я не дарую, будзеш ведаць!

Энабарб

За што? За што? За што?

Клеапатра

Ты выступаў супроць мяне: хацеў,
Каб я не заставалася пры войску.

Энабарб

А што табе рабіць тут?

Клеапатра

Але ж нам
Аб'яўлена вайна, і дзе ж мне быць,
Як не пры войску?

Энабарб
*(убок)*

Так-то яно так...
Але калі ў конніцу пусціць
Дзесяткі два кабыл, усё прапала:
Здурнеўшы, коні не туды паскачуць.

Клеапатра

Што ты сказаў?

Энабарб

Маўчу, маўчу, царыца.
Але я думаю — твая прысутнасць
Антонію нічым не дапаможа.
Не на цябе павінен траціць ён
Адвагу, час і розум. Дакараюць
Яго і так ужо за легкадумнасць.

А ў Рыме ходзяць чуткі, што вайну
Вядуць твой еўнух і твае служанкі.

Клеапатра

Хай згіне Рым! Хай языкі адсохнуць
У тых, хто гэта кажа! Бач, паскуды!
Кірую царствам я, мой абавязак
Прымаць удзел у баявых паходах,
З мужчынамі нароўні. Не пярэч!
Тут буду я, і ўсё.

Энабарб

Маўчу, царыца.

Уваходзяць Антоній і Канідзій.

Вось правадыр наш.

Антоній

Дзіўна мне, Канідзій,
Што ад Брундзізія і ад Тарэнта
Правёў ён морам гэтак шпарка флот
І захапіў Тарыну.— Чула ты,
Мая каханая?

Клеапатра

Чужая спрытнасць —
Нядбайнаму навука.

Антоній

Маладзец!
Разумным словам трапіла у цэль.
Канідзій, бой дадзім яму на моры.

Клеапатра

На моры. А то дзе ж!

Канідзій

Чаму на моры?

Антоній

Таму што Цэзар выклікае нас
Памерацца з ім сіламі на моры.

Энабарб

Вось які ён! Ты ж выклікаў раней!..

Канідзій

Збіраўся бой даць пры Фарсале, там
Дзе Юлій Цэзар перамог Пампея.
Твой выклік вораг адхіліў, знайшоў
Нявыгадным. Ты гэтак жа зрабі.

Энабарб

Што за народ на караблях тваіх:
Ратаі, мукамолы, пастухі,
Наспех навербаваны ўсякі зброд.
У Цэзара ж праверaныя людзі,
Пампея Секста разграмілі ўшчэнт.
Яго флот лёгкі, твой — цяжэйшы значна.
І ганьбы тут ніякай, калі ты,
Адмовіўшыся ад марскога бою,
Праявіш здольнасці свае на сушы.
Так будзе лепш.

Антоній

На моры, я сказаў.

Энабарб

О доблесны Антоній, не згаджайся!
У невядомым славы не шукай!
На сушы ты непераможны воін,
І практыка твая, тваё майстэрства
Узор і прыклад легіёнам нашым.
Не рызыкуй!

Антоній

На моры будзе бой.

Клеапатра

Я маю шэсцьдзесят пяць караблёў
Не горшых, чым у Цэзара.

Антоній

Мы спалім
Каторыя з іх лішнія, матросаў
Размесцім на астатніх і сустрэнем
Пры Акцыуме ворага як след.
А не патопім мы яго у моры,
Адолеем на сушы.

Уваходзіць ганец.

Што ў цябе?

Ганец

Пацвердзілася вестка, уладар:
Тарына ўзята Цэзарам. Ён там.

Антоній

Хто? Цэзар? Быць не можа! Так раптоўна!
Людзей пагнаў і сам туды з'явіўся.—
Канідзій, дзевятнаццаць легіёнаў,
Таксама коннікаў дванаццаць тысяч
Перадаю табе. Кіруй на сушы.
А мы — на караблі свае.— Хадзем,
Мая Фетыда!

Уваходзіць салдат.

З чым прыйшоў, салдат?

Салдат

Вялікі уладар і палкаводзец,
Нам непрывычна біцца на вадзе.
Не вер трухлявым дошкам, вер мячу.
Глянь на рубцы мае! Хай фінікійцы,
Хай егіпцяне плюхаюцца ў моры,
Нам, рымлянам, радней зямля. На ёй
Стаім мы цвёрда.

Антоній

Вось як! — Адплываем!

Выходзяць Антоній, Клеапатра і Энабарб.

Салдат

Ды гэта ж так, клянуся Геркулесам.

Канідзій

Гаворыш праўду, ветэран, але
Начальнік наш сваёй не мае волі:
Камандуе Антоніем жанчына.
Мы — войска бабскае.

Салдат

Як гэта так?
Твая ж і конніца і ўся пяхота.

Канідзій

Ну, я на сушы. Але ж ёсць і флот:
А там Марк Юстый, Марк Антоній, Цэлій,
Публіка. Ніхто ж не мог прадбачыць,
Што Цэзар прыплыве сюды так хутка.

Салдат

Яшчэ ў Рыме быў ён, а ўжо войскі
Свае паслаў наперад уразброб,
Каб ашукаць разведку.

Канідзій

Хто ў іх там
За камандзіра?

Салдат

Кажуць, нейкі Таўр.

Канідзій

А! Ведаю. Яго я знаю добра.

Уваходзіць ганец.

Ганец

Канідзія галоўны патрабуе.

Канідзій

Наш смутны час багаты на падзеі,
І кожны міг прыносіць навіну.

Выходзяць.

## СЦЭНА 8

Раўніна каля Акцыума.
Уваходзяць Цэзар і Таўр з воінамі.

Цэзар

Таўр!

Таўр

Слухаю, ўладар.

Цэзар

Наказ такі:
На сушы ў бой не ўвязвайся. Чакай,
Пакуль не пераможам мы на моры.
*(Перадае скрутак.)*
У гэтым скрутку мой загад. Выконвай.
Наш лёс павінен вырашыцца тут.

Выходзяць.

## СЦЭНА 9

Другая частка раўніны.
Уваходзяць Антоній і Энабарб.

Антоній

Паставіш конніцу за тым узгоркам,
Каб войска Цэзара было на воку.
Адтуль убачыш і варожы флот
І нашы баявыя караблі.
Сачы уважна. Будзь напагатове.

Выходзяць.

## СЦЭНА 10

Другая частка раўніны.
Уваходзіць Канідзій з войскам.
Праходзяць маршам з аднаго боку сцэны.
Уваходзіць Таўр з войскам.
Праходзяць маршам з другога боку.
Чуваць шум марской бітвы.
Трывога. Уваходзіць Энабарб.

Энабарб

Усё загінула. Канец! Канец!
Малюнак жудасны! О ганьба, ганьба!
«Антаніяда», судна Клеапатры,
Руль крута павярнуўшы, мчыцца прэч,
І чарада егіпецкіх галер
За ёю следам. Лепш бы мне аслепнуць!

Уваходзіць Скар.

Скар

О гнеў багоў! О духі апраметнай!

Энабарб

Чаго разбушаваўся? Што з табой?

Скар

Па дурасці мы страцілі паўсвету,
Параскідалі ўсе нашы набыткі,
Працалавалі царствы.

Энабарб

Як там бой?

Скар

Не бой, а пошасць, чорная чума.
Няма ратунку; смерць вісіць над намі.
Егіпецкая шылахвостка, сцерва,
Каб на яе праказа! — у момант схваткі,
Калі між перамогай і разгромам
Нам пачала ужо свяціць надзея,
Задрала парус — і хутчэй наўцёкі,

Як тая ашалелая карова,
Якую абляпілі авадні.

Энабарб

Я гэта бачыў, але больш глядзець
Не мог, заплюшчыліся з болю вочы.

Скар

Калі яна памчалася наперад,
Ахвяра чар магічных гэтай ведзьмы,
Антоній следам, як за качкай качар,
Заляпаў крыламі і драла даў,
Пакінуў бітву і людзей сваіх,
Адвагу, гонар, вопыт растаптаўшы.
Адступніцтва і сораму такога
Не назіраў я век.

Энабарб

О гора, гора!

Уваходзіць Канідзій.

Канідзій

Ледзь дыхае наш воінскі запал,
У моры топіцца. Каб наш галоўны
Такі быў, як раней, мы б іх разбілі.
Сваім ганебным здрадніцкім учынкам
Ён даў нам прыклад.

Энабарб

Што? І ты ўцякаць?
Тады нам сапраўды канец прыходзіць.

Канідзій

Яны ў Пелапанес плывуць абое.

Скар

А гэта недалёка. Я туды ж.
Пабачу, што далей.

Канідзій

Я з маім войскам
Да Цэзара прыстану. Шэсць цароў
Здаліся ўжо, і гэта ім не ў шкоду.

Энабарб

А я Антонія ўсё ж не пакіну,
Не адвярнуся ад яго ў бядзе,
Хоць вецер розуму і гоніць прэч.

Выходзяць.

## СЦЭНА 11

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзіць Антоній са світай.

Антоній

Сама зямля насіць мяне не хоча —
Ёй брыдка, сорамна. Сябры мае,
Сюды, бліжэй! Не ў час я нарадзіўся,
Навокал змрок, і выйсця мне няма.
Ёсць золата на караблі маім.
Бярыце скарб, дзяліце між сабою
І хто куды! Да Цэзара бяжыце!..

Усе

Нам бегчы? Нізашто!

Антоній

Я сам уцёк,
Сам спіну выставіў і паказаў
Дарогу баязліўцам. Уцякайце!
Я выбраў шлях, і вы больш не патрэбны.
Ратуйцеся! У гавані мой скарб.
Бярыце, аддаю. О ганьба, ганьба!
Хвіліна слабасці — і ўсё прапала.
Спляліся ў гневе валасы мае:
Каторы сівы — асуджае дурасць,

Каторы чорны — познюю любоў.
Сябры, бяжыце! Я вам дам лісты,
Якія ў небяспецы вам памогуць,
Не спачувайце мне і не сумуйце!
Рабіце так, як раіць вам мой боль.
Хто здрадзіў сам сабе, той варты здрады.
Бяжыце к міру і на карабель:
І золата маё і судна — вашы.
Прашу, мяне пакіньце. Вам загадваць
Я больш не маю права. Калі ласка,
Прашу вас. Мы пабачымся яшчэ.

*(Садзіцца.)*

Уваходзіць Клеапатра.
Яе вядуць пад рукі Харміяна і Ірада. Следам — Эрос.

Эрос

Царыца, падыдзі, уцеш яго.

Ірада

Уцеш, царыца!

Харміяна

Падыдзі, уцеш!

Клеапатра

Я сяду. О Юнона!

Антоній

Не, не, не, не, не!

Эрос

Зірні, мой уладар.

Антоній

О сорам, сорам!

Харміяна

Царыца!

Ірада

Найяснейшая царыца!

Эрос

Мой уладар!

Антоній

О сорам, сорам, сорам!
Што гэты Цэзар! Драбяза! Сапляк!
Ён пры Філіпах як цвыркун скакаў,
Мяча трымаць не ўмеў. Я ж у той дзень
Худога Касія праткнуў наскрозь
І ашалелага прыкончыў Брута.
А ён без падначаленых ні кроку,
Рукамі іншых славу здабываў.
І вось цяпер... Ды што я? Мне ўсё роўна.

Клеапатра

Слабею. Памажыце!

Эрос

Уладар,
Царыца тут. Перад табой царыца.

Ірада

Пагавары з ім, мілая царыца,
Ён сам не свой ад сораму.

Клеапатра

Ну добра.
Ды што ж вы? Падтрымайце! О!..

Эрос

Устань, высакародны ўладар,
Ідзе царыца, галаву схіліўшы;
Яна памрэ, калі яе не ўцешыш.

Антоній

Я абняславіў сам сябе навекі.
Паплыў? За кім? Чаго?

Эрос

Царыца тут.

Антоній

О, егіпцянка! Давяла мяне...
Любуйся, як пакутуе Антоній!
Усё, чым ганарыўся ён, разбіта.

Клеапатра

Даруй пужлівым ветразям маім,
Мой абаронца! Ці ж магла я думаць,
Што кінешся ты ўслед.

Антоній

Не, егіпцянка,
Ты ведала, што сэрца майго руль
Трымаеш у руках, што маеш сілу
Адным кіўком сваім мяне прымусіць
Парушыць волю і наказ багоў.

Клеапатра

Даруй!

Антоній

Цяпер мне трэба слаць паслоў
Да хлапчука з паклонам і пакорай,
Хітрыць, крывіць душою, уніжацца? —
Ды [illegible] ж паўсвету меў, я кіраваў
Народамі!.. Ты ж ведала, ты знала,
Што я ў тваім палоне і мой меч,
Аблытаны каханнем, — твой слуга.

Клеапатра

Даруй мне, любы!..

Антоній

Не плач, не плач! Адна твая сляза
Мне даражэй маіх былых багаццяў.
Што тыя скарбы! Пацалуй мяне.
Твой пацалунак апраўдае ўсё. —
Адправіў я да Цэзара паслом
Настаўніка, што быў пры нашых дзецях.

Ён не вярнуўся? — Любая мая,
Нібы свінцом маё наліта цела.—
Гэй, вы! Хутчэй! Віна сюды, закусак!
Хай крыўдзіць лёс! Няхай фартуна шкодзіць!
Хто шчасця хоча, той яго знаходзіць.

Выходзяць.

## СЦЭНА 12

Лагер Цэзара ў Егіпце.
Уваходзяць Цэзар, Далабела, Тырэй і іншыя.

Цэзар

Пасла прыслаў Антоній. Прывядзіце!
Хто ён такі?

Далабела

Настаўнік іхніх дзетак.
Антонія, як пеўня, аблупілі.
Ад пышнага свайго хваста прыслаў
Мізэрную пушынку. А нядаўна ж
Прымаў на пабягушках гурт цароў.

Уваходзіць Еўфроній.

Цэзар

Ну, падыдзі. Што скажаш?

Еўфроній

Уладар,
Я чалавек ад спраў вайны далёкі,
Як той лісток у акіяне бурным,
Але, які б ні быў, я ўсё ж пасол
Антонія.

Цэзар

Ну, гавары... пасол.

Еўфроній

Гаспадара жыцця свайго і лёсу
Вітае ён і просіць аднаго:
Дазволу заставацца у Егіпце.
А калі нельга, ён аб меншым просіць,
Дазволь яму зямным паветрам дыхаць,
Дажыць свой век дзе-небудзь у Афінах
Прыватнаю асобай. Клеапатра,
Тваю прызнаўшы веліч і магутнасць,
Заступніцтва шукае у цябе,
Жадае, каб кароны Пталамеяў
Не адбіраў ты ад яе дзяцей.
Яві ім ласку, Цэзар.

Цэзар

Бач, ён просіць!
Не чую я, чаго Антоній просіць,—
Глухі. А што датычыцца царыцы —
Магу уважыць, але патрабую,
Каб неадкладна выгнала з Егіпта
Свайго дружка зладзюгу. А яшчэ лепш,
Схапіць яго і галаву адсеч.
Вось мой адказ ім абаім. Запомні.

Еўфроній

Няхай багі пашлюць табе удачу!

Цэзар

Праводзьце цераз лагер пасланца.

Еўфроній выходзіць.

*(Тырэю)*
Табе заданне ёсць. Гаворыш складна.
Цяпер для красамоўства самы час.
Нам трэба Клеапатру разлучыць
З Антоніем. Паабяцай усё ёй,
Што б ні прасіла, ад майго імя.
І ад сябе прывабнае што-небудзь
Прыдумай і шапні ёй далікатна.
Жанчыны — нетрывалыя і ў шчасці,
Калі ж бяда каторую прыцісне,

Тут і весталку можна спакусіць.
Будзь хітрым і напорыстым, Тырэй.
Узнагароду сам сабе прызначыш —
Я не адмоўлю. Што сказаў — закон.

Тырэй

Я згодзен, Цэзар.

Цэзар

І звярні ўвагу,
Як гэты крах свой перанёс Антоній,
Як ён трымаецца, і зробіш вывад
Паводле ўчынкаў аб яго намерах.

Тырэй

Усё сваё старанне прыкладу.

Выходзяць.

## СЦЭНА 13

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзіць Клеапатра, Энабарб, Харміяна і Ірада.

Клеапатра

Хачу ў цябе спытацца, Энабарб...
Што нам рабіць?

Энабарб

Падумаць і памерці.

Клеапатра

Хто ж вінаваты з нас? Я ці Антоній?

Энабарб

Антоній. Толькі ён. Сваім пачуццям
Ён падначаліў розум. Ты ўцякала,

Убачыўшы жахлівы твар вайны,
Напужаная лютасцю звярынай.
А ён чаго памчаўся? Страсць пагнала.
Забыў пра абавязкі палкаводца
Ў той час, калі дзве палавіны свету
Ілбамі стукнуліся праз яго.
Глядзець было балюча і агідна,
Калі ён за тваёй кармою мчаўся,
Пакінуўшы ў разгубленасці флот.

Клеапатра

Ні слова больш!

Уваходзяць Антоній і Еўфроній.

Антоній

Дык вось яго умовы!..
Няўжо ён так сказаў?

Еўфроній

Так і сказаў.

Антоній

Паабяцаў царыцы ўсе выгоды,
Калі мяне прадасць?

Еўфроній

Я не маню.

Антоній

А ты ёй паўтары.
*(Клеапатры)*
Што ж, пасылай
Удачліваму Цэзару ў падарак
Сівую галаву маю. Юнак
Цябе за гэта царствамі асыпле.

Клеапатра

Мяне? За галаву тваю?

Антоній
*(Еўфронію)*

Ідзі
Ізноў да Цэзара. Скажы яму,
Што ён расцвіў, як веснавая ружа,
І мог бы праявіць сябе героем,
Не прыкрываючыся славай іншых.
Не сам ён, палкаводцы ваявалі,
А на чале стаяць мог і хлапчук.
Я выклікаю скрыжаваць мячы
Са мной на паядынку, без падмогі,
І свет здзівіць адвагай асабістай.
Я зараз напішу яму. Хадзем.

Антоній і Еўфроній выходзяць.

Энабарб
*(убок)*

Так ён і згодзіцца! Магутны Цэзар
Растопча шчасце, выйдзе на арэну
Махаць мячом, як варвар-гладыятар!..
Апору страціўшы, мы трацім розум,
Гатовы ухапіцца за саломку,
Калі нас доля пакаціла ўніз.
Знайшоў раўняцца з кім! Пустыя мары!
З разгромленым не будзе біцца Цэзар,
Ён не здурнеў.

Уваходзіць прыдворны.

Прыдворны

Ад Цэзара пасол.

Клеапатра

Як проста, бедненька, без цырымоній!
Царыцу што, не паважаюць болей?
Калісьці на каленях падпаўзалі...
Няхай увойдзе.

Прыдворны выходзіць.

Энабарб
*(убок)*

Спрэчка у мяне.
З маім сумленнем зараз: так ці гэтак.
Служыць у дурня — ліха набярэшся.
Калі ж захоўваць вернасць да канца,
З правадыром сваім загінуць разам,
Учынак мой гісторыя прызнае.

Уваходзіць Тырэй.

Клеапатра

Чаго жадае Цэзар?

Тырэй

Я хацеў бы
Сказаць табе адной.

Клеапатра

А ты не бойся.
Са мною тут мае сябры.

Тырэй

Але ж
Яны сябры Антонія таксама.

Энабарб

Іх мала у Антонія, а вось
У Цэзара цяпер іх вельмі многа.
Калі дазволіць Цэзар, гаспадар наш
З ахвотаю адновіць дружбу з ім,
А значыцца, і мы.

Тырэй

Намер пахвальны.—
О найслаўнейшая з усіх царыц,
Не думай пра бяду сваю — так просіць,
Так раіць Цэзар, помні аб адным,
Што Цэзар будзе Цэзарам заўсёды.

Клеапатра

Па-царску сказана. І што далей?

Тырэй

Ён ведае, што не каханне, страх
Штурхнуў цябе к Антонію ў абдымкі.

Клеапатра

О!

Тырэй

Гонар твой — драпежніка здабыча,
І пляма ганьбы — не твая віна.
Табе наш Цэзар шчыра спачувае.

Клеапатра

Ён бог і праўду ведае. Мой гонар
Узяты гвалтам, сілаю.

Энабарб
*(убок)*

Ого!
Цікава б у Антонія спытацца.—
Эх, правадыр наш, і папаўся ж ты!
Твая каханка ад цябе ў кусты.
Цячэ твой карабель. Пара і нам
На бераг бегчы, каб не даць нырца.
*(Выходзіць.)*

Тырэй

Што Цэзару сказаць, чаго ты просіш?
Табе жадае Цэзар дагадзіць.
Ён быў бы задаволены, каб ты
Свае надзеі ўсклала на яго,
Любімца і абранніка Фартуны.
Ён быў бы рад пачуць паведамленне,
Што ты, Антонія прагнаўшы прэч,
Схілілася да ўладара паўсвету.

Клеапатра

Як зваць цябе?

Тырэй

Завуць мяне Тырэй.

Клеапатра

Пасол пачцівы, Цэзару скажы,
Што я пры сведках, на калені стаўшы,
Цалую шчодрую яго руку,
Што я гатова свой вянец пакласці
Да ног яго і выслухаць прысуд
Егіпту ад цара цароў.

Тырэй

Цудоўна!
Калі ўдача з мудрасцю не ў згодзе,
Мудрэй за ўсё здавольвацца малым —
Спакой жыцця тады не пахіснецца?
Яві мне ласку за маё старанне —
Дазволь прыпасці да тваёй рукі.

Клеапатра

Не раз, не раз нябожчык Юлій Цэзар,
Калі ў паход збіраўся, цалаваў
Маю руку злашчасную!.. Любіў ён...
*(Тырэй цалуе ёй руку.)*

Уваходзяць Антоній і Энабарб.

Антоній

Дамовіліся ўжо!.. Гром і маланкі! —
Хто ты такі?

Тырэй

Я выканаўца волі
Уладара магутнейшага ў свеце,
Таго, хто вырашае лёс людскі.

Энабарб
*(убок)*

Ой, дасць табе ён зараз, дасць!

Антоній

Гэй, слугі!
Ах, шэльма, вырадак! — Ды дзе ж яны!
Бывала, крыкну: «Гэй!» — і чарадой
Бягуць цары, глядзяць лісліва ў вочы.
Вы што, аглухлі?

Уваходзяць слугі.

Я яшчэ Антоній.
Узяць раба і бізунамі!..

Энабарб
*(убок)*

Вось як!
Прыемна гладзіць ільвяня малое,
А леў, і паміраючы, ўсё ж леў.

Антоній

Прыпоўз, нягоднік!.. Адхвастаць яго!
Ды каб хоць дваццаць з Цэзаравай світы
З'явілася вяльмож, я б загадаў
За дзёрзкі дотык да яе рукі...
Чыёй? Яе? Яна не Клеапатра.
Вядзіце прэч раба! Усыпце гаду,
Пакуль, скрывіўшы морду, не заенчыць
І не папросіць літасці!

Тырэй

Антоній!..

Антоній

Вядзіце, адлупцуйце і сюды
Дастаўце на карачках. Блазен гэты
Ад нас да Цэзара з пісьмом паскача.

(Слугі выводзяць Тырэя.)

Ты ж напалову адцвіла ужо,
Калі я ўзяў цябе. Пакінуць жонку,
Што аздабляла Рым, як дыямент,
З якой я мог бы мець дзяцей законных,
Каб здзекавалася з мяне пасля
Распусніца з прыдворным дармаедам!

Клеапатра

Мой уладар!

Антоній

Прадажная істота!
Але, калі па вушы мы ў грахах,
Багі нам пасылаюць слепату,
Узбаламучваюць свядомасць нашу
І, прывучыўшы нас рабіць памылкі,
Глядзяць са смехам, як ляцім мы ў прорву,
Шукаем самі гібелі сабе.

Клеапатра

О, да чаго дайшло!

Антоній

Мне Юлій Цэзар
Цябе як недаедак свой пакінуў,
І Гней Пампей кавалак свой урваў,
А колькі іншых, ім канца няма,
З табою разам цешылі свой юр.
Я ўпэўнены, што стрымлівацца ты
Не ўмееш, не прывыкла.

Клеапатра

Не кажы так!

Антоній

Дазволіць, каб паскудны паслугач
Лізаў руку маёй сяброўкі любай,
З царыцаю запанібрата быў!
Каб гэта ўбачыў я з вышынь Базанскіх,
Рыкаў мацней бы, чым рагаты гурт!

Ёсць у мяне прычына азвярэць,
Быць зараз далікатным усё роўна,
Што дзякаваць з пятлёй на шыі кату,
Пад шыбеніцай стоячы.

*Вяртаюцца слугі з Тырэем.*

Ага!..

Ну як, усыпалі?

Першы слуга

І нават добра.

Антоній

Крычаў? Прасіўся?

Першы слуга

Даравацъ прасіў.

Антоній

Калі жывы твой бацька, хай ён плача,
Што не дачка ў яго, а дурань сын.
Да Цэзара выслужвацца палез!
Што ж, атрымаўшы шчодры пачастунак,
Не будзеш болей ласа пагладаць
На беленькія ручкі, пабаішся.
Да Цэзара вяртайся, раскажы,
Як тут цябе прымалі. Перадай,
Што я злуюся на яго страшэнна:
Хвалько, зазнайка, трубіць на ўвесь свет,
Якім я стаў, забыўшы, кім я быў.
Цяпер мой гнеў распальваецца лёгка,
Бо зоркі тыя, што свяцілі мне,
З арбіт сышоўшы, падаюць у бездань.
Калі ж твой задавака гаспадар
Не ўпадабае слоў маіх і ўчынкаў,
Дык мой вольнаадпушчанік Гіпарх
Там у яго пад вартай. Цэзар можа
Караць яго, як хоча: мучыць, вешаць,
Каб мне адпомсціць за твае рубцы.
Чаго чакаеш, падла? Вон адгэтуль!

*Тырэй выходзіць.*

Клеапатра

Усё сказаў?

Антоній

Мая зямная поўня,
У зацьменні ты, а гэта ўжо адно
Антонію падзенне прадвяшчае.

Клеапатра

Яшчэ што?

Антоній

Цэзару каб дагадзіць,
Гатова ты прылашчыць і халопа,
Які падвязвае яму сандалі.

Клеапатра

Мяне ты дрэнна ведаеш.

Антоній

Астыла!..
Няма агню. Астыла да мяне.

Клеапатра

А калі так, мой любы, хай жа сэрца
Халоднае маё народзіць град,
Атрутаю ўсярэдзіне наліты!
І першай градзінаю хай багі
Заб'юць мяне, а потым знішчаць, спляжаць
Маіх дзяцей і слаўны мой народ!
А як прамчыцца бура ледзяная
І град растане, трупы хай згніюць
Без пахавання! Хай іх смаліць сонца
І пажыраюць нільскія маскіты!

Антоній

Не гавары так! Веру я. Дык вось:
У Цэзара намер Александрыю
Узяць асадай. Я не дапушчу.

Мы будзем біцца. Наша войска ў сіле,
А флот рассыпаны ізноў сабраўся,
Чакае ў гавані. О мужнасць, дзе ты?
Я мужнасці не страціў! І калі
Жывым вярнуся да цябе, каб смагу
З тваіх ласкавых вуснаў наталіць,
Мой меч, акроплены варожай кроўю,
Праславіцца ў паданнях на вякі.
Яшчэ надзея ёсць!

Клеапатра

Герой мой любы!

Антоній

Мне дух уздыме палкая нянавісць,
Бязлітасны у бітве буду я.
Бывала, ў дні удач маіх ранейшых
Праціўнік жартам выкруціцца мог,
Жыццця не адбіраў я, а цяпер
У Тартар, сцяўшы зубы, паскідаю
Усіх, хто стане на шляху маім.
Няхай вясёлай будзе гэта ноч!
Хадзем! — Военачальнікаў паклічце! —
Панурасць прэч! Ізноў напоўнім чашы,
Каб ліха адкаснулася ад нас.

Клеапатра

А у мяне дзень нараджэння сёння.
Я думала, што буду сумаваць,
Але раз ты, ўладар мой, зноў Антоній,
Я зноў твая навекі Клеапатра.

Антоній

Ну вось і адсвяткуем.

Клеапатра

Палкаводзец
Склікае камандзіраў да сябе.

Антоній

Так, так. Аб'явім ім сваё рашэнне.
А ўвечары такі банкет наладзім —

Зазіхацяць іх шрамы ад віна.
Хадзем, мая царыца! Ёсць яшчэ
Жывыя сокі ў нас. Змагацца будзем,
Аж пазайздросціць смерць з яе касою
Майму мячу.

Выходзяць усе, апрача Энабарба.

Энабарб

Цяпер, каб ляснула маланка нават,
Ён не маргнуў бы вокам. Гнеў вялікі
Ад страху вызваляе. У запале
І голуб можа на арла напасці.
У палкаводца нашага адвага,
Як бачу я, з'ядае розум. Храбрасць
Без розуму — пустое спадзяванне.
Пара, відаць, і мне яго пакінуць.

Выходзіць.





# АКТ ЧАЦВЁРТЫ

## СЦЭНА 1

Лагер Цэзара каля Александрыі.
Уваходзяць Цэзар, Агрыпа, Мецэнат і воіны.
У Цэзара ў руцэ пісьмо.

Цэзар

Мяне ён называе хлапчуком,
Палохае, што выкіне з Егіпта.
Паслу майму дубцоў даць загадаў
І выклікаць асмеліўся, нахабнік,
Мяне на паядынак! Смех, дый годзе!
Антоній — Цэзара! Пара яму,
Старому грубіяну, зразумець,
Што, калі я памерці пажадаю,
Знайду дарогу без яго паслуг.

Мецэнат

Калі шалее гэтакі асілак,
Дык, значыць, ён загнаны. Не давай
Яму апамятацца, наступай:
Раз'юшаны хутчэй трапляе ў пастку.

Цэзар

Военачальнікаў апавясціць:
На заўтра прызначаю бой апошні.
У войску ў нас нямала ўцекачоў,
Што кінулі Антонія, няхай
Яны яго цяпер хапаюць самі.

За гэтым прасачыць. Пачаставаць
І ўволю накарміць усіх салдат.
Прыпасы ёсць. Няўдачнік ты, Антоній!

Выходзяць.

## СЦЭНА 2

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзяць Антоній, Клеапатра, Энабарб, Харміяна, Ірада, Алексас і іншыя.

Антоній
*(Энабарбу)*

Ёсць што? Адмовіўся ад паядынку?

Энабарб

Ну так.

Антоній

Чаму?

Энабарб

Сябе шчасліўцам лічыць,
Мацнейшым за цябе разоў у дваццаць.
Адзін і дваццаць — не раўня.

Антоній

Ах, так!
Дык заўтра я на сушы і на моры
Яму дам бой. Альбо жывым вярнуся,
Альбо, сваёю кроўю змыўшы плямы,
Праслаўленым, сыду у неўміручасць.
Скажы мне, Энабарб, за мною ўслед
Ты ў бітву кінешся?

Энабарб

А як жа. З крыкам:
«Эгей! Згінь, прападзі усё!»

Антоній

Не жартуй! —
Збярыце слуг маіх. Усіх сюды!

Уваходзяць слугі.

Рыхтуйце нам багатую вячэру.—
Дай мне руку, ты мне служыў аддана.—
І ты.— І ты.— І ты.— Служылі добра,
Лепш, чым цары зямныя.

Клеапатра
*(Энабарбу)*

Што ён кажа?

Энабарб
*(Клеапатры)*

Калі бушуе гора ў чалавеку,
Язык гатовы плесці абы-што.

Антоній

І ты сумленны быў.— Хацеў бы я
Змяніць сваё становішча на ваша:
Ператварыцца ў гурт руплівых слуг,
А вас Антоніем зрабіць адным,
Каб паслужыць вам гэтак жа, як вы
Служылі мне.

Слугі

Багі, не дапусціце!

Антоній

Сябры, са мною будзьце ў гэты вечар.
Як чашы апарожнім, налівайце,
Віна не шкадаваць! Што загадаю,
Выконвайце адразу, каб я думаў:
Імперыя, як вы, яшчэ мне служыць.

Клеапатра

Чаго ён дамагаецца?

Энабарб

Спагады.

Антоній

Не адыходзьце ад мяне... Магчыма,
На гэтым абарвецца ваша служба
І вы мяне не ўбачыце, сябры,
Альбо убачыце мой труп. Магчыма,
Ў вас будзе заўтра новы гаспадар,
І сёння я развітваюся з вамі.
Я не ганю вас, я прывык да вас,
І разлучыць нас можа толькі смерць.
Дык паслужыце мне з усім стараннем
Яшчэ гадзіны дзве, і вас багі
За гэта ўзнагародзяць.

Энабарб

Не кажы так,
Не растрывожвай сэрцаў. Людзі плачуць,
І нават я, дурны, слязу пусціў,
Нас бабамі ты робіш. Сорам! Сорам!

Антоній

Не, не! Клянуся! Мой намер быў іншы,
А слёзы вашы — шчырасці адзнака.
Сябры мае, не прычыніць вам боль
Хацеў я словам, а падняць ваш дух,
Святлом паходняў гэту ноч развеяць.
Не сумнявайцеся ва мне, я веру
Ў дзень заўтрашні і павяду народ мой
Змагацца за шчаслівае жыццё,
І смерць ад нас адступіць. Дык хадзем,
Адзначым дружбу і любоў банкетам,
Утопім думкі змрочныя ў віне.

Выходзяць.

## СЦЭНА 3

Там жа. Перад палацам.
Уваходзяць два салдаты-вартавыя.

Першы салдат

Здароў, браток! Ну, заўтра нешта будзе.

Другі салдат

Павінна вырашыцца. Каб жа добра!
Нічога ты не чуў?

Першы салдат

Ды не. А што?

Другі салдат

Ды так! Гавораць featuresрознае... Дабранач!

Першы салдат

Жадаю і табе таго ж. Дабранач!

Уваходзяць яшчэ два салдаты.

Другі салдат

Браткі, трымайцеся: усё можа быць.

Трэці салдат

Не ўздумайце і вы драмаць. Дабранач!

Першы і другі салдаты становяцца на варту каля палаца.

Чацвёрты салдат

А мы тут станем.

Трэці і чацвёрты салдаты становяцца з другога боку.

Калі заўтра флот
Не падвядзе, не здрэйфіць, то на сушы
Мы іх адолеем, кажу напэўна.

Трэці салдат

Салдаты нашы во! Умеюць біцца.

Гукі габояў пад сцэнай.

Чацвёрты салдат

Стой ціха! Нейкі шум.

Першы салдат

Увага! Чуеш?

Другі салдат

А як жа.

Першы салдат

Музыка...

Трэці салдат

Як з-пад зямлі.

Чацвёрты салдат

А гэта добры знак?

Трэці салдат

Наўрад ці добры.

Першы салдат

Прыслухайся... Цішэй! Што гэта значыць?

Другі салдат

Бог Геркулес, Антонія любімец,
Апеку зняўшы, маршыруе прэч.

Першы салдат

Хадзем, спытаем, як у іх.

Падыходзяць да другога паста.

Другі салдат

Вы чулі?

Усе
*(наперабой)*

Ну так. І вы. І мы. Іграюць недзе.

Першы салдат

Ага, іграюць. Вам гэта не дзіўна?

Трэці салдат

Вы чуеце, браткі?

Першы салдат

Праверыць трэба
У межах нашай варты. Што такое?
Адкуль бярэцца гэты шум?

Усе

Дзівосы!

Выходзяць.

## СЦЭНА 4

Там жа. Пакой у палацы.
Уваходзяць Антоній, Клеапатра, Харміяна і іншыя прыбліжаныя.

Антоній

Эрос, нясі даспехі мне!

Клеапатра

Паспаў бы.

Антоній

Пара, мая любоў. Эрос, даспехі!

Уваходзіць Эрос з даспехамі.

Адзень мяне ў жалеза, дружа мой.—
Калі Фартуна ў бітве не паможа,
Сабе паможам самі.— Надзявай!

Клеапатра

Дай мне. Я памагу. За што тут брацца?

Антоній

Не, не, о збраяносец майго сэрца,
Не ўмееш ты. Не так, не так, не так.

Клеапатра

Ага! Ну вось... Твой панцыр на табе.

Антоній

Так, так. Цяпер мы ім пакажам, злыдням.
*(Эросу)*
Вучыся, дружа. Бачыш. Сам збірайся.

Эрос

Я мігам.

Клеапатра

Вось. Ну, як я зашпіліла?

Антоній

Цудоўна. Вельмі добра. Паляціць,
Задраўшы пяты ўгору, той нягоднік,
Які адважыцца мяне крануць.—
Марудны ты, Эрос. Глядзі, як спрытна
Ўвіхаецца мой новы збраяносец —
Царыца наша. Што ж ты так?.. Хутчэй! —
Каб ты, мая любоў, магла зірнуць
На сённяшні наш бой вачамі знаўцы,
Маё майстэрства ацаніла б ты.

Уваходзіць узброены салдат.

Здароў, салдат. Храбрэц, адразу бачу.
Калі нам справа даспадобы, мы,
Да сонца ўстаўшы, за яе бяромся.

Салдат

Дакладваю, ўладар: хоць час і ранні,
Узброеныя тысячы ўжо ў зборы.
На беразе цябе чакае войска.

Крыкі. Гукі труб.
Уваходзяць военачальнікі і салдаты.

Военачальнік

Дзень надышоў. Жыві, наш правадыр!

Усе

Жыві, жыві, жыві!

Антоній

Я рад, сябры.
О ранне светлае! У гучных крыках
Адчуў я подых вашай маладосці.—
Падай мне гэта. І яшчэ... Ну, ўсё.
Шчаслівай будзь, царыца, што б са мной
Ні здарылася. Я загартаваны.
Браня перашкаджае быць пяшчотным,
І доўга гаварыць няма калі.
Цалую моцна, як салдат. Бывай! —
За мною, воіны мае! Наперад!

Антоній, Эрос, военачальнікі і салдаты выходзяць.

Харміяна

Я праўяду цябе ў твае пакоі.

Клеапатра

Вядзі. Пайшоў ён. Бой гарачы будзе.
Антоній Цэзара ў адзінаборстве
Напэўна перамог бы. А цяпер...
Не ведаю, чым кончыцца. Хадзем.

Выходзяць.

## СЦЭНА 5

Лагер Антонія каля Александрыі.
Трубы. Уваходзяць Антоній і Эрос, насустрач ім стары салдат.

Салдат

Няхай багі пашлюць табе удачу!

Антоній

О, каб тады твае рубцы і шрамы
Мяне натхнілі бітву даць на сушы!

Салдат

Каб так было, цароў рахманых зграя

Не адвярнулася б і ўранні сёння
Не збег бы ад цябе саратнік твой.

Антоній

Уранні сёння? Хто ж гэта?

Салдат

Хто быў за ўсіх бліжэйшы. Энабарб.
Пакліч яго, цябе ён не пачуе.
Хіба што рэха данясе адтуль,
Ад Цэзара: «Табе больш не служу».

Антоній

Што ты гаворыш? Быць не можа?

Салдат

Праўда.
У Цэзара ён зараз.

Эрос

Уладар,
Яго ўсе скарбы тут, не ўзяў нічога.

Антоній

Няўжо і гэты здрадзіў мне?

Салдат

Ну так.

Антоній

Дык вось, Эрос, адпраў яму туды
Услед за ім і ўсю яго маёмасць.
І напішы, я падпішу пісьмо,
Што я развітваюся з ім сардэчна,
Жадаю поспехаў і спадзяюся,
Што больш яму не прыйдзецца мяняць
Гаспадара свайго. О лёс мой горкі,
Ты і сумленнага разбэсціў нават,—
Зрабі, як я сказаў.— Эх, Энабарб!

Выходзіць.

## СЦЭНА 6

Лагер Цэзара каля Александрыі.
Трубы. Уваходзяць Цэзар, Агрыпа, Энабарб і світа.

Цэзар

Агрыпа, пачынай. Каманда: к бою!
Апавясці, што мы павінны ўзяць
Антонія жывым.

Агрыпа

Апавяшчу.

Выходзіць.

Цэзар

Жаданы мір ужо нам свеціць з неба.
Мы пераможам. І тры часткі свету
З'яднаюцца пад засенню аліў.

Уваходзіць ганец.

Ганец

Антоній выступіў.

Цэзар

Скажы Агрыпе,
Каб перабежчыкаў усіх паставіў
У першыя рады, няхай Антоній
Сячэ сваіх, шалеючы ад злосці.

Выходзяць. Застаецца адзін Энабарб.

Энабарб

Алексас прагадаў. Па пільнай справе
Адпраўлены паслом у Іудзею,
Падгаварыў ён Ірада-цара
Парваць з Антоніем і далучыцца
Да Цэзара. А Цэзар у падзяку
Паслужлівага здрадніка распяў.

Канідзія і розных іншых Цэзар
Трымае ў войску, але ім не верыць.
Я ж подласць учыніў — і вось пакута,
Мучэнне страшнае.

Уваходзіць салдат Цэзара.

Салдат

Гэй, Энабарб!
Прыслаў табе Антоній скарб вялікі,
Увесь набытак твой і нават больш.
Ідзі хутчэй. Каля тваёй палаткі
Скідае куфры з мулаў пасланец.

Энабарб

Бяры сабе.

Салдат

Не верыш мне стары?
Я не падманваю. Правесці трэба
Слугу назад. Зрабіў бы гэта я,
Але мне нельга, на пасту стаю.
А твой былы начальнік, як Юпітэр,
Аберагае гонар свой — ого!

Выходзіць.

Энабарб

Нягоднік я, зямлю сабой паганю
І гэта бачу сам. О Марк Антоній,
Дзе мера шчодрасці тваёй! Што б даў ты
За службу верную, калі цяпер
Мяне узнагароджваеш за здраду!
Ты мне параніў сэрца, і яно
Не выцерпіць, парвецца хутка з гора.
А калі выцерпіць, ёсць іншы сродак!
Ды што шукаць? Заб'е, задушыць роспач.
Быць ворагам Антонію? О не!
Пайду, знайду вадой заліты роў
І здохну там, у брудзе захлынуся.
Я лепшага канца не заслужыў.

Выходзіць.

## СЦЭНА 7

Поле бою паміж двума берагамі. Шум бітвы.
Трубы і барабаны.
Уваходзяць Агрыпа з камандзірамі.

Агрыпа

Мы надта ўрэзаліся. Адступіць!
Сам Цэзар кіраваў. Хто мог чакаць
Такога моцнага супраціўлення?

Выходзяць.

Шум бітвы.

Уваходзяць Антоній і паранены Скар.

Скар

Вось гэта бой! Адразу б так ударыць,
З іх юшку выпусціць, даўно прагналі б.

Антоній

А ты ў крыві.

Скар

Ды секанулі трошкі,
Але нічога, мне не ўпершыню.

Шум адступлення.

Антоній

Я чую, адступаюць.

Скар

Дзе ім дзецца.
У ямы іх смярдзючыя загонім.
Няхай на мне слядоў вайны, як бобу,
Знайду і цаліны рубцоў на шэсць.

Уваходзіць Эрос.

Эрос

Яны бягуць, мой уладар, а значыць,
Мы выйгралі і перамога наша.

Скар

Як зайцаў гнаць! Мы ім распішам спіны.
Ды гэта ж радасць, гэта асалода
Правучваць баязліўцаў!

Антоній

Маладзец!
Цябе я ўзнагароджу за дасціпнасць,
Твая ж адвага — ёй цаны няма.
Хадзем, мой верны воін.

Скар

За табою
Хоць на адной назе гатоў скакаць.

Выходзяць.

## СЦЭНА 8

Пад сценамі Александрыі.
Шум бітвы. Уваходзяць Антоній і Скар
з войскам.

Антоній

Мы іх адкінулі назад у лагер.—
Гэй, хто з вас там,— апавясціць царыцу.
Яшчэ і сонца не паспее заўтра
Зірнуць на нас, як з гэтых недабіткаў
Мы выпусцім апошнюю іх кроў.—
Падзяка ўсім. Выдатна ваявалі.
Натхненнем абавязак акрыліўшы,
З'яднаныя са мной агульнай мэтай,
Былі вы Гектарамі. А цяпер
Хутчэй у горад, абдыміце жонак,
Сяброў сваіх і раскажыце ім
Пра вашы подзвігі. Няхай абмыюць
Шчаслівымі слязамі вас жывых
І пацалункамі загояць раны.

*(Скару)*

Дай мне руку.

Уваходзіць **Клеапатра** са світай.

Вялікай чараўніцы
Я пра тваю адвагу раскажу,
Яе падзяка дарагога варта.—
Істота незямная! Абдымі
Маю жалезам сціснутую шыю,
Ва ўборах царскіх пад браню пранікні,
Да сэрца прытуліся і паслухай,
Як радуецца за цябе яно.

Клеапатра

О волат мой! Храбрэйшы з храбрацоў,
Увасабленне годнасцей высокіх,
З усмешкаю адолееў ты падкопы
Каварных злоснікаў.

Антоній

Мой салавей!
На ложак смерці мы паклалі многіх,
Каханая, хоць галава мая
Кранута сівізной, але мой розум
Яшчэ не здаўся: сілай і здагадкай
Спаборнічаць магу я з юнаком.
*(Паказваючы на Скара)*
Вось ён. Зірні на гэтага героя
І паднясі ў знак найвялікшай ласкі
Сваю руку к яго губам.— Цалуй! —
Крышыў ён ворагаў з такім запалам,
Нібы ў яго ўсяліўся бог вайны.

Клеапатра

Я дам табе даспехі залатыя,
Што некалі належалі царам.

Антоній

Ды каб яны былі і ў дыяментах,
Блішчалі так, як калясніца Феба,—
Ён варты ўзнагароды. Дай руку.

Мы пройдзем маршам праз Александрыю,
Падняўшы з гордасцю свае шчыты,
Пасечаныя ў бітве. Каб палац наш
Быў больш прасторны і ўмясціць мог войска,
Мы б селі разам за шырокі стол
І выпілі за сённяшні наш поспех
І за ўдачу заўтрашняга дня.
Гэй, трубачы, хай зычны голас медзі
І грукат барабанаў баявых
Аглушыць горад. Неба і зямля
Хай радуюцца перамозе нашай.

Выходзяць.

## СЦЭНА 9

Лагер Цэзара.
Салдаты стаяць на варце.

Першы салдат

Калі праз паўгадзіны нас не зменяць,
Наказ такі — вярнуцца, не чакаць.
Ноч месячная. Кажуць, бой пачнецца
У дзве гадзіны раніцы.

Другі салдат

Учора
Далі нам дыхту, браце,— о-ё-ёй!

Уваходзіць Энабарб.

Энабарб

О ноч, будзь сведкаю!..

Трэці салдат

Хто гэта там?

Другі салдат

Маўчы, паслухаем...

Энабарб

О месяц ясны,
Вартуеш ты і неба і зямлю,
Калі мяне з пагардаю растопчуць,
Успомні, што няшчасны Энабарб
Пакаяўся перад табой.

Першы салдат

Ты чуеш?
Ды гэта ж Энабарб.

Трэці салдат

Маўчы і слухай.

Энабарб

О месяц, цар людской тугі і смутку!
Збяры усю атруту з нетраў ночы
І ўлі ў мяне, каб вузел сіл жыццёвых,
Што з воляю ў разладзе, ўраз распаўся.
Раструшчы сэрца кволае аб камень
Майго злачынства, пакладзі канец
Маім пакутам жудасным. Антоній!
Твая велікадушнасць, як гара
Над нізасцю маёй. Даруй, Антоній!
Даруй мне ты, а іншыя няхай
Мяне клянуць як здрадніка і гада.
Антоній! О Антоній!..
*(Памірае.)*

Другі салдат

Я аклікну?

Першы салдат

Маўчы. А раптам скажа ён такое,
Што Цэзару карысна будзе ведаць.

Трэці салдат

Так, так. Паслухаем. Але ж ён спіць.

Першы салдат

На сон малітвы брыдкай не чытаюць.
Тут іншае. Ён, мабыць, непрытомны.

Другі салдат

Давай падыдзем.

Трэці салдат

Гэй, прачніся! Чуеш?

Другі салдат

Ану, ўставай! Ачухайся!

Першы салдат

Ён мёртвы.

Далёкі барабанны бой.

Ну вось. І ў барабаны б'юць. Пабудка.
Даставіць трэба ў каравульню труп.
Відаць, не з простых. Важная асоба.

Трэці салдат

Хадзем. А можа, ён яшчэ прачнецца?

Выходзяць, выносячы труп.

## СЦЭНА 10

Паміж двума лагерамі.
Уваходзяць Антоній і Скар з іх войскам.

Антоній

Яны рыхтуюцца даць бой на моры.
На сушы страшнавата ім цяпер.

Скар

На моры і на сушы, уладар.

Антоній

А хоць бы і ў паветры ці ў агні!
Мы не адступім ні на крок. Да справы!
Пяхоту пад камандаваннем нашым
На ўзгорках каля горада пакінем,
А флоту загадаў я выйсці ў мора.
З узгоркаў можна будзе прасачыць
За рухам караблёў.

Выходзяць.

## СЦЭНА 11

Там жа, але ў іншым месцы.
Уваходзіць Цэзар з войскам.

Цэзар

Мы выстаім. Напагатове будзьце.
Мяркую, не адразу нападуць.
Ён лепшых воінаў на флот адправіў.
Больш вытрымкі — і перамога наша.

Выходзяць.

## СЦЭНА 12

На ўзгорках каля Александрыі.
Уваходзяць Антоній і Скар.

Антоній

Збліжаюцца варожы флот і наш.
Пад той сасною ўсё як на далоні.
Пайду я, гляну і назад вярнуся.

Выходзіць.

Скар

Гавораць, ластаўкі зляпілі гнёзды
На суднах Клеапатры. Знак трывожны.
Аўгуры як вады набралі ў рот,

Асцерагаюцца бяду прадказваць.
Антоній то храбрыцца, то сумуе,
То спадзяецца аднавіць былое,
То скардзіцца на лёс.

Здалёку шум марской бітвы.
Вяртаецца Антоній.

Антоній

Прапала ўсё!
Прададзены я подлай егіпцянкай.
Флот здаўся ворагу. Хто б мог паверыць!
Угору шапкі кідаюць і п'юць,
Як даўнія сябры пасля разлукі.
О тройчы нізкадушнае стварэнне,
Мне здрадзіла, купляеш навічка!
Дык ведай, чарадзейка, абвяшчаю
Табе адной вайну, табе адной.
*(Скару)*
Распусціш войска. А мая задача —
Адпомсціць ведзьме, і тады канец.
Распусціш войска. І ратуйся сам.

Скар выходзіць.

Мне больш не бачыць узыходу сонца!
З Фартунай разлучаецца Антоній:
Бывай навек. Няўжо так павялося?
Прыхільнікі мае, што, як сабакі,
За мною бегалі, хвастом вілялі,
Якім ніколі я не адмаўляў,
Цяпер панеслі роем свой нектар
На кветку Цэзара. А той, хто быў
За іх вышэй, ім не патрэбны болей,
Стаіць адзін, як абадраны дуб.
Ілжывая егіпецкая шлюха!..
Ты сілай чар маё ўхапіла сэрца
І мной і маім войскам кіравала.
Твае пяшчоты, пацалунак твой
Былі вянцом усіх маіх жаданняў,
І ты, цыганскі вырадак, мяне
Нахабна падманула, абыграла,
Пазбавіўшы ўсяго.— Эрос, сюды!

Уваходзіць Клеапатра.

Што гэта? Ява? Сон? Згінь, ведзьма, згінь!

Клеапатра

Чаму разгневаўся так, уладар мой,
Ты на любоў сваю?

Антоній

Прэч! Згінь, пачвара!
А то я па заслугах адплачу
І Цэзараў трыумф ушчэнт спаганю.
А трэба было б выставіць цябе
На здзек і рогат азвярэлай чэрні,
Каб ты плялася ўслед за калясніцай,
Паскудная, абмазаная ў бруд,
Якім запляміла ўвесь пол жаночы,
Каб разявакі, заплаціўшы грош,
Глядзелі на цябе, як на страшыдла;
І каб Актавія, цябе спаткаўшы,
Ўсадзіла кіпці ў твой агідны твар.

Клеапатра выходзіць.

Жыць хоча, сцерва. Жыць, вядома, лепей.
Але не ўсім. Каб я забіў цябе,
Я б тысячы ўратаваў ад смерці.—
Эрос, Эрос! — На мне сарочка Неса!
О Геркулес, пазыч сваю мне лютасць!
Хачу Лікаса я шпурнуць на месяц,
Хачу дубінай цяжкаю тваёй
Раструшчыць найдарожшае на свеце.
Смерць ведзьме! Прадала мяне сапліўцу.
Бач, маладзенькі ўпадабаўся! Змова!
Ёй суджана памерці.— Гэй, Эрос!

Выходзіць.

## СЦЭНА 13

Александрыя. Палац Клеапатры.
Уваходзяць Клеапатра, Харміяна, Ірада і Мардзіян.

Клеапатра

Хутчэй дапамажыце! Ён бушуе
Мацней, чым Тэламон, што страціў шчыт.
Ён ашалеў, як Фесалійскі дзік.

Харміяна

А ты бяжы ў грабніцу і схавайся,
Замкніся ў склепе царскім і сядзі.
Антонію мы скажам — ты памерла.
Лягчэй душы ад цела адарвацца,
Чым страціць сваю сілу ўладару.

Клеапатра

Прытулак мой — грабніца. Мардзіян,
Скажы Антонію, што Клеапатра
Пакончыла з сабой і перад сконам
Прамовіла ў апошні раз: «Антоній!»
Старайся словам і яго расчуліць,
А потым вернешся і мне раскажаш,
Як успрыняў ён смерць маю. Ідзі! —
А мы ў грабніцу ўсе. Хутчэй!

Выходзяць.

## СЦЭНА 14

Там жа. Іншы пакой.
Уваходзяць Антоній і Эрос.

Антоній

Эрос, ты пазнаеш мяне? Эрос!..

Эрос

О так, мой уладар.

Антоній

Бывае часам,
Што воблака здаецца нам драконам,
Туман — ільвом, мядзведзем, стромкай вежай,
Нахіленай скалой ці сінім мысам,
Што ў мора ўрэзаўся ў шчаціне дрэў.
Лунае ашуканства у паветры.
Ці бачыў калі-небудзь ты такое

На схіле дня, калі згусціўся змрок
І сцёр мяжу між вымыслам і праўдай?

Эрос

О так, мой уладар.

Антоній

Быў, скажам, конь,
Выразна вырысоўваўся ў тумане,
І раптам гэты вобраз страціў форму,
Расплыўся, знік, як у вадзе вада.

Эрос

Бывае, уладар.

Антоній

Ах, мой Эрос,
Перад табою не ўладар, а прывід.
Яшчэ Антоній я, але няма ўжо
Ва мне ранейшай велічы і сіл.
Я за Егіпет ваяваў. Царыца ж,
Якой паверыў я, аддаўшы сэрца
І безліч падуладных мне людзей,
Дамовілася з ворагам паціху,
Мяне і маю славу прадала,
А Цэзару трыумф падрыхтавала.
Не плач, мой дружа, я яшчэ жывы,
А прыйдзе час, канец знайсці не цяжка!

Уваходзіць Мардзіян.

Гэй, ты! Твая паскудная царыца
Меч у мяне украла.

Мардзіян

Не, Антоній.
Мая царыца свой звязала лёс
Навек з тваім. Яна цябе кахала.

Антоній

Маўчы, нахабны еўнух! Вон адгэтуль!
Яна мне здрадзіла — за гэта смерць!

Мардзіян

Жыццём мы не расплачваемся двойчы,
Яна ўжо аддала сваю пазыку,
Тваё жаданне без цябе збылося.
Сказаўшы з ласкай, з болем невыказным:
«О мой Антоній, любы мой Антоній!» —
Яна памерла, пахавала ў сэрцы
Сваім тваё імя.

Антоній

Яна памерла?

Мардзіян

Памерла.

Антоній

Скончыўся мой доўгі дзень.
Я ўсё зрабіў. Пара на адпачынак.—
Эрос, прашу, здымі з мяне даспехі.
*(Мардзіяну)*
Багам падзякуй, што застаўся цэлы,
Што не забіў цябе ніхто. Ідзі.

Мардзіян выходзіць.

Здымай! — І сяміслойны шчыт Аянса
Не абароніць ад такога ўдару —
Не вытрымаюць, разарвуцца грудзі.
О сэрца, цвёрдым будзь, натужся, сэрца!
Хай пырсне кроў праз абалонку цела! —
Хутчэй, Эрос! — Наваяваўся. Досыць.
Бывай, браня, пасечаная ў бітвах,
Я з гонарам насіў цябе, бывай.

Эрос выходзіць.

Іду ўслед за табою, Клеапатра,
Каб са слязьмі сказаць табе: даруй.
Адкладваць, доўжыць мукі?.. Нізашто!
Мая паходня згасла, спаць пара,
А не блукаць у цемры. Марны пошук!
Няма ратунку. Што ж, пячаць пастаўлю
І завяршу свой шлях.— Сюды, Эрос! —

Іду, мая царыца.— Гэй, Эрос! —
Я даганю цябе, мая любоў.
І увойдзем мы, узяўшыся за рукі,
У край шчаслівых душ, дзівіцца будзе
Цудоўнай пары рой вясёлых духаў,
І світа ад Дыдоны і Энея
Пераляціць да нас.— Эрос! Эрос!

Вяртаецца Эрос.

Эрос

Чаго жадае уладар мой?

Антоній

Смерці!
Яна сышла, а я пакрыты брудам.
Багі без жалю топчуць маладушных.
Як? Той, хто перакроіў свет мячом,
Хто на спіне зялёнай у Нептуна
Плывучых крэпасцей набудаваў,
Не мае болей мужнасці? Дазволіў
Жанчыне слабай вырвацца наперад?
Абраўшы смерць, яна перамагла,
І выхваляцца Цэзару няма чым.
Эрос, ты кляўся, што ў мой чорны дзень,
Калі, загнаны ганьбаю і жахам,
Я папрашу, каб ты забіў мяне,
Ты зробіш гэта. Гэты дзень настаў.
Ды не блядней, не бойся, не мяне
Загубіш ты, а Цэзару адпомсціш.

Эрос

Ратуйце нас, багі! Не дапусціце!
Калі яны цябе абаранілі
Ад тысяч стрэл парфянскіх, як магу я
Падняць руку на ўладара свайго?

Антоній

Ты што? Хацеў бы ў Рыме праз акно
Глядзець, як за ўрачыстай калясніцай
Мяне павалакуць у ланцугах,

А Цэзар, ап'янелы ад удачы,
Мае пакуты будзе смакаваць!

Эрос

Каб я глядзеў? О не!

Антоній

Тады канчай.
Забі мяне. Маё збавенне ў гэтым.
Дык вымі меч, якім ты праслаўляў
Зямлю бацькоў.

Эрос

Прабач мне, уладар мой!

Антоній

Калі цябе я адпусціў на волю,
Ты прысягнуў, што выканаць гатовы
Усё, што загадаю. Дык выконвай!
Інача нуль цана тваім заслугам,
Няма ў цябе сумлення. Вымі меч!

Эрос

Дык адвярні свой твар, перад якім
З пашанаю схіляліся народы.

Антоній

Хай будзе так.
*(Адварочваецца.)*

Эрос

Меч у руках.

Антоній

Канчай!
Рашуча і адразу!

Эрос

Уладар,
Начальнік любы, імператар мой,

Дазволь сказаць табе, перш чым нанесці
Смяротны ўдар, сардэчнае «бывай».

Антоній

Ты ўжо сказаў. Бывай, мой друг!

Эрос

Бывай!
Ты патрабуеш, каб ударыў?

Антоній

Так.

Эрос

Дык вось!..
*(Забівае сам сябе.)*
Адзінае, што засталося мне,
Каб нежывым Антонія не бачыць.
*(Памірае.)*

Антоній

Не я, не я, а ён!.. Мой збраяносец
Мне паказаў, як трэба паміраць.
Мая царыца і Эрос мой верны
Пакончылі з сабой высакародна,
Але ж і я заручаны са смерцю,
І гэта будзе мой апошні шлюб.
Эрос, твой уладар і правадыр
Узяў тваю навуку на ўзбраенне
І робіць так, як ты...
*(Кідаецца на свой меч.)*
Што? Я жывы?
Гэй, вартавыя! Дзе вы? Дабівайце!..

Уваходзяць Дэркет і варта.

Першы вартавы

Хто тут крычыць?

Антоній

Няскончаная справа!
І ў гэтым не шанцуе! Дабівайце!

Другі вартавы

Упала зорка.

Трэці вартавы

Цемра скрозь.

Усе

О гора!..

Антоній

Калі вы любіце мяне, сябры,
Няхай хто-небудзь з вас мяне прыкончыць.

Першы вартавы

Я не магу.

Другі вартавы

Я гэтак жа.

Трэці вартавы

Ніхто з нас.

Вартавыя выходзяць.

Дэркет

Твой люты лёс і гібель прымушаюць
Тваіх прыхільнікаў шукаць ратунку.
*(Падымае меч Антонія.)*
А гэты меч і вестка аб падзеях
Адчыняць мне да Цэзара ўваход.

Уваходзіць Дыямед.

Дыямед

Дзе Марк Антоній?

Дэркет

Вось ён, бачыш сам.

Дыямед

Жывы? Памёр? Ты што маўчыш? Адказвай.

*Дэркет выходзіць.*

Антоній

О Дыямед, дабі мяне хутчэй.

Дыямед

Славуты уладар, мяне паслала
Царыца Клеапатра да цябе.

Антоній

Калі?

Дыямед

Ды толькі што.

Антоній

А дзе яна?

Дыямед

Схавалася ў магільным склепе царскім.
Няшчасце прадчуваючы, яна
Спужалася, што ты ў вялікім гневе
Пачнеш яе ва ўсім абвінавачваць,
І да цябе ганца накіравала
З паведамленнем, што памерла. Потым,
Спалохаўшыся вынікаў падману,
Мне загадала праўду расказаць.
Баюся, што спазніўся я.

Антоній

Спазніўся.
Зрабі мне ласку, добры Дыямед,
Пакліч сюды ахоўнікаў маіх.

Дыямед

Гэй, хто там з асабістае аховы!
Усе сюды! Вас кліча ўладар.

*Уваходзяць салдаты аховы Антонія.*

Антоній

Сябры мае, прашу вас, занясіце
Мяне да Клеапатры. Занясіце,
Прашу я вас.

Першы салдат

О смутак невыказны!
Чаму ты пакідаеш нас, гатовых
Аддаць жыццё дзеля твайго дабра?

Усе

Жахлівы дзень!

Антоній

О воіны мае,
Ганіце прэч тугу. Ліхога лёсу
Не пацяшайце смуткам і слязьмі,
З усмешкаю яму зірніце ў твар,
Каб ведаў, што салдаты не здаюцца.
Бярыце, падымайце. З вамі я.
Я вас вадзіў. Я вас любіў. Выносьце.
За ўсё, за ўсё вам дзякуй.

Выходзяць, выносячы Антонія.

## СЦЭНА 15

Там жа. Грабніца.
З'яўляюцца наверсе Клеапатра, Харміяна і Ірада.

Клеапатра

Не суджана адгэтуль выйсці мне.
Ах, Харміяна!..

Харміяна

Не сумуй, царыца.
Уцешся, дарагая!

Клеапатра

Не хачу.
Гатова я найгоршае сустрэць.
Уцехай пагарджаю. Што мне ўцеха!
Вялікай ране — найвялікшы боль.

Унізе з'яўляецца Дыямед.

Кажы, ён мёртвы?

Дыямед

Не, яшчэ жывы,
Але, відаць, канчаецца. Глядзі,
Вось ён. Яго нясуць сюды салдаты.

З'яўляюцца ўнізе салдаты з Антоніем на руках.

Клеапатра

О сонца, спапялі абшар нябёс!
Хай цемра вечная агорне свет!
Антоній! О Антоній! О Антоній!
Ірада, Харміяна, памажыце!
Сябры, сюды яго, сюды наверх!
Ды падымайце ж, падымайце!

Антоній

Ціха!
Антонія не Цэзар перамог,
Ён сам сябе сваёй рукой адолеў.

Клеапатра

О, гэта так! Антонія асіліць
Антоній толькі мог. О гора нам!

Антоній

Мая царыца! Смерць мяне чакае.
Я на хвіліну затрымаў яе,
Каб да былых шматлікіх пацалункаў
Апошні развітальны далучыць.

Клеапатра

Я не магу спусціцца ўніз, мой любы,—
Мяне там схопяць. Не магу. Даруй!

О не. Шчаслівы Цэзар свой трыумф
Не упрыгожыць мной. Не давядзецца!
Пакуль ёсць у кінжала вастрыё,
У яду моц і зубы у змяі,
Не дамся я. Актавія-ціхоня
Не будзе перамогу святкаваць.
Антоній, да мяне. О мой Антоній! —
Дзяўчаты, воіны, ўсе разам, дружна,
Наверх яго!

Антоній

Хутчэй. Я паміраю.

Клеапатра

Які ты цяжкі, мой Антоній любы!
Твой моцны дух свінцом разліўся ў целе,
І не маім рукам цябе насіць.
Каб [redacted] магла загадваць, як Юнона,
Цябе падняў бы ў неба бог Меркурый,
З Юпітэрам бы побач пасадзіў.—
Бліжэй! Сюды!..— Адны дурніцы марыць
Мець немагчымае.— Бліжэй, бліжэй!

Антонія падымаюць наверх.

Вось так... Вось так... Я прытулю цябе.
Ты жыў з любоўю і памрэш з любоўю.
Каб я магла агністым пацалункам
Вярнуць табе жыццё, я б смерць прагнала,
Спаліла б смерць.

Усе

О гора, гора, гора!

Антоній

Дай мне глынуць віна. Я паміраю...
Хачу сказаць...

Клеапатра

Спачатку я скажу.
Бязвокую Фартуну збэшчу так,
Што, з каляса сарваўшыся, завые.

Антоній

Не плач, не плач... У Цэзара прасі,
Каб гонар і жыццё табе пакінуў.
О!..

Клеапатра

Гонар і жыццё? Ён разлучыў іх.

Антоній

Яшчэ два словы... Любая царыца,
Будзь асцярожнай. З Цэзаравай світы
Ты можаш верыць толькі Пракулею.

Клеапатра

Сваім рукам я веру, больш нікому.

Антоній

Не засмучайся, не бядуй па мне,
Успомні нашы радасныя дні,
Калі я быў магутнейшым з магутных,
Уладаром народаў і краін...
Я паміраю не як баязлівец,
Што шлем паклаў да ног чужой удачы,
Не ў ганьбе, а як рымлянін, што ў бітве
Ад рымляніна смерць сваю прыняў.
Мой дух слабее... Болей не магу...

Клеапатра

Ды што ж гэта? Ты паміраеш, любы?
А я? А я? Адной мне заставацца
На гэтым нудным свеце? Без цябе —
Ён хлеў свіны.

Антоній памірае.

Дзяўчаты, гляньце, гляньце!
Вянец зямлі завяў. Сышоў герой.
Упаў на дол сцяг воінскае славы.
Няма майго Антонія!.. Цяпер
Пачнуць угору лезці недаросткі.

Сумуе месяц, плывучы па небе...
Пустыя скрозь, няма на што глядзець!..
*(Падае ў непрытомнасці.)*

Харміяна

Царыца, што з табою?

Ірада

Ой, памерла!..

Харміяна

Царыца дарагая!

Ірада

Уладарка!

Харміяна

Акраса наша! Гаспадыня наша!

Ірада

Царыца! Найяснейшая царыца!

Харміяна

Маўчы! Маўчы!

Клеапатра

Я не царыца больш.
Жанчына я, і толькі. І пачуцці
Мае мізэрныя кіруюць мною,
Як наймічкай астатняй. О, шпурнуць бы
У твар багам нядобрым скіпетр мой
І крыкнуць ім, што я ў маім Егіпце
Багіняю была, пакуль яны
Не ўкралі у мяне мой дыямент!..
Усё навокал — дрэнь! Цярпенне — глупства!
Ну, а пакуты — ім канца няма:
Сабакамі шалёнымі грызуць.
Ці ж гэта грэх раптоўна увайсці
Нязванай госцяю ў пакоі смерці?

Ірада, што з табою? Харміяна?
Дзяўчаты, што ж вы гэтак затужылі?
Трымайцеся! О, мілыя мае!..
Няма яго. Пагасла сонца наша.
О воіны, напагатове будзьце,
Правадыра мы пахаваем потым,
Як патрабуе звычай мужных рымлян,
Прымусім смерць з пашанай нас прыняць.
Халодны ён. Дух вылецеў магутны.
Дзяўчаты мілыя, сканаў наш друг.
Хутчэй за ім у неразлучны круг!

*Выходзяць, выносячы цела Антонія.*





# АКТ ПЯТЫ

## СЦЭНА 1

Лагер Цэзара каля Александрыі.
Уваходзяць Цэзар, Агрыпа, Далабела, Мецэнат, Гал, Пракулей і іншыя.

Цэзар

Скажы, каб ён здаваўся, Далабела.
Супраціўленне вынікаў не дасць:
Ушчэнт разбіты.

Далабела

Слухаю, ўладар.

Выходзіць.
Уваходзіць Дэркет з мячом Антонія ў руках.

Цэзар

Хто ты такі? І як ты смееў з'явіцца
Да нас з мячом?

Дэркет

Завуць мяне Дэркет,
Дагэтуль я Антонію служыў.
Ён, як ніхто, быў добрай службы варты.
Каманда — і мы кідаліся ў бой.
Але яго няма ўжо. Вольны я.
Калі мяне на службу прымеш, Цэзар,
Табе я верны буду, як яму.
А не — маё жыццё ў тваіх руках.

Цэзар

Як разумець цябе?

Дэркет

Антоній — мёртвы.

Цэзар

Не можа быць. Абвал такой гары
Па свеце пракаціўся б гулкім рэхам.
З пячор бы павыскаквалі ільвы,
А людзі паўцякалі б у пячоры.
Імя Антонія пакрыта славай,
Ён кіраваў паўсветам і не можа
Сысці ў нябыт, як дробная істота.

Дэркет

І ўсё ж памёр. Сканаў. Не ад кінжала
Забойцы-найміта, не ад сякеры
Слуг правасуддзя, ўласнаю рукой,
Што подзвігі ў гісторыю ўпісала,
Ён абарваў жыццё сваё, мячом
Праткнуўшы сэрца. Вось ён, гэты меч,
Крывёй высакароднаю абліты.

Цэзар

Сябры, усе вы, бачу, ў засмучэнні.
Бяру багоў у сведкі, гэта вестка
І вочы царскія залье слязьмі.

Агрыпа

Як гэта дзіўна! Мы перамаглі,
Сваёй жаданай мэты дасягнулі,
І нас прырода прымушае плакаць.

Мецэнат

Заган і вартасцей ён безліч меў,
Таго і гэтага у роўнай меры.

Агрыпа

Выдатны быў, выключны чалавек.
Заганы ж нашы — дар багоў раўнівых,

Каб людзі не рабіліся багамі.
О, як узрушан Цэзар!

Мецэнат

Перад ім
Як бы вялізнае паўстала люстра,
Ён там сябе убачыў.

Цэзар

Ах, Антоній!
Цябе загнаў я ў бездань, але ж мы
Павінны язвы з цела выразаць.
Не я цябе, дык ты мяне зваліў бы:
Нам двум было зацесна на зямлі.
І ўсё ж дазволь мне плакаць па табе
Слязьмі гарачымі, крывёю сэрца.
Дазволь, мой брат, мой друг, супольнік мой
У справах кіраўнічых і грамадскіх,
Саратнік мой і сябар на вайне,
Палова цела і душы маёй,—
Дазволь мне выявіць маю тугу,
Што нас з табой навечна разлучылі
Непрымірымыя сузор'і нашы.—
Хачу вам нагадаць, сябры мае...

Уваходзіць егіпцянін.

Не, не цяпер, як-небудзь іншым разам.—
З чым гэты чалавек прыйшоў да нас,
Напісана ўжо на яго абліччы.
Хто ты? Адкуль?

Егіпцянін

З Егіпта. Пасланец.
Царыца-уладарка Клеапатра,
Замкнуўшыся ў грабніцы, у сваім
Апошнім сховішчы, мне наказала
Спытаць у Цэзара, чаго чакаць ёй,
На што ёй спадзявацца.

Цэзар

Скажаш ёй:
Няхай адкіне недарэчны страх.

Нам блізкая асоба неўзабаве
Абвесціць ёй прынятае рашэнне,
Засведчыць нашу ласку і любоў.
Недалікатным Цэзар быць не можа.

Егіпцянін

Няхай багі ва ўсім табе спрыяюць.

Выходзіць.

Цэзар

Адразу ж, Пракулей, ідзі туды,
Скажы: нічога ёй не пагражае,
Уцеш царыцу, абяцай, што хочаш,
Каб з гордасці не налажыла рук,
А то парушацца ўсе нашы планы.
Калі мы ў Рым жывой яе даставім,
Трыумф наш будзе памятны ў вяках.
Ідзі і не затрымлівайся доўга,
Хутчэй нясі адказ.

Пракулей

Зраблю ўсё, Цэзар.

Выходзіць.

Цэзар

Ідзі і ты з ім, Гал.

Гал выходзіць.

Дзе Далабела?
Няхай і ён таксама.

Агрыпа і Мецэнат
*(разам)*

Далабела!

Цэзар

Няма яго. Ну так, успомніў я:
Пасланы з даручэннем іншым. Прыйдзе.
А зараз да мяне прашу ў палатку.
Я дакажу вам пісьмамі сваімі,

Што гвалтам быў уцягнуты ў вайну,
Што дзейнічаў я стрымана, тактоўна
І падбухторшчыкам не быў. Хадзем.

Выходзяць.

## СЦЭНА 2

Александрыя. Грабніца.
Уваходзяць Клеапатра, Харміяна і Ірада.

Клеапатра

Няшчасце вучыць нас, як трэба жыць.
Што Цэзар? Волат? Бог? Кіруе лёсам?
Ён толькі служка лёсу, раб пакорны,
Які выконвае чужы загад.
Вялікі ж той, хто воляю ўласнай
Парваў усё, адолеў выпадковасць,
Аковы скінуў і навек заснуў,
Каб больш не смакаваць зямнога бруду,
Што корміць і казявак і цароў.

Да дзвярэй грабніцы падыходзяць Пракулей, Гал і салдаты.

Пракулей

Царыцу егіпцян вітае Цэзар,
Даведацца жадае неадкладна,
Якія будуць просьбы у царыцы.

Клеапатра

Як зваць цябе? Хто ты?

Пракулей

Я — Пракулей.

Клеапатра

Антоній ўспамінаў цябе, казаў:
Ты — чалавек, якому можна верыць.
А што з таго? Калі твой уладар

Намерыўся царыцу абабраць,
Зрабіць жабрачкай, дык скажы яму,
Што Клеапатра міласціны меншай,
Чым царства, не прымае. Калі ён
Аддасць заваяваны ім Егіпет
Мне і маім нашчадкам, я гатова
Укленчыць перад Цэзарам пачціва
І дзякаваць за дар велікадушны,
За тое, што маё ён мне вярнуў.

Пракулей

Не бойся і даверся. Ты ў руках
Найласкавейшага з уладароў.
Да абяздоленых ён літасць мае
І крыўдзіць не збіраецца. Дазволь
Я перадам яму, што ты прымаеш
Яго апеку і бацькоўскі клопат,
І пераможца твой цябе падыме,
Прыблізіць да сябе і ашчаслівіць.

Клеапатра

Скажы, што я схіляю галаву
Перад вялікасцю яго дзяржаўнай,
Майстэрству паслухмянасці вучуся
І буду рада Цэзара пабачыць.

Пракулей

Скажу, скажу, царыца дарагая.
Уцешся. Не бяры да сэрца блізка.
Усё будзе добра.

Пракулей і два салдаты, прыставіўшы драбіны, улазяць праз акно на другі паверх грабніцы і акружаюць Клеапатру. Іншыя салдаты адсоўваюць завалы і расчыняюць дзверы грабніцы.

Гал

Схапілі лёгка, без супраціўлення.
Не адпускаць, пакуль не прыйдзе Цэзар.

Выходзіць.

Ірада

Царыца любая!

Харміяна

Што яны робяць?
Ды гэта ж ворагі твае!..

Клеапатра
*(выхопліваючы кінжал)*

Не дамся.
Хутчэй, рука!

Пракулей
*(адбіраючы кінжал)*

Царыца, не спяшайся!
Нашто ты так? Сама сабе нашкодзіш.
Даручана мне берагчы цябе,
І я збярог, уратаваў ад смерці.

Клеапатра

Уратаваў? Ды нават і сабаку,
Калі здыхае ў муках, смерць — збавенне.

Пракулей

Раптоўным самагубствам, Клеапатра,
Зняважыла б ты Цэзараву шчодрасць,
А ён — крыніца дабраты. І свет
Павінен бачыць гэта. А памрэш ты,
І ўсё агорне змрок.

Клеапатра

Прыходзь жа, смерць!
Прыходзь, прыходзь! Вазьмі мяне, царыцу,
Як забіраеш старцаў і дзяцей.

Пракулей

Нашто так хвалявацца? Супакойся.

Клеапатра

Пустыя словы! Я не буду піць,
Не буду есці, спаць, а разбуру,
Раскідаю смяротны схоў майго жыцця.
І як бы ні натужваўся твой Цэзар,
Я звязанаю перад ім не стану,
Каб на мяне Актавія-тупіца
Зларадна пазірала спадылба.
Не дапушчу, каб рымская галота,
Падняўшы лямант, бегала за мной
І мне плявала ў вочы. Не дазволю!
Ды лепш няхай мой труп у роў укінуць
Ці пакладуць, раздзеўшы, ў нільскі глей,
Каб я, аб'едзеная машкарой,
Страшыдлам стала! Лепш няхай мяне
Ў пустыні на высокай пірамідзе
У ланцугах павесяць!

Пракулей

Не пужай
Сама сябе. Навыдумляла жахаў.
Няма ж падстаў ніякіх.

Уваходзіць Далабела.

Далабела

Пракулей,
Што адбылося, Цэзару вядома.
Цябе ён адклікае, а царыцу
Перадае пад мой нагляд.

Пракулей

Так, так...
Будзь з ёю далікатны, Далабела.
*(Клеапатры)*
Дык што ж мне Цэзару сказаць цяпер?
Чаго хацела ты?

Клеапатра

Хачу памерці.

Пракулей і салдаты выходзяць.

Далабела

Царыца найяснейшая, ці чула
Ты пра мяне?

Клеапатра

Не помню.

Далабела

Але ж ты
Мяне павінна ведаць?

Клеапатра

А якое
Значэнне мне: ведаю ці не?
Вы ж насміхнецеся, калі вам
Расказваюць жанчыны альбо дзеці
Свае лятункі-сны.

Далабела

Не разумею.

Клеапатра

Мне сніўся сон: жыў некалі на свеце
Антоній, імператар-палкаводзец.
Заснуць хачу, каб мне ізноў прысніўся
Такі ж цудоўны чалавек!..

Далабела

Царыца!..

Клеапатра

Яго аблічча, як прасторы неба,
Дзе сонца з месяцам свой робяць круг,
Каб асвятляць маленькую зямлю,
Якая прагне ласкі.

Далабела

Уладарка!..

Клеапатра

Ён мог бы акіян перaступіць,
Яго рука, узнятая высока,
Зямлю ўпрыгожвала, як грэбень шлем,
А голас — музыка сфер незямных,
Калі вакол яго былі сябры.
Калі ж ішоў на ворага, дык голас
Яго, як гром, грымеў, наводзіў жах.
Скупой зімы не ведаў ён, быў шчодры,
Як восень у вясёлы час жніва.
Гуляць умеў, да дна мог чэрпаць радасць
І, як дэльфін, выныраць з глыбіні.
Цары, царэвічы яму служылі,
Ён раздаваў, як драбязу з кішэні,
Правінцыі і астравы!

Далабела

Царыца!..

Клеапатра

Як думаеш, падобны чалавек
Мог існаваць ці гэта толькі сон?

Далабела

Не мог, о найяснейшая царыца!

Клеапатра

Няпраўда, мог, багоў у сведкі клічу!
І ява — прыгажэйшая, чым сон.
Няма ў прыроды столькі матэр'ялу,
Каб наша уяўленне перагнаць.
Але Антоній быў вянцом прыроды,
І мары блякнуць перад ім.

Далабела

Царыца,
Узрушаны я надзвычайна: страта
Ў цябе вялікая, твой боль вялікі.
І хоць сабой я вельмі рызыкую,
Але ўтаіць пачуццяў не магу.

Твая туга мне разрывае сэрца,
Гняце мяне і душыць.

Клеапатра

Дзякуй, дружа.
Ты — добры чалавек. Скажы, будзь ласкаў,
Што Цэзар думае рабіць са мной?

Далабела

Як мне ні сумна, папярэдзіць мушу...

Клеапатра

Чаго ж ты змоўк?..

Далабела

Велікадушны ён,
Але...

Клеапатра

За трыумфальнай калясніцай
Мяне ўсё ж павядуць?

Далабела

Абавязкова.

Трубы і крыкі за сцэнай: «Дарогу імператару! Дарогу!»
Уваходзяць Цэзар, Гал, Пракулей, Мецэнат, Сялеўк і іншыя.

Цэзар

Дзе ж тая Клеапатра?

Далабела
*(Клеапатры)*

Гэта Цэзар.

Клеапатра падае на калені.

Цэзар

Не трэба станавіцца на калені.
Устань, царыца егіпцян, устань.

Клеапатра

Схіляюся перад тваёю ўладай.
Богі жадалі гэтага.

Цэзар

Устань.
Нічога дрэннага пра нас не думай,
Табой нанесеныя нам абразы
Мы памятаем добра, але іх
Гатовы выпадковымі лічыць.

Клеапатра

О гаспадар і самадзержац свету,
Я не апраўдваю сваіх памылак
І не наводжу глянцу на грахі.
Жанчына я — і шчыра прызнаюся
Ў жаночых слабасцях.

Цэзар

Тваю віну
Мы перабольшваць схільнасці не маем;
Хутчэй наадварот, яе мы зменшым.
Царыца Клеапатра, калі ты
Намераў нашых слушных не адхіліш,
Апеку прымеш, перамена будзе
Шчаслівай для цябе. Але калі
Па прыкладу Антонія ўскладзеш
На нашы плечы жорсткасці ярмо
І разварушыш абурэнне наша,
Ты ўсіх выгод сама сябе пазбавіш,
Асудзіш і дзяцей сваіх на гібель.
А я б іх падтрымаў... Бывай. Пайду.

Клеапатра

Куды б ты ні пайшоў, усё тваё.
Ты — пераможца, мы — тваe трафеі,
Набытак твой: дзе хочаш, там і стаў.
О наймагутнейшы ўладар, вось тут...

Цэзар

Разумна развіжаеш, Клеапатра.
Прыемна чуць. Я слухаю.

Клеапатра

Вось тут
Дакладны пералік майго багацця,
Запісана ўсё да драбніцы: грошы,
Каштоўны посуд, дыяменты, ўсё.
А дзе Сялеўк?

Сялеўк

Я тут, царыца.

Клеапатра

Гэта
Мой казначэй. Няхай ён паклянецца
Пад страхам смерці, што сабе нічога
Я не ўтаіла, не схавала. Праўду
Кажы, Сялеўк.

Сялеўк

Я праўду і скажу.
Хлусіць, каб паплаціцца галавою?
Адсохні мне язык, калі не так.

Клеапатра

Што ж я ўтаіла?

Сялеўк

А даволі многа.
Схаванага табою хопіць з лішкам,
Каб выкупіць усё, што ёсць у спіску.

Цэзар

Не чырваней, царыца Клеапатра.
Запас бяды не чыніць. Добра робіш.

Клеапатра

О Цэзар, глянь! Пераканайся сам:
Да славы людзі лепяцца, як мухі.
Хто мне быў верны, верным стаў табе,
А каб змяніўся лёс, твае набеглі б
Прыслужваць мне.— Сялеўк! Прадажны раб!
Баішся? Уцякаеш? Пачакай!
Я вочы выдзеру табе, сабака!
Зладзюга, здраднік, дрэнь! Якая подласць!..

Цэзар

Царыца, ціха, ціха!..

Клеапатра

Ганьба! Сорам!
О Цэзар, у той светлы міг, калі
Мяне наведаў ты ў маім кутку,
З вяршынь дзяржаўных ласкаю сагрэў,
Уласны мой слуга, зайздроснік, скнара,
Абгаварыў мяне... Дапусцім нават,
Пакінула сабе я тое-сёе:
Ну, дробязь там з аздоб маіх жаночых,
Бірулькі розныя сябрам на памяць.
Дапусцім, ёсць і дарагія рэчы,
Якія я збіралася паднесці
Актавіі і Лівіі ў надзеі
На іх добразычлівасць і спагаду.
Няўжо халоп, які карміўся ў доме,
Мяне за гэта мае права бэсціць?
Багі-заступнікі! Дзе дно той прорвы,
Куды я падаю?
*(Сялеўку)*
Прэч! Вон адгэтуль!
А то пад попелам маіх пакут
Вуголле гневу полымем успыхне,
О вырадак! Пакрыўдзіць так жанчыну!..

Цэзар

Ідзі, Сялеўк.

Сялеўк выходзіць.

Клеапатра

Цары нясуць адказнасць
За ўсё, што адбываецца пры іх,
Таму, калі мы падаем з гары,
Віну чужую ўскладваюць на нас,
І гэта нам балюча.

Цэзар

Клеапатра,
Што ёсць у спіску і чаго няма,
Трафеем нашым мы лічыць не будзем.
Свой скарб пакінь сабе і карыстайся.
Вядома ўсім, што Цэзар не гандляр
І не ў яго натуры таргавацца.
Гані ліхія думкі прэч, турмы
Сабе з іх не будуй. Жыві спакойна!
Чаго папросіш, тое будзеш мець.
І еш, і спі, царыца дарагая.
Тваёй бядзе я шчыра спачуваю
І клапачуся аб табе, як друг.
Бывай!

Клеапатра

Мой уладар! Заступнік мой!

Цэзар

Не уладар, а друг. Да пабачэння!

Трубы. Цэзар і яго світа выходзяць.

Клеапатра

Мяне ён хоча словамі аблытаць,
Каб страціла я волю над сабой.
Дык вось што, Харміяна...
*(Шэпча на вуха Харміяне.)*

Ірада

Царыца любая, пара канчаць.
Наш дзень пагас, і цемра навакол.

Клеапатра
*(Харміяне)*

Адразу ж і вяртайся. Аб усім
Дамоўлена. Хутчэй!

Харміяна

Усё зраблю.

Уваходзіць Далабела.

Далабела

Царыца дзе?

Харміяна

Яна перад табой.

Выходзіць.

Клеапатра

А! Далабела!

Далабела

Я прыйшоў, царыца,
Бо слова даў табе. Мая любоў,
Спагада і сумленне вымагаюць
Праўдзівым быць і не таіць нічога.
Паведамляю: Цэзар дні праз тры
Цябе адсюль адправіць разам з дзецьмі,
А сам праз Сірыю паедзе следам.
Як хочаш выкарыстай гэту вестку.
Што мог, я ўсё зрабіў.

Клеапатра

Ах, Далабела,
Чым я аддзякую?

Далабела

Рад услужыць.
Пайду да Цэзара. Бывай, царыца.

Клеапатра

Бывай, мой друг.

Далабела выходзіць.

Ну вось і ўсё, Ірада!
Сама ты чула: нас у Рым адправяць.
Цябе, як і мяне, мая Ірада,
Павалакуць, пацягнуць на памост
Рабы ў зашмальцаваных фартуках.
І чараватай чэлядзі натоўп
Абкружыць нас, разявіўшы раты,
І будзе дыхаць нам у твар смуродам.

Ірада

Багі, абараніце!

Клеапатра

Ах, Ірада,
Дзе тая абарона? Рукі нам,
Як шлюхам, звяжуць ліктары-звяругі,
І чарада паршывых рыфмачоў
Нас абсмяе у вершах непрыстойных.
Імправізатары-камедыянты
Разгул александрыйскі разыграюць:
Антонія як п'яніцу пакажуць,
А Клеапатру ў вобразе блудніцы.
Жаночае адзенне начапіўшы,
Юнец юрлівы голасам пісклявым
Пачне мяне перакрыўляць.

Ірада

О жах!

Клеапатра

Вось што чакае нас.

Ірада

Я не бачу,
Сабе парэжу вочы кіпцюрамі.

Клеапатра

Адзіны шлях, каб не папасці ў пастку!
Знайшлі дурніц! Не выйдзе. Не дапусцім.

Уваходзіць Харміяна.

Ну, як там, Харміяна? — Ах, дзяўчаты,
Нясіце царскія мае уборы,
Хачу адчуць, што я яшчэ царыца,
Ізноў плыву па Кідну, каб сустрэць
Свайго Антонія.— Ірада, чуеш? —
О Харміяна, любая, прашу
Мне паслужы ў апошні раз, а потым
Гуляй сабе хоць да скончэння свету.
Карону і ўсё іншае сюды!

Ірада выходзіць.
Шум за сцэнай.

Што там за шум?

Уваходзіць салдат-вартавы.

Салдат

Тут нейкі селянін
Царыцу хоча бачыць. Ён прынёс
Кашолку вінных ягад.

Клеапатра

Хай увойдзе.

Салдат выходзіць.

Для спраў вялікіх і малой прылады
Часамі досыць. Ён прынёс мне волю.
Я вырашыла цвёрда, і ва мне
Няма цяпер жаночага нічога...
Я — камень, мармур. Пераменны месяц
Не будзе больш маёй планетай.

Салдат-вартавы
уводзіць селяніна з кашолкай.

Салдат

Вось ён.

Клеапатра

Ідзі сабе, а ён хай застанецца.

Салдат выходзіць.

Ну як? Прынёс ты міленькую змейку,
Што забівае хутка і без болю?

Селянін

А то як жа. Вядома, прынёс. Але я не з тых звадыяшаў, што дазваляюць, каб да яе дакраналіся. Не чапай. Кусаецца — раз-два, і гатова. А хто ад яе памірае, той у момант робіцца нябожчыкам і наўрад ці калі-небудзь ажыве.

Клеапатра

І шмат памерла ад яе укусаў?

Селянін

Уг-га! Асабліва мужчын, ну і жанчын таксама. Пазаўчора мне расказвала адна наша кабета, жанчына сумленная, адно што прыхлусіць любіць, і так хораша хлусіць, што ёй можна паверыць. Дык яна мне апісала ўсе свае пачуцці пасля смерці ад змяінага ўкусу. І так яна сваю змяю расхвальвала, што хто з ёю згодзіцца, той на тры чвэрці памыліцца. А вось у мяне змяя, дык усім гадам гад.

Клеапатра

Пакінь свой кош. Ідзі.

Селянін

Жадаю вам усялякіх слодычаў ад змейкі.

Клеапатра

Бывай.

Селянін
*(ставячы кашолку на падлогу)*

Але майце на ўвазе, што з гадамі жарты кепскія.

Клеапатра

Мы гэта ведаем. Бывай.

Селянін

Толькі глядзіце, гадам верыць нельга. Ну, але калі змяя ў руках чалавека разумнага, то нічога, хоць, на маю думку, карысці з яе ніякай. Шкодная жывёліна!

Клеапатра

Не клапаціся. Будзем берагчыся.

Селянін

Вось і добра. І есці ёй не давайце. Не варта харчы псаваць.

Клеапатра

Яна мяне не з'есць?

Селянін

Э, блазна з мяне строіце? Не. Жанчыны і чорт не з'есць. Жанчына — страва для багоў, вядома, калі яе чорт не спаскудзіў. Але гэтыя падлы чэрці ўсюды рыла ўсунуць. На дзесяць жанчын, створаных багамі, самае меншае пяць пабывалі ў лапах у чорта.

Клеапатра

Бач ты які! Ідзі, ідзі. Бывай.

Селянін

Дальбог, праўду кажу. Няхай вам будзе радасна ад змейкі.

Выходзіць.
Вяртаецца Ірада з царскай мантыяй, каронай і іншым.

Клеапатра

Падай мне мантыю. Надзень карону.
Хачу у несмяротнасць адысці.

О дар Егіпта, вінаградны сок,
Мяне ты болей весяліць не будзеш!
Хутчэй, хутчэй! Ірада! Харміяна!
Вы чуеце, мяне Антоній кліча!
Ён у вачах маіх, ён мне ківае,
Учынак мой адважны ухваліўшы,
Смяецца з Цэзара, з яго удач.
Што шчасце? Нам даюць яго багі,
Каб потым адабраць за гордасць нашу.
Антоній любы, муж мой, я іду!
Цяпер тваёю маю права звацца.
Агонь, паветра — вось мой новы свет,
Стыхіі іншыя — істотам дробным.
Гатова? Дык вазьміце ж з маіх вуснаў
Астатняе цяпло. О Харміяна!
Ірада любая! Навек бывайце!..
*(Цалуе іх.)*
Ірада падае і памірае.
Упала? Мёртвая? Ад пацалунка?
Ці ж на губах маіх змяіны яд?
Калі з жыццём так лёгка расставацца,
Дык смерць — прыемны боль, любоўны дотык.
Ты знікла моўчкі, даказаўшы ўсім,
Што свет не варты развітальных слоў.

Харміяна

О хмара чорная, праліся ліўнем!
І я скажу: багі ад жалю плачуць.

Клеапатра

Ірада падала мне прыклад. Сорам!
Яе сустрэне першаю Антоній,
Пачне распытваць і не мне, а ёй
Аддасць пяшчотны пацалунак свой.
Пара і мне.
*(Прыкладвае змяю да грудзей.)*
Кусай, істота злая,
Перагрызі калючымі зубамі
Заблытаную ніць майго жыцця.
Кусай, дурнічка! Гаварыць не ўмееш...
А то б назвала Цэзара аслом;
Не ён, а мы яго перахітрылі.

Харміяна

О зорка ўсходу!

Клеапатра

Ціха! Не крычы!
Ты ж бачыш, грудзі смокча мне дзіцятка,
Карміліцу ўкалыхвае на сон.

Харміяна

Парвіся, сэрца!

Клеапатра

Як бальзам атрута,
Як подых ветрыку.— О мой Антоній! —
Цяпер твая чарга, другая змейка...
*(Прыкладае да сваёй рукі другую змяю.)*
Нашто мне жыць...
*(Падае на ложак і памірае.)*

Харміяна

Сярод зямное дрэні?
Бывай, царыца! Смерць, ты заўладала
Жанчынаю, якой няма раўні!
Дзяржаўныя заплюшчыліся вочы
І залатога сонца больш не ўбачаць.
Карона пахілілася твая...
Дазволь папраўлю. Паслужу з любоўю,
І служба скончана.

Уваходзяць вартавыя.

Першы салдат

Царыца дзе?

Харміяна

Цішэй! Будзіць не трэба.

Першы салдат

Але ж тут
Пасол ад Цэзара.



Хармiяна

Пасол спазнiўся.
*(Прыклаўшы да грудзей змяю.)*
Хутчэй! Кусай! Што ж так кусаеш слаба?

Першы салдат

Сюды! Знявага Цэзару! Падман!

Другi салдат

Бяда! Паклiкаць трэба Далабелу.

Першы салдат
*(Хармiяне)*

Што вы зрабiлi? Што вы натварылi?

Хармiяна

Зрабiлi добра. Не магла ж царыца,
Наследнiца вялiкiх фараонаў,
Мiрыцца з ганьбай. Зразумей, салдат!

Памiрае.
Уваходзiць Далабела.

Далабела.

Што здарылася?

Другi салдат

Мёртвыя усе.

Далабела

Прадбачыў гэта Цэзар i баяўся.
Ён зараз будзе тут i ўбачыць сам,
Што жудасная справа адбылася,
А ён жа так хацеў не дапусцiць!

Крыкi за сцэнай: «Дарогу iмператару! Дарогу!»
Уваходзiць Цэзар са свiтай.

Далабела

О Цэзар, ты — аўгур i прадракальнiк!
I страх твой спраўдзiўся!

Цэзар

Рашучы крок!
Яна, пранікнуўшы ў мае намеры,
Па-царску вырвалася з тупіка.
Прычына смерці ў чым? Крыві не бачу.

Далабела

Тут нехта быў?

Першы салдат

Ды нейкі селянін
Прыносіў вінных ягад. Вось кашолка.

Цэзар

Атрута!

Першы салдат

Увайшоўшы, мы засталі
Яшчэ жывой служанку Харміяну.
Яна стаяла, гаварыла нешта,
На галаве нябожчыцы царыцы
Папраўляла рупліва дыямент
І раптам, скалануўшыся, упала.

Цэзар

Пахвальная прыхільнасць! Але ж яд,
Калі ў нутро папаў, дае пухліну.
А тут слядоў ніякіх. Клеапатра
Нібы заснула, і ў яе красу
Яшчэ адзін Антоній закахаўся б.

Далабела

О, ранка на грудзях! І на руцэ
Такая ж самая.

Першы салдат

Змяя ўкусіла.
*(Глядзіць у кашолку.)*
На лісці слізь. Няйначай нільскі аспід.

Калі яны вылазяць на спажыву,
Дык выпускаюць слізь.

Цэзар

Зусім магчыма.
Па ўсім відаць, прычына смерці ў гэтым.
Мне ўрач яе прызнаўся, што царыца
Пыталася ў яго не раз пра спосаб
Памерці без пакут.— Выносьце ложак!
Прыслужніц гэтаксама забірайце!
Мы пахаваем Клеапатру побач
З яе Антоніем. Яшчэ ніколі
Зямля ў свае абдымкі не прымала
Такой выдатнай пары. Горыч! Горыч!
Трагічныя падзеі гэтых дзён
Хвалююць нас, узрушваюць пачуцці.
І застануцца ў памяці патомкаў
І жаль да тых, хто без пары загінуў,
І наша слава, купленая кроўю.
*(Далабеле)*
Табе загад: прыкласці ўсё старанне,
Каб урачыста справіць пахаванне
З удзелам войск, з эскортам баявым.
Пасля чаго — назад, у родны Рым.

Выходзяць.



# ЗАЎВАГІ

Трагедыя «Антоній і Клеапатра» напісана Шэкспірам прыкладна ў 1607 годзе пасля «Караля Ліра» і «Макбета». Асобна не выдавалася, надрукавана ўпершыню ў зборы твораў 1623 года. Матэрыялам для п'есы (сюжэт, падзеі, быт) паслужылі «Жыццеапісанні» грэчаскага гісторыка канца першага і пачатку другога стагоддзя нашай эры Плутарха ў англійскім перакладзе Норта (першае выданне — 1578, другое — 1595).

*Стар.* 8—9. Марк Антоній (82—30 гг. да н. э.) — палкаводзец, саратнік Юлія Цэзара, пасля яго смерці (44 г. да н. э.) — член Другога трыумвірата (кіраўніцтва трох), у які, апроч яго, уваходзілі Актавій Цэзар і Лепід.

Актавій (Актавіян) Цэзар (63 г. да н. э. — 14 г. н. э.) — траюрадны пляменнік Юлія Цэзара, член Другога трыумвірата. Пасля перамогі над Антоніем (30 г. да н. э.) — адзіны кіраўнік Рымскай дзяржавы, імператар, названы Аўгустам (Славуты).

Марк Эмілій Лепід (89—12 гг. да н. э.) — саратнік Юлія Цэзара, член Другога трыумвірата, пазбаўлены ўлады Актавіем.

Секст Пампей (75—35 гг. да н. э.) — сын Гнея Пампея Вялікага, члена Першага трыумвірата (Юлій Цэзар, Марк Ліцыній Крас, Гней Пампей). Паспяхова ваяваў з Актавіем і Антоніем, быў пераможаны нарэшце і памёр у няволі.

Мецэнат Гай Цыльній — рымскі патрыцый, друг Актавія, вядомы прыхільнік паэзіі і мастацтва. Памёр у 9 г. да н. э.

Клеапатра (69—30 гг. да н. э.) — царыца Егіпта, дачка Пталамея Аўлета. Паводле бацькавага завяшчання, выйшла замуж за свайго брата Пталамея Дыяніса і правіла разам з ім. Потым была скінута, але ў 47 г. да н. э. зноў пасаджана на трон Юліем Цэзарам. Пасля смерці Цэзара зблізілася ў 41 г. да н. э. з Маркам Антоніем. Тады ёй было гадоў 27, Антонію — 40.

Актавія — сястра Актавія Цэзара, пасля смерці свайго першага мужа Марка Клаўдзія Марцэла выйшла замуж за Марка Антонія.

## АКТ ПЕРШЫ

*Стар.* 11. ...трэці слуп сусвету — член трыумвірата (адзін з кіраўнікоў Рымскай імперыі).

*Стар.* 12. Магчыма, злуецца Фульвія. — Фульвія — першая жонка Марка Антонія.

*Стар.* 12. ...жаўтароты Цэзар — Актавій Цэзар, у той час чалавек вельмі малады — 21 год.

*Стар.* 20. І Фульвія тады пайшла вайною.— Ганец расказвае аб сямейнай міжусобіцы. Калі адсутнічалі Актавій і Антоній, Фульвія захапіла ў Рыме ўладу і выступіла супраць Актавія, які развёўся з Клодыяй — яе дачкой ад першага шлюбу. Вайна гэта скончылася ў 41 г. да н. э. перамогай Актавія.

*Стар.* 20. Лабіен з парфянскім войскам...— Лабіен Квінт — рымскі палкаводзец, сын Ціта Лабіена, саратніка Юлія Цэзара, перайшоў да парфян і ў саюзе з імі ваяваў супраць Рыма. Быў разбіты Венцідзіем, палкаводцам Антонія.

*Стар.* 21. Сікіён — горад у Грэцыі.

*Стар.* 24. Раптоўна ўзбунтаваўся Секст Пампей.— Пампей, выгнаны з Рыма трыумвірамі, захапіў багатыя хлебам вобласці — Сіцылію, Сардзінію і Корсіку — і ўчыніў Рыму галодную блакаду.

*Стар.* 31. Разбушаваўся рымскі Геркулес.— Антоній з твару быў падобны на статую Геркулеса, патомкам якога лічыўся.

*Стар.* 34. Ты адступаў паспешна ад Мадэны.— У 43 г. да н. э. Антоній асадзіў у Мадэне аднаго з правадыроў рэспубліканцаў. Рымскі сенат паслаў таму на дапамогу войскі пад кіраўніцтвам двух консулаў — Гірцыя і Пансы, якія разбілі Антонія, але самі загінулі ў бітве.

*Стар.* 35. Мандрагора — расліна з сям'і паслёнавых, ужывалася ў старажытнасці для чарадзейства і як снатворны сродак.

*Стар.* 37. Атлант — міфічны волат, які падпіраў плячамі неба.

*Стар.* 37. Не абмінуў мяне і Гней Пампей.— Маецца на ўвазе, як паведамляе Плутарх, не Гней Пампей Вялікі, а яго сын, які таксама зваўся Гнеем, забіты ў 45 г. да н. э.

## АКТ ДРУГІ

*Стар.* 52. Каля гары Мізенскай.— Мыс недалёка ад Неапаля.

*Стар.* 53. А сустрэліся яны ўпершыню на рацэ Кідне.— Кідна — рака ў Малой Азіі (цяперашняя Кірасу).

*Стар.* 54. Прыслужніцы вакол, як нерэіды.— Нерэіды — німфы, русалкі.

*Стар.* 60. Бітва пры Філіпах.— Філіпы — прыморскі горад Македоніі. У бітве пры Філіпах Антоній і Актавій разбілі Брута і Касія ў 42 г. да н. э.

*Стар.* 66. Нарцыс — міфічны вобраз прыгожага юнака, які, закахаўшыся ў сваё адлюстраванне ў рэчцы, утапіўся ў ёй і ператварыўся ў кветку, названую яго імем.

*Стар.* 67. Гаргона — міфічная пачвара, якая магла ператварыць у камень кожнага, хто на яе гляне.

*Стар. 68.* Капітолій — узгорак у Рыме, дзе знаходзіўся будынак сената, у якім быў забіты Юлій Цэзар.

*Стар. 71.* ...прыносіў Цэзару адну царыцу.— Паводле Плутарха, Юлій Цэзар пажадаў, каб яго спатканне з Клеапатрай адбылося ўпотай. Прыдворны царыцы прынёс яе да Цэзара ў пасцельным мяшку.

*Стар. 77.* Пталаміды Піранея — пірамідьі Пталамея. П'яны Лепід блытае словы.

## АКТ ТРЭЦІ

*Стар. 86.* Адпомсціў я за гібель Марка Краса.— Марк Ліцыній Крас, былы консул і член Першага трыумвірата, загінуў на вайне з парфянамі ад рукі парфянскага цара Арода. Сын Арода Пакор быў разбіты Венцідзіем.

*Стар. 88.* Фенікс — легендарная птушка, якая, згарэўшы, адраджалася са свайго попелу.

*Стар. 99.* Цэзарыён.— У Клеапатры было некалькі дзяцей, у тым ліку сын Цэзарыён ад Юлія Цэзара.

*Стар. 100.* Ізіда — сястра і жонка Азірыса, багіня шлюбу, медыцыны і земляробства, увасабленне егіпецкай цывілізацыі.

*Стар. 104.* Мыс Анцыум — у Грэцыі, каля ўваходу ў Амбракійскі заліў.

*Стар. 105.* Брундзізій — рымскі порт у паўднёвай Італіі.
Тарэнт — горад у паўднёвай Італіі.
Тарына (цяпер Парга) — горад у Эпіры (паўночная Грэцыя).

*Стар. 106.* Фарсала — горад у Фесаліі (Паўночная Грэцыя). Бітва пры Фарсале, у якой Юлій Цэзар канчаткова перамог Пампея Вялікага, адбылася ў 48 г. да н. э.

*Стар. 107.* Фетыда — марская багіня, маці Ахіла.

*Стар. 112.* Пелапанес — паўднёвая частка Грэцыі.

*Стар. 114.* Юнона — жонка Юпітэра, багіня шлюбу.

*Стар. 127.* Каб гэта ўбачыў я з вышынь Базанскіх, рыкаў мацней бы, чым рагаты гурт.— Біблейскі вобраз, узяты з псалмаў Давіда.

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

*Стар. 137.* Бог Геркулес, Антонія любімец, апеку зняўшы, маршыруе прэч.— Паводле Плутарха, Антоній лічыў сваім заступнікам Геркулеса ў час вайны, а ў мірны час — Дыяніса (Бахуса), бога віна і радасці.

*Стар. 145.* Былі вы Гектарамі.— Гектар — траянскі герой, сын цара Прыяма, які забіў грэчаскага военачальніка Патрокла.

*Стар. 152.* На мне сарочка Неса! — Паводле міфа, кентаўр Нес, насмерць паранены Геркулесам за спробу ўкрасці яго жонку, паміраючы, даў ёй сарочку, прамочаную атру-

тай, якая нібыта магла аднаўляць мужаву вернасць. Геркулес, надзеўшы яе, спярша ашалеў і, схапіўшы за нагу Лікаса, жончынага пасланца, шпурнуў яго ў Эгейскае мора, пасля чаго сканаў у вялікіх мучэннях. Сарочка Неса — сімвал непазбежнага ліха.

*Стар. 152.* Тэламон, што страціў шчыт.— Тут маецца на ўвазе сын саламінскага цара Тэламона, які ад роспачы звар'яцеў, калі зброя забітага Ахіла дасталася не яму, а Адысею.

*Стар. 152.* Фесалійскі дзік — міфічнае страшыдла, забітае Мелеаграм.

*Стар. 156.* Дыдона і Эней.— Дыдона, карфагенская царыца, закаханая ў Энея, траянскага бежанца, калі той яе пакінуў, налажыла на сябе рукі.

*Стар. 164.* Бязвокая Фартуна! — Фартуна, алегарычнае ўвасабленне лёсу ў старажытных грэкаў і рымлян, увасаблялася ў вобразе дзяўчыны з завязанымі вачамі, якая ляціць, стоячы на крылатым коле, з рогам у руцэ, рассыпаючы дары.

**Шэкспір В.**

Ш 98 Антоній і Клеапатра: Трагедыя. З англ. / [Пер., прадм. і заўв. Ю. Гаўрука; Маст. Ю. Зайцаў].— Мн.: Маст. літ., 1982.— 198 с., іл.

У пер.: 1 р. 60 к.

«Антоній і Клеапатра» — адна з апошніх вялікіх трагедый В. Шэкспіра, напісаных геніяльным драматургам у самым росквіце яго творчай дзейнасці. Трагедыя абышла сцэнічныя падмосткі тэатраў усіх кантынентаў зямнога шара, была неаднаразова экранізавана ў розных краінах Еўропы і Амерыкі. Пераклад трагедыі на беларускую мову рыхтаваўся Ю. Гаўруком для пастаноўкі ў Беларускім драматычным тэатры імя Я. Коласа.

**4703000000—045**
**Ш——————151—81**
**М 302(05)—82**

**ББК 84.4 Вл**
**И(Англ)**




ВИЛЬЯМ ШЕКСПИР

**АНТОНИЙ И КЛЕОПАТРА**

Трагедия

Минск,
издательство
«Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар
Н. І. Тулупава

Мастацкі рэдактар
В. П. Жыжэнка.

Тэхнічны рэдактар
Г. Г. Федарук

Карэктар
К. А. Крукоўская

ІБ № 1068

Здадзена ў набор 19.01.81. Падп. да друку 18.01.82. Фармат 70×108 1/16. Папера мелаваная. Гарнітура балтыка. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 17,50. Ум. фарб.-адб. 33,78. Ул.-выд. арк. 8,50. Тыраж 4000 экз. Зак. 1381. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

